# ЗЬМЕСТ.


Стар.

**Пятрусь Броўка**. Дайце новую музыку—*верш* . . . . . . . 3
„ Не выгінай свае далоні. . .—*верш* . . . . . . . —
„ Даўнейшае—*верш* . . . . . . . . . 4
**Янка Відук**. Затока ў буры—*аповесьць* . . . . . . . 5
**Рыгор Казак**. У падвячорку—*верш* . . . . . . . . 21
**Юрка Лявонны**. На вятры—*фрагмэнты* . . . . . . . 22
**Рыгор Казак**. Быльнег—*апавяданьне* . . . . . . . 25
**Арцём Вясёлы**. Вольніца—*апавяданьне* (пераклад з рас. Я. Відука) . . 32
**Янка Відук**. Галоп—*верш* . . . . . . . . . 38
**Апанас Атава**. Працоўнаму веку—*верш* . . . . . . . 39
„ Дорогаю—*верш* . . . . . . . . . 40
**Уладзімер Варава**. Начальства—*фэльетон* . . . . . . . 41
**Юрка Бітус**. Вухкаюць заводы—*верш* . . . . . . . 45
**Зьм. Сьнежка**. Удзяко Акіта—*крыт. нарыс* . . . . . . 46
**Удзяко Акіта**. Аб Японскім Леф'у—*нарыс* . . . . . . 48
**Паўлюк Шукайла**. Літаратурнае сёньня—*крытычны нарыс* . . . 50
„ „Пресвятая богородица, спаси нас"—*аб творчасьці Ул. Жылкі і Міколы Байкова* . . . . . . . . . 61
**Макар Шалай.** Паэты і пісьменьнікі Полаччыны—*крытычны нарыс* . . 66
**Б.—Б.** Вясновыя мэлёды—*рэцэнзія* . . . . . . . . 73
**Г. Ш.** Полымя № 1 за 1928 г.—*рэцэнзія* . . . . . . . 75
**Статут Беларускай Літаратурна—Мастацкай Камуны** . . 79

# РОСКВІТ

## ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ МАСТАЦТВА І КРЫТЫКІ

ВЫТВОРЧАСЬЦЬ
БЕЛАРУСКАЕ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАЕ КАМУНЫ

## № 2

САКАВІК—КРАСАВІК 1928 г.
МЕНСК




**Вядомы Японскі пісьменьнік Удзяко Акіта з групаю Беларускіх пісьменьнікаў:**
У верхнім радку з лева: 1. **Уладзімер Варава**, 2. **Паўлюк Шукайла**, 3. **Удзяко Акіта**, 4. **Макар Шалай**,
5. (з лева ў нізе) **Алесь Гародня**, 6. **Янка Відук.**

Пятрусь Броўка

## Дайце новую музыку!

Дайце:
новую музыку!
новыя струны!
і мэлёдыі дзіўныя дайце!
Я хачу:
каб замест паніхіды хаўтурнай
новы марш—
Беларусі іграць.

Я хачу:
песьні новыя скласьці,
ў словах шчасьця
забыўшы пра гора.
Я хачу:
на трактар ускласьці
і на вёску
завезьці горад.

Я хачу:
каб ў вясельлі вясёлым,
нас, бадзёрых,
сышлося там многа:
песьняй звонкаю
сыпаць над полем,
над імшарамі,
лесам і логам.

Дайце:
новую музыку!
новыя струны!
і мэлёдыі дзіўныя дайце!
Я хачу:
каб замест паніхіды хаўтурнай,
новы марш—
Беларусі іграць.

## Ня выгінай свае далоні

Ня выгінай
свае далоні
і пасмы кос
не раскідай,
калі ў садзе
цьвітуць півоні,
а ў ночы
сьветлякі гараць.
Ня выгінай
свае далоні!

І безнадзейны
погляд воч
ты ня кідай
дарэмна небу.
Хоць мо' на сэрца
села ноч,
але сьлёз,
роспачы ня трэба,
бо кожны
да жыцьця ахвоч.

Ну, што з таго,
калі ён здрадзіў,
калі другую
ўжо кахае...
Любоў ня йначай:
звонкі садзік
цьвіце,
красуе, ападае
і зноў
на нова расквітае.

Ты маладая,
ты прыгожа!
а у жыцьці шмат
розных зьмен...
Ты пакахаць 'шчэ
палка можаш,—
пабач,
як месячык плыве
па шэра-сіняй
дарозе...

# Даўнейшае

Гулка ў лесе
пракрычала сава...
ціха ўздрыгнулі
ля рэчкі асокі.
Месяц купае
свой твар бледнавокі,
шэпчацца ціха
ля бору трава...

Ціш-ш-а!..
ой, ціш-ша...
— Янка... то ты?
Я, дарагі мой...
— Ну, стань тут,
са мною:
сёньня на вёсцы
ізноў палякі.
Нашы схаваліся,
там за гарою,
бачыш?!
ці бачыш?!
вёска гарыць!!!
Полымя
водбліскі сыпле па полю,
зайцамі скача
па жытніх застрэхах...
Толькі засмужаны
шызы таполю,
з гора прыжмурыў
ліcьцьвяныя векі.
Крыкі ля хатак,
стогны... і енкі...

Янка!..
Сымоне!..
чуеш ты, бачыш?!
Бедныя вёскі... бедныя маткі,
бедныя,
бедныя,
бедныя людзі!
Маеш вінтоўку?
ці маеш зарады?!
Бах!.. зьвяк!..
бах!.. бах-х!
пок!.. пок!..
дзынь... дзынь...
Янка?!—
патрон ужо толькі адзін.
Янка, даруй!
Бывай, белы сьвет!..
І Янка патрон
скарыстаў на сабе...

Гулка ў лесе
пракрычала сава...
ціха ўздрыгнулі
ля рэчкі асокі.
І у кашлатых
сасён галавах
месяц купае
свой твар бледнавокі...
Шэпчацца ціха
ля бору трава...

г. Полацак, 1928 г.



**Янка Відук**

# Затока ў бурах

*Аповесьць*

## I

### Палыны і межы

Чэрвеньскае сонца ўзабралася на зэнітную вышыню. Жоўтае, расьпечанае аблівала смагаю прыдарожны бур'ян і межы. Разьлівалася пякуча-вострым вадаспадам, толькі сухім і бясшумным. Адтаго дарога была такая гарачая і такі горкі пыл. Трава каля дарогі—рыжая, жорсткая і таксама з наліпшым пластом пылу і смагі. Неба далёкае, сіняе, бяскрайнае і празрыстае; напружанае, як тысяча змоўклых струн, якія могуць узарвацца ад малюсенькага ўдару, каб агаласіць сваю грозную нарыхтаванасьць, ды пасьля яшчэ больш замоўкнуць у грознасьці.

Гарачыня. Сочыцца пот. Капае на распалены пясок і высыхае. А дарога пыліцца і горкне. Пыл з гарачынёю залазіць пад кашулю, за каўнер. Ліпне да цела і млявіць істоту. Хочацца сказаць адзінае слова, у якім шукаеш ратунку і сіл—„піць!". Тады зноў робіцца лягчэй, каб яшчэ горш пасьля адчуваць цяжкасьць.

А людзі адчуваюць сябе цяжкімі. А вакол сябе гарачы пясок і горкае паветра. Яны:—

едуць, ідуць, праводзяць, падвозяць: з клумкамі, куфэркамі, сьлязамі, горам і бутэлькамі ў кішэні з чырвонымі засургучаванымі рыльцамі.

Ідуць, едуць, вясёлыя, з заліхвацкімі песьнямі, перакінутымі за плечы ботамі і лапцямі, затлушчанымі блiскучымі валасамі, п'янымі вачыма, дзе многа: і роспачы, і гора, і безадказнае буйнасьці; дзе многа: маўклівае ўпартасьці і ўпартае тупасьці; дзе з'асерадкавана: нічога і ўсё.

Капае пот і высыхае на пяску. Вырываецца песьня, парваная, як апошні ўсхліп пранізанага сэрца і засыхае на паветры:—

„Пасьледні ноняшні дзянёчак
Гуляю з вамі я, друзья-а.
А заўтра рана, чуць сьвяточак
Заплача ўся мая сам'я-а-а..."

— Ігнат, чаго насупіўся? Заўдавеў, га? Пакінуў сваю кралю? Кхэ! Нічога, браток, яна сумаваць ня будзе—памагай!

— Не! Ён так гэта. Матка яго не благаславіла. Кінь яго—пройдзе. Весел хутка стане. Пратрэплецца... Бо сёньня-ж наш апошні вясёлы дзянёчак, а тады—каюк!

— Правільна!

— Правільна!

— Дуй!

— Запявай!

„...Заплачуць брацьця мае й сёстры,
Заплачуць маць мая й ацец..."

— Гэй, Ігнат! Якуш! Слухайце! От што слухайце! Гэта па душы вам! Па нутру!—

„...Яшчэ заплача дарагая,
З каторай тры гады гуляў..."

Гэта песьня. Гэта кавалкі будняў у закасьцянелай радасьці. Гэта кавалкі расьсечанага змучанага мяса, у якім была душа.

А яны ідуць, едуць. Мерна адграбаюць дарогу. Месяць гарачы пясок, каб можа больш ня цалаваць радзімы і плакаць аб ёй.

Між буйнасьці ёсьць і цішыня. Яна больш мае ў сабе гулкага, больш глыбокага і больш неабдымнага. І гэтая гулкая цішыня захавана тут-жа, між іх, між тых, якія маўчаць, якія панура апускаюць га-

ловы на калені ў драбінках, ці перабіраюць прыдарожны бур'ян у памяці, каб забыцца, што гэты бур'ян на іх межах. Яны маўчаць, бо ім няма чаго гаварыць, бо яны: —

праводзяць сыноў сваіх і братоў, сваякоў сваіх і блізкіх, праводзяць радасьць сваю, каб заставацца з горам і сьлязамі.

Праводзяць—
навабранцаў.

Горкне пыл. Вар'яцее сонца ў сьпякоце. Надрываюцца выкрыкі і песьня. Мнецца дарога і людзі. На пясок падаюць пот і вочы.

Горад дыхаў растопленым, з волавам і пылам, паветрам. Пацелі жарам сьцены, высыхалі гноем вуліцы і чокала падэшвамі панэль.

Хадзілі людзі. Насілі вочы і смак, каб бачыць і адчуваць дзень. Насілі з сабою радасьць і стомленасьць, каб знаць, што яшчэ вар'яцее сонца і далёкае, сіняе неба, напружанае ад гарачыні—разрастаецца.

Брук грымеў калёсамі і падковамі. Вуліцы зьвінелі галасамі і п'янкаю. Горад прысутуліўся ад навізны і чакаў, каб зрабіць адчайны скачок у радасьць, дзе людзі сьмяюцца і сьпяваюць толькі таму, што ня могуць, ня ўмеюць плакаць. Горад чакаў, каб падлавіць голас з нутра і тады эдказаць нутром. Але трусіў. Маўчаў мураванымі камяніцамі. Толькі вуліцы адбівалі тахту калёс і ног, якія цягнуліся з клумкамі, куфэркамі, ботамі, лапцямі; адны, з праваджатымі, бяз сьлёз і з плачам, з сьлязамі і буйнасьцю, п'яныя і цьвярозыя, каханыя і забытыя—на станцыю.

Горад стаў апускацца ў вечар. Але яшчэ высокае сонца. Яшчэ горкі пыл і ліпкі пот. Яшчэ гарачая і гулкая станцыя з сваім пахам конскага гною і мачы, чалавечага натаўпу і ботаў, жаночых і дзявочых сьлёз, мужчынскіх—апошніх ласак і губ.

На бруку валяюцца кавалкі затлушчанае паперы, абрыўкі падгноеных ануч, палоскі саломы, пачарнелыя трэскі, а паверх усяго:—апошняя гарачыня і цені запрэжаных і адпрэжаных коняй і ног.

Перасоўваюцца ў сыканьні цягнікі. Перабягаюць служакі. Пераклікаюцца сьвісткі, удараючыся ў натаўп: бязмозглы, тупы і разьяраны, дзе многа нясказанага ў сэрцах і— нічога няма.

Коні матаюць хвастамі і тупаюць. У натаўпе:—

„Пасьледні нонявшні дзянёчак"...

Пасьля сьмех, рогат і плач.

— Браткі! Браткі! Кіньце! Я не хачу! Ня трэба мне! Нашто мне песьня, калі ад мяне адабралі душу, раcпаролі яе, як анучу, каб пасьля вераб'ёў пужаць ёю! Ваяваць?! Нашто? Калечыць сябе і сіраціць дзяцей? Забіваць другіх, каб не знайсьці сябе? Не асушаць сьлёзы, а праліваць кроў? Эй, жонка! Насьця! Насьця мая! Я не хачу, каб ты плакала, каб прападала гаспадарка! Насьцечка... Сволачы! Абармоты! Я не хачу піць! Не хачу... Насьця!..

Ён шапкаю схаваў вочы. Галаву апусьціў у калені. Ён п'яны. Ён хворы. Ён плакаў, а над ім сьмяяліся:

— Вып'ем!
— Вып'ем!
— Каб хатнія ня журыліся!
— За дзяўчат!
— За песьню!

І песьня рванулася. Білася аб сьцены. Тармашыла натаўп. Падала на брук і мяшалася з гноем і сьмецьцем.

І ўвесь гэты натаўп: пяяў, плакаў, цалаваўся, лаяўся і маўчаў.

Цягнік нарыхтаваўся. Засыкаў жалезнаю зяпаю і чорнымі бакамі. Тады трывожнейшымі зрабіліся людзі. Як-бы яны чакалі ад гэтае жалезнае чорнае аграмадзіны таго, што можа адразу вырашыць нейкую нявыразнасьць іх чаканьняў. Нібы прыціхшэлі. Толькі залівістыя галасы матак і баб былі няўхільнымі супярэчнікамі вырашэньня гэтае выразнасьці. Яны падалі на шыі, высыпалі буйнымі кроплямі сьлёзы і прычыталі:

— А дзетачкі-і-і-ж мае-е-э. А мой-жа ты ро-о-одненькі-і-і-й. А на каго-ж ты мяне пакіда-а-е-э-ш. А каго-ж я буду дагляда-а-а-ць. А каго-ж я буду з полейка сустрака а-а-ць. О-о-о-о-ой. А ці-ж яшчэ прыдзеш да мяне-е-е-э. А ці-ж вернешся-я-а-а. А ці-ж дачакаюся-я-я-а. Ды без цябе-ж полейкі пазарастаю-у-у-уць. Ды без цябе-ж вішанькі пазасыхаю-у-у-уць. О-о-о-о-ой...

І такі бясконцы плач, як бясконцае матчына гора. Ім нельга ня плакаць. Чалавек мае глыбіню, і гэтая глыбіня сочыцца ў сьлёзы, каб яшчэ глыбейшай зрабіць душу, каб яшчэ больш шкадаваць жыцьця ў яго мізэрнасьці.

А бацькі шапкамі прыкладаліся да воч, чырвоных і вадзяных, што схаваныя пад мохам броў:—

— Бывай, сынок. Можа больш ня ўбачымся. Не памінай ліхам, калі дзе што было. Нябаўся—напішы. Можа бог заступіцца... мо' вернешся. Не забывай бацькі...

Шапка коўзалася ля чырвоных вадзяных воч, а губы трэсьліся і крывіліся ў горнасьці.

Замірала апошнімі галасамі буйнасьць і надрывалася апошнім хмелем песьня:—

„Пасьледні ноняшні дзянёчак
Гуляю з вамі я, друзья...“

Між буйнасьці ёсьць і цішыня. Яна больш мае ў сабе гулкага, больш глыбокага і неабдымнага. Гэтая цішыня і тут была, між тых, што ня страцілі гора, каб ня страціць і сябе. Яна няпрыкметная, хоць блізкая, прыгожая, хоць глыбокая і непразрыстая:—

— Ня плач-жа, любая, ня плач. Хіба паможаш гэтым? Дасьць бог гэта скора скончыцца—месяцы два-тры—і я буду дома.

— Ня верыцца нешта гэта мне, Андрэйка. Сэрца нешта нядобрае чуе. Можа заб'юць цябе,—загінеш—што-ж тады буду рабіць?

— Не заб'юць, Алеська. Гэта-ж невядома. А ты от не гаруй. А то й сама зачахнеш. Жыві памаленьку. Прадасі парсючка, тады дакрыеш гумно можа. Хату-ж я кончыў, абшаляваў. Толькі от Міхаську дагляай. Шкадуй яго. Пашлеш у школку ўвосень.

— Не магу, Андрэйка. Ня ведаю, як жыць буду без цябе. Нашто вайна гэтая? Нашто? За каго? Каму патрэбна гэтая вайна? Кроў гэтая?

— Гэтага ня ведаю. Усе йдуць. За цара і бацькаўшчыну, кажуць. Раtаваць Расею...

Цягнік здрыгануўся. Сыгнал. Натўп зарушыўся. Загудзеў. Рвануўся і застыў ля жалезнае аграмадзіны.

— Ня плач, Алеська. Ня сумуй. Дасьць бог—жыў буду і вярнуся.

Сьціскаліся ў дрыжыках пальцы. Надрываліся акрываўленыя сэрцы. Смаглі падсохлыя губы. Заплывалі вочы сьлязамі і роспаччу.

— Бывай! Вярнуся!

— Пастой! Пастой! Андрэй! Ох-ха-ха-ха-а-а...

Працягнутыя рукі апусьціліся. Пастаць прытулілася да драбінак. Вялая. Гнуткая. Яна ўся калацілася ў рыданьнях. Тамілася. Надрывалася. Упала на калёсы ў далоні, каб захаваць у іх вочы і гора.

На бруку валяліся кавалкі затлушчанае паперы, абрыўкі падгноеныхануч, палоскі саломы, пачарнелыя трэскі, конскі гной і рыжая мача, а паверх лажыўся вечар і цішыня, разьбітая конскімі падковамі.

## II

## Ціхі крык

Прыціхла вёска. Аўдавела. Вечары сталі маўклівымі і кароткімі. Вуліца—задумёнаю і доўгаю. Дзяўчаты выходзілі на прызбы. Зьбіраліся. Акуналіся ў шопат і сьмех і зьнікалі. Уздыхалі прысады і старыкі. Плакалі салдаткі і мацеркі. Скрыпелі калодзежы і вароты. Брахалі пляткаркі й сабакі. Зьбіраліся гуртамі і чыталі надасланыя лісты

ад салдатаў. Чакалі канца вайны, ня ведаючы, дзе будзе пачатак яе.

Тады многа гаманілі і ўздыхалі. Чухалі за каўнярамі і расходзіліся, каб яшчэ больш чухацца і больш уздыхаць пасьля.

На сенажаці званілі косы і махаліся касцы. І салдаткі з косамі заззналіся. Касілі і чакалі мужоў на згрэбіны.

— Ганна, твой нічога ня піша?

— Пазаўчора атрымала. Вайна, піша, вялікая. Наўрад ці скора вернецца. На пазыцыю адсылаюць. Ці жыў будзе толькі...

— А мой даўно ўжо пісаў. Можа дзе ўжо куля пранізала і вароны вочы выклявалі-і-і...

— Ну, от хіба. Ня плач. Хіба-ж адна ты. Вунь Марціна Гуляша дык, кажа, гарматаю на кавалкі разарвала. Але-ж можа бог дасьць вернуцца нашы...

І сьлёзы ў абедзьвюх капалі на прыпол, мяшаючыся з пахам завялае травы.

Алеся звазіла снапы, прыбрала сена; яна папрасіла свайго дзядзьку Амельку. Той памог і нават накалаціў кулёў, каб дакрыць гумно. Спачуваў, і часта, калі Алесі станавілася неўмагату—супакойваў:

— Не гаруй. Дасьць бог—вернецца. А ты гаспадаркі не апусьціш—дапамагу. Трэба будзе толькі хлявушок на зіму дагледзіць. Засеяцца памагу як-небудзь.

— Дзякаваць, дзядзечка. Да сьмерці не забуду твае дабраты. Так і Андрэю напішу, што дапамагаеш.

— Напішы, напішы. І ад мяне напішы. Скажы, што здароў і яго чакаю. Хоць і цяжка, але яшчэ бяруся. Ну, а от ужо й вечарэе. Упраўляйся каля хаты ды адпачывай. Бывай здарова.

— Хадзеце здаровы, дзядзечка.

Перасоўваючы ногі, пашла мяшаць сьвіньням. Прышлі каровы. Даіла. Дагледзіла каняку. І, калі вечар падкраўся з агародаў,—пашла дахаты.

Мамка, а я ўжо й агонь запаліў.

— Добра, сынок.

— А ты ўжо нікуды ня пойдзеш?

— Не, сынок, зараз спаць трэба.

— А чаму дзед Амелька ня прышоў?

— Ён дахаты пашоў. Спаць будзе таксама.

— Спаць?

— Ага.

— А мы вячэраць будзем?

— Будзем, а як-жа.

Яна пачала прыбіраць стол. Пасьля пачула, як маленькія, мяккія пальчыкі ўзялі яе за руку. Сьветлыя вочкі глядзелі на яе і запыталіся:

— А дзе наш татка начуе?

Вочкі глядзелі. Прасілі, каб адказала. Але што магла сказаць яна таму, хто ня ведае яшчэ гэтых крывавых законаў гісторыі чалавечага вар'яцтва. Памаўчала. Ашчаперыла. Пацалавала ў лоб і пашла да печы. А сьветлыя вочкі глядзелі, пыталіся, каб нічога не пачуць у адказ.

Палажыла спаць. Накрыла. Хацела адыйсьці. Але забылася. Рука ўпала на прыпол і застыла. Вочы ўпёрліся ў пасьцель і запуталіся ў русых валасках.

Тады доўга стаяла так: высокая, схудалая і ціхая. Туга апускаліся скроні. Моўчкі зьвінела ноч. Сіпла дагарала лямпа і падала цішыня.

Андрэй пісаў:

*„Добрага дня, дарагая Алеся. Сьпяшаю паведаміць цябе, што я пакуль што жывы й здаровы, чаго й табе жадаю. Загналі нас вельмі далёка, і вельмі трудна жывецца нам. Цяпер нас абучаюць. Ганяюць з цёмнага да цёмнага. Вучаць, як страляць і абараняцца. Калі ня ведаеш, дык б'юць і саджаюць на адседку. Надоечы аднаго з нашага ўзводу афіцэр так сьцебануў палкаю, што аж кроў пашла ў таго. А яшчэ горш, калі ня ведаеш славеснасьці, гэта—як аддаваць начальству чэсьць.*

*Я ўжо крыху зразумеў. Цяпер стала лягчэй. Мусіць, зараз пашлюць на пазыцыю. Ты ня плач. Калі*

сама ў гаспадарцы ня ўправішся— папрасі каго каб памог. Можа дзядзька Амелька не адмовіцца. Некалі аддзякуем. Сама сябе шкадуй. А яшчэ больш Міхаську. Аддай у школку—будзе разумнейшым.

Цялушку прадай, а на зіму купі сабе валёнкі. З выробленых аўчын пашый кажух. Калі будуць грошы— устаў у пярэгарадку дзьверы—няхай будзе чысьцейшай палавінай.

Больш пісаць, дарагая Алеська, няма чаго. Вельмі толькі нуджу па табе. Няма ладу што аддаў-бы, каб хоць разок пабачыць цябе й Міхаську. Ты яго шануй. Перадай паклоны ўсім родным: дзядзьку Амельку, дзядзьку Марціну, Аўдоці, Тэклі, швагрусю Рыгору, Апанасу і ўсім родным і знаёмым. Амельку папрасі, каб памагаў табе. Нават няхай-бы ён перайшоў да нас жыць, каб табе ня боязна было.

Жыві здарова. Многа разоў цалую цябе. Твой

**Андрэй".**

Праз чатыры месяцы Андрэй пісаў:

„Добрага здароўя, дарагая Алеська. У першых радкох свайго ліста сьпяшаю паведаміць цябе, што я, богу дзякаваць, жывы і здаровы, чаго й табе жадаю. Некалі я табе пісаў, што нам вельмі трудна жывецца, і гэта праўда. Начальства вельмі злоснае і бязьлітаснае. Праз гэта от і мне трэба мучыцца. Ты ня пужайся, дарагая Алеська, але гэта я табе пішу з шпіталю, бо захварэў на запаленьне лёгкіх. Хвароба не цяжкая, зараз пройдзе, бо я ўжо даўно ляжу. Захварэў я ад таго, што прастудзіўся, калі адбываў кару на марозе. А кару адбываў за тое, што не аддаў чэсьці палкоўніку і ня выканаў даручэньня. Тады мяне паставілі пад ранец на дзьве гадзіны. Апрача гэтага, мяне яшчэ білі і ганялі. Ад таго і захварэў.

Ня плач, любачка. Калі папраўлюся і не пашлюць на фронт, дык можа прыду на пабыўку. У шпіталі сёстры даглядаюць ніштавата. Адна дык мяне вельмі шкадуе і шмат чаго мне гаманіла, чаго я да гэтага часу й ня ведаў. Таксама і салдаты ёсьць добрыя, нават вельмі разумныя.

Напішы мне, як ухадзілася з збажыною. Ці добры ўмалот і ці маеш дровы. Напішы, як сама жывеш і як вучыцца Міхаська. Больш пісаць няма чаго. Нуджу па табе. На днях бачыў у сьне. Здаецца, тройца была. Мы былі на кірмашы. Калі адяжджалі, дык цьвілі сады, а калі прыехалі дахаты, дык на яблынях віселі сьпелыя яблыкі, і нябожчык дзед гарадзіў плот. Пасьля насупіліся хмары і пашоў вялізны дождж. Калі сьціхла навальніца, дык у садзе стаяла белая драўляная царква, а адтуль выносілі нябожчыка. Калі я зірнуў у твар гэтага нябожчыка, дык аж дыхаць мне зрабілася цяжка; здранцьвелі рукі й ногі і як-бы мяне закавалі ў жалеза. Хацеў крычаць, але ня мог, бо ў труне ляжала ты. Прачнуўся зьнямогшыся і ўпацеўшы. Дактары трымалі мяне і нешта рабілі са мною, а я рваўся і крычаў. Тады я доўга думаў аб табе, каб з табою нічога дрэннага ня здарылася. Увесь час ты перада мною ляжала белаю, з зачыненымі вачыма і скрыжаванымі рукамі ў труне. Ты мне хутчэй напішы, ці здарова. Сьцеражыся, каб не захварэць. Аддай паклоны ўсім родным і знаёмым: дзядзьку Амельку, Марціну, Аўдоці. Тэклі, Рыгору, Апанасу і ўсім. Чакай мяне, як папраўлюся.

Тысячу разоў цалую цябе, хоць завочна. Твой

**Андрэй".**

Доўга плакала Алеся атрымаўшы гэты ліст. Здавалася: там Андрэй ужо можа памёр да гэтага часу. А што значыць гэты сон? Не на добрае ён варожыць. І яна хадзіла нібы сонная, нібы разьбітая, шукаючы разгадкі таемнасьці сну. Работа валілася з рук. Сэрца ныла, а вочы сьлязіліся і разрывалася душа.

Што з табою, Алеська? Чаго ты так асунулася за апошні час? Хіба з Андрэем што здарылася?

— Ня пытай, Аўдолька, хворы ён у мяне—у шпіталі ляжыць. Сон дрэнны бачыў. Ці выздаравее толькі.

— А то-ж, што-ж ты думаеш—гінуць людзі, як мурашкі і няма ладу за што. На чорта гэтая вайна? Каму яна патрэбна? Гэта нейкая кара гасподняя. Мой-жа таксама трэці тыдзень як ня піша...

— Успомню, дык аж сэрца разрываецца—хаця-б, здаецца, на адну хвілінку паглядзець... Так і пабегла-б... А тут у гаспадарцы цяжка адной...

— Ну, нічога, Алеська. Сьлязамі гору не паможаш. Я-ж от таксама прышла, каб ты напісала майму ліст. Напішы ўжо—сама знаеш як...

За вакном скавытала зіма. Рыпела марозам вуліца і асядала ноч.

Праз два тыдні, калі Алеся паліла ў печы, — на парозе стала шэрая шынэль. Рука прычыняла дзьверы, а вочы глядзелі на Алесю і рассыпалі радасьць, якая гаварыла аб хвілёва знойдзеным шчасьці.

— Здарова, Алеся!

Яна глядзела на шынэль. Вілкі выпалі з рук. Хацела кінуцца ў хвілёвасьці насустрач, але ўтрымалася— не Андрэй. Сэрца праткнула нейкая жыгучка, але саўладала.

— Арцём! Адкуль ты?

— Я? Ды на пабыўку. На пару тыдняў адпусьцілі, дык от зайшоў і ды цябе.

— Дзякую, Арцёмка, дзякую. Ну, як-жа... А даўно?

— Ды ўчора ўвечары. Прывітаньне табе ад Андрэя—мы-ж з ім у адной часьці служым.

— У адной часьці? Ну, дык як-жа ён? Ці выздаравеў? Ці прыдзе-ж ён?

Рукі ўхапіліся за шынэль. Голас падняты, а вочы нізалі і прасілі, каб расказаў усё-усё пра Андрэя: разам, засаб, да дробязі.

— Андрэй? Ды ён даўно ўжо папраівіўся. Здароў. Жыве, як і ўсе. Нават ліст табе недзе прыслаў.

— Ліст?.. Здароў, кажаш?.. Праўда?.. А я думала, каб не памёр ужо хаця. Вельмі-ж неяк сэрца ныла. Проста, аж жыць ня міла рабілася... А тут гэтыя бабы яшчэ сноў розных наталкуюць...

— Жыў. Ад сноў не паміраюць... На, чытай от.

Рука выцягнула з-за пазухі пажмаканы кувэрт.

Тады абое былі вясёлыя.

Вочы бегалі па лісту, глыналі радкі, каб хутчэй праглынуць і радасьцю тую, што стараюцца не забыць.

Пасьля скончыла. Гаварыла. Пыталася як жывецца, ці занудзіў бяз дому, ці скончыцца вайна і ці хутка на пабыўку прыдзе Андрэй.

Алеся прыехала з млына. Стомленая. Надарваная. Дзякавала, што мужчыны там памаглі, а то мяхі цяжкія, а сіла слабая.

Адпрэгла каня. Дагледзіла жывёлу і села палуднаваць. На дварэ была адліга і капала з стрэх. Кроплі выбівалі ямачкі ля прызбы і пырскаліся мяккасьцю. Тады весялей неяк стала. Думалася: вясна зараз прыдзе. Будзе хораша. На вуліцы будуць дзяўчаты і сьмех. За агародамі будзе пахнуць трава і вільгаць, а на пабыўку прыдзе Андрэй—той самы: румяны і здаровы, малады і палкі, як сама вясна. Яна будзе шкадаваць яго, лашчыць і растварацца ў яго ўладнасьці, каб больш адчуваць яго і выразьней бачыць вясну.

Глыбока задумалася. Бачыла Андрэя і сьмяялася яму. Слухала вуліцу і сьвяточныя песьні. Адчувала шчасьце і радасьць вялікую, як смага, і звонкую, як песьня.

Бразнулі дзьверы. Разьбіліся думкі. Зьвякнула сэрца і расплылося, як гэтыя ціхія крокі ў трывозе і чаканьні.

На кувэрце стаяла чырвоная пячатка з крыжам. Унізе нейкі нумар і невядомы почарк.

Літары перабягалі і трэсьліся, як рукі. Пячатка вылучалася грознай, ясна-зразумелай і таемнай плямай. Кідаліся ў вочы, вырывала іх і залазіла ў мазгі, расьпіраючы іх нейкім вар'яцкім крыкам і абліваючы памяць крывёю.

Нейкае грознае, вялікае, як роспач і бязьлітаснае, як прысуд, прадчуваньне сьвідравала сьвядомасьць і паліла нутро.

— Ня можа быць!.. Гэтага ня можа быць! Ён здаровы! Ён прыдзе на пабыўку, да мяне, да нашае вясны! Гэта быў крык.

І літары, надрукаваныя на машынцы чырвонымі радкамі, таксама няўхільна і бязьлітасна крычалі, глушачы быцьцё і прагнасьць:

*„Палкавы шпіталь з спачуваньнем паведамляе Вас аб дачаснай сьмерці на баявой варце за веру, цара і бацькаўшчыну Вашага мужа, Андрэя Крывіцкага.*

*Вечная памяць гэрою!*

*Начальнік шпіталю 114 Вірэйскага пяхотнага палка.*

4-III—15 г.". (—)

Яна не гаварыла ўжо: „Гэтага ня можа быць". Гэта было ясна і неадменна ў непераможнай грознасьці. Вочы вырываліся. Падалі на чырвоныя выразныя кропкі. Праглыналі іх, каб яшчэ больш, да дна, праглынуць і бяскрайнасьць гора. Пасьля вочы заплылі салонаю вадкасьцю, а цела ўпала на рукі, прыхілілася да сьцяны і закалацілася.

На дварэ была адліга і капала з стрэх. Званіла вясна. Кроплі выбівалі ямачкі ля прызбы і пырскал ся мяккасьцю. Сачыліся буйныя сьлёзы і падалі на прыпол.

Поруч стаяла постаць—шукала матчыных рук, каб цалаваць іх, каб разам плакаць.

## III

## Пачынае марасіць

А вясна прышла ўсё-такі.

Такая самая, як і шмат гадоў назад і заўсёды: звонкая, кучаравая, мяккая. На лузе пахла зеленьню, а на полі ральлёю. Вёска ўвазбралася ў сухую вуліцу і каштаньнік. Дзяўчаты ў лёгкія сукенкі і песьні. Старыкі ў босыя ногі і кашулі з жычкамі. Пляткаркі ў языкі. Салдаткі—у чаканьне мужоў і хвартухі. Жывёла ў маладую і зялёную пашу.

І Алеся спаткала вясну.

Спакойнасьцю і бляднотаю на твары. Павагаю ў постаці і рухах. Глыбінёю і захаванасьцю ў душы.

Яна гарала, засявала, а Міхаська качаў кацёлку, праганяў курэй з агародаў і сустракаў яе, каб адвесьці на ўзьмежкі каня, а пасьля лашчыцца ля яе і засыпаць у яе гарачыні, пад тонкі звон ночы.

А пасьля, калі адзьвінела вясна і высахла вуліца—дарогі сталі гарачымі, пыл горкім і шырокім у гарачыні сонца. Яна ўзьбіралася на зэнітную вышыню і адтуль разьлівалася смагаю на прыдарожны бур'ян і межы. Сьцякала гарачым вадаспадам: пякуча-вострым і бясшумным. Адтаго такімі ціхімі сталі палеткі: жоўтымі, з пахілымі каласамі і блескучай саломай, жанкі хадзілі да каваля, зубілі сярпы, а мужчыны ўсьцілалі заперы і зьвінелі косамі, каб сустракаць расу.

Алеся не адставала. На сенажаці мужчыны, махаючы мянташкамі, прыгуквалі:

— Алеся!

— А што?

— Ды ты, брат, на сапраўднага касца вышла, з табою і стары Марцін ня сыйдзецца.

— Ды ты й сам яшчэ папробуй сыйсьціся. Нябось, ня возьмешся!—крычалі другія.

— Гэт! Дык што я? Я, можна сказаць, ужо старават, от ты, Ігнат, паднапніся.

— Ды ўсе вы аднаго спрыту. Ніхто от і не адважыцца,—закідала Алеся.

— А ўжо-ж давай! А ну, Пракоп, адступіся!

Засьвісталі косы і зашаптала трава.

— Эй, не, дзядзька, дык што-ж ты стаў на Пракопавым шнуры, ты от на мой хадзі.

— Што?

— На мой, кажу, шнур станавіся, што-ж ты там будзеш упінацца!

Мужчыны зарагаталі.

— От хітрая баба,—хоча, каб ёй памаглі ў касьбе, хе-хе-хе.

— Ах ты, лісіца. Ну, давай на тваім стану.

Ізноў засьвісталі косы і заматаліся рукі. Пракосы кладліся нашыўкамі на поплаве, а з боку крычалі:

— Адстаеш, адстаеш, Ігнат. Эй, брыдка,—бабе паддаўся.

— Не паддамся,—вазьму!—і Ігнат, прыгінаючыся, уядаўся ў пракос.

— Ага, брат, прыстала ўжо!?

Алеся стаяла. Усьпёршыся на касьсё, абцірала пот. Грудзі высока падымаліся, а на лоб налазілі пасмы валасоў. Хацела сьмяяцца, але задыхалася і апусьціла руку.

— Няхай на тваім будзе, дзядзька,—не магу, утамілася.

— Ага, брат,—слабенькая. Здалася... Ну, а цяпер—адпачнём. Нясеце, мужчыны, закурыць ды давайце пасватаем Алесі добрага жаніха,—няхай тады бярэ ў работу. Яна баба спрытная.

— Спрытная, то спрытная, але-ж ты ўжо старават, а бракуса яна не захоча.

— А можа і захоча, што-ж ты ведаеш?

— Не, браток, не захоча. Алеся, ці згодзішся ты за Ігната замуж выйсьці—а?

— А ўжо-ж, калі ў яго новы гуз на ілбу вырасьце, то згаджуся.

Мужчыны рагаталі. Косы гралі бляскам. Сонца карабкалася сваімі рыжымі хадулямі на поўдзень, каб пасьля апасьці і схавацца за лес.

Калі надыходзіла бура і Алеся ўвіхалася зьвезьці апошнія копы з Мурожнага—на прыгуменьні зашамалі ногі.

— Памагай бог, Алеся!

— Дзякаваць. Тут-бы от ты лепш памог, бо на бога як сашлешся, дык і сена замокне.

— Ну, то давай і памагу,—думаеш я ўжо такі гультай.

— А калі памагаеш, то лезь хутчэй на тарпу.

— Не, дык ты на тарпу лезь, а я буду падаваць.

— Няма чаго дурыць. Калі ўзяўся, дык і рабі, што сказана.

Пракоп пачухаў за пазухай. „От упартая баба"—і пачаў узьбірацца на сена. А калі апаражнілі воз—уперся ў яе вачыма і сказаў:

— Трудна табе, Алеся.

Праз тыдзень, калі на вуліцы гуляў у жмуркі халадневаты вечар, а над сталом журылася лямпа і калі Алеся зьбіралася ўкладаць Міхаська—ціха ўвайшоў Бабырка Пракоп. Ён доўга сядзеў над сталом, скрабучы вачыма хваёвыя дошкі, а пасьля зірнуў на свае кіпці.

— Трудна табе, Алеся.

— Трудна, Пракопка, але што-ж ты зробіш.

— Ото-ж бо-то й ёсьць, што можна што зрабіць.

Алеся зірнула на яго наддалёк. Нібы з усьмешкай, нібы з запытаньнем.

— А што гэта такое?

— Ну, то ўкладай малога, ды падыходзь сюды, дый сядзь.

— Ну?

Пракоп уперся ў яе шэрымі вачыма і пляскатым носам.

— Замуж табе трэба выйсьці!

— Ну-у, што ты, Пракоп, хто-ж мяне возьме... Дый не хачу я—нашто.

— Хто возьме? Я вазьму! Я даўно ўжо цябе неяк люблю здалёк. Давай, Алеся.

Астатнія словы дадаў ціха, крадучыся.

— Што ты, Пракопка, не хачу я. Нашто? Пакуль што пражыву, а там—пабачым. Пачакай, Пракопка, падумаю яшчэ.

Пракоп доўга маўчаў. Глядзеў на кіпці і калупаў стол.

— Ну, што-ж—воля твая. Я гэта не да сьмеху кажу.

Разьвітаўся і пашоў у ноч.

**Н**а вуліцы трапятаўся дажджлівы адвячорак. Падаў змрок і мяшаўся з гразёю і восеньню. Асыпаліся апошнія лісты каштаньніку. Прынікшы да халоднае зямлі, цалавалі яе і застывалі.

Мітусілася імгла. Булькалі кроплі з стрэх і рассыпаліся звонам у пырсках. Хаты аселі. Прыціхлі, апускаючы векі вокан і вакеніц.

Пасьля вуліца скаланулася. Захлюпала гразь і змрок. Разарвалася цішыня шынэлямі і галасамі. Тпрукалі, нокалі і бразгалі жалезам. Ішлі, суніmаліся і ішлі. Разьбягаліся па хатах. Заяжджалі на двары: адпрагалі і лаяліся. Запахла абуткам і потам забруднелых цел; гоманам і сьмехам салдацкае вухаршчыны.

**Л**япнулі дзьверы. Зачмокалі падэшвы і заварушыліся вусы.

— Гэта вы гаспадыня?

Алеся аглядзела шынэль і папругу. Пасьля вочы пераскочылі на кукарду і пляскаты твар з чырвоным носам і мылкімі вачамі. А вусы варушыліся і паказвалі падгніўшыя і пагубленыя зубы.

— Я.

— Адна жывяцё?

— А для чаго гэта?

— На гэтую ноч трэба зьняць кватэру: чыстую і аддзельную, каб там ня было парасят і курэй. У вас, здаецца, ёсьць другая палавіна?

— Ёсьць, але там сыравата.

— Нічога—прапалім.

Шынэль мільганула за дзьверы ў другую палавіну хаты. Запаліла запалку і аблізала вачыма падлогу і сьцены. Памацала ложак.

— Нічога-добра. Толькі прыбярэце адтуль усе свае даматкі і кубэлец. Прапалеце ўпечы і запалеце лямпу.

Бразнуў дзьвярыма і зьнік.

**Г**эта тут?

— Так точна, вашвыскбродзь! Тут маецца чысты і добры пакой. Няма парасят і курэй. К таму-ж ёсьць падлога і дзьверы.

— Ага. Добра. Унось і складай рэчы. Павесь дыван і разлажы ложак!

— Ложак ёсьць гатовы, вашвыскбродзь!

— Ну, добра... А гэта гаспадыня? Гэта вы гаспадыня хаты?

— Я,—нясьмела адказала Алеся. Глядзела з-пад броў.

Палкоўнік нагла аблізаў зіркам постаць і з усьмешкай схаваўся за дзьвярыма.

**Н**а лавах і ўслонах параскідаліся дарагія рэчы. На сьценах павісла зброя і скураная торбачка. Высокі, голены, з лысінай, гарбаватым носам, тугімі губамі і бліскучымі ботамі палкоўнік крочыў па падлозе. Навісьлі шэрыя густыя бровы. Рукі сашчапілі пальцы і прыціснулі жывот. Тонкі мундзір сьціскаў стан і плечы.

Сеў. Разьвярнуў нейкія паперы. Думаў. Варочаўся. Доўга. Пасьля падняў галаву:

— Паважаная гаспадыня,—на адну хвілінку!

— Чаго хацелі?

— Ага.. Нічога... Прыгатаваць да вячэры сёе-тое ці можна будзе?.. Сядайце.

— А чаму-ж не—можна.

— Дык чакайце-ж—сядайце.

Баязьліва Алеся прысела ля краю стала.

— Вось так. Хіба-ж я такі страшны, каб мяне людзі баяліся—хэ-хэ... Дык ваш муж, кажаце, прапаў у салдатах? Шкода, вельмі шкода... І вы цяпер адна жывяцё?

— Адна, як бачыце.

— Ну, гэта нічога—вы яшчэ маладая, ды к таму-ж прыгожая; мабыць, маеце палюбоўніка?

Устаў. Бліскучыя боты затопалі па падлозе, а пальцы скакалі па гузіку мундзіра.

— Піліпенка!

— Што загадаеце, вашвыскбродзь?

— Якая гадзіна?

— Адзінаццатая, вашвыскбродзь!

— Можаш дагледзіць коняй і ісьці на вечарынку.

— Слухаю!

Тады шыбчэй захадзіў, дрыгаючы корпусам і залажыўшы назад рукі. Кусаў тонкія, бяз колеру, губы і кідаў мялькамі тлустыя вочы.

— Ня маеце, кажаце? Ну, гэта ўжо сьціпласьць. Ня можаце-ж вы быць такою красуняю і разам з тым манашкаю.

— Гэта вы толькі так гаворыце. Я сама сябе добра ведаю і знаю да чаго гэтая гутарка.

— О, не! Ня думайце так многа дрэннага. Гэта ўжо само за сябе кажа, што вы не такая сьціплая, якою хочаце рабіцца. Вас толькі варта ўвабраць у прыгожае адзеньне і вы можаце канкураваць з насташчымі дзяўчатамі... А дзеля гэтага вазьмеце—гэта на чаравікі.

На стол упала дзесятка: новая, ломкая, чырвоненькая.

Алеся бліснула вачыма.

— Будзьце ласкавы, забярэце назад. Я яшчэ, пакуль што, не жабрую. Паднялася.

— Ну, што вы, што вы. Сядайце. Я-ж вас не хачу гэтым абразіць. Проста—вам гэта можа прыгадзіцца... Сядайце.

Тонкія, белыя пальцы ўзялі за рукі. Пераскочылі за пясьці. Перапаўзьлі за локці і сьціснуліся сударагаю.

— ...Сядайце.

— Пусьцеце!

— Красуня... Што-ж вы хочаце злавацца?

— Пусьцеце! Сын прачнецца!

— А вы ня крычэце. Ціхенька. Вы-ж такая прыгожая, слаўная.

Набліжаўся тугі мундзір. Насоваўся гарачы твар і трэсьліся бяз колеру губы. Алеся прадчувала нейкую трывогу.

— Чаго вы хочаце?

— Ды нічога. Гэта так. Такая слаўная. Ідзеце-ж...

Рукі сьціснуліся мацней. Абвілі жалезам. Калаціліся і няўхільна, нэрвова вялі да ложка. А твар насоваўся і запіраў дыханьне.

— Пусьцеце! Я буду крычаць! Я буду... Пусьцеце!

— Ня злуйцеся. Ня крычэце. Вы—такая добрая, мілая, харошая... Вось так... Асьцярожненька...

Тады пачула, што гіне, што задыхаецца і ня можа спрачацца.

— Пусьцеце!..

Вылузвалася. Зьвівалася, як п'яўка. Кусалася.

А цела накінулася. Прыціснула да біла. Сагнула.

Рукі муляліся. Лазілі. Разрывалі кашулю і шукалі грудзей.

Вочы гарэлі. А губы варушыліся, уздрыгвалі і шапталі:

— Мілая... Слаўная... Ня трэба...

— Я не хачу! Не магу! Буду крычаць! Сына пабудзіце... Людзі! Ратуйце!

Задыхалася. Зьнемагала. Крычала ў бязмоцнасьці. Грызлася зубамі ў страшнай роспачы.

— Сволач! Вон пашла!

Штырхнуў.

Цела бразнула аб падлогу.

З сагнутымі кіпцямі і выскаленымі зубамі нізаў вострымі зрэнкамі, нібы хочучы накінуцца і задушыць.

А яна ляжала на руках: прыціхшая, аглушаная, раскіданая. Валасы рассыпаныя. Кашуля разарваная, пажмаканая. Вочы пудкія, расшыраныя. Яны білі яго вар'яцтвам і прыніжанасьцю. Нізалі гневам і пагардаю растоптанага сэрца.

На вуліцы застывала гадкая ноч і мяшалася з гразёю і восеньню.

## IV

### У салому шугае вецер

Сьнег пухкаю пялёнкаю заслаўся на агародах. Кавалкамі павіс на каштаньніку. Шапкамі і муфтамі на платох. І на стрэхах—казыркамі.

Вуліца прытоптаная, разьезджаная і бліскучая ў марозе. Глуха, працягла праплаквала пад палазамі і рыпала пад падэшвамі. Мароз сорамна румяніў шчокі і нос, абсыпаючы інеем бровы.

Дзесяцкі Анікей бег, стукаўся ў вокны, прыліпаў да замёрзлых шыб,

мацаў вачыма настыўшыя лапінкі і крычаў:

— На сход!

Варочаўся. Перабягаў вуліцу. Падбягаў да другіх:

— На сход!

— На сход!

Сустракаўся. Мінаўся з валёнкамі, ботамі, лапцямі і кажухамі, выкідаючы: „На сход!“—і нёсься наперад. Урэшце, уся вёска ведала, што бегаў Анікей і што будзе сход.

Зьбіраліся. Адзявалі кажухі, авечыя шапкі, круцілі „казіныя ножкі“ ў тоўстай паперы, пыхкалі, чухалі патыліцы і тапталі вуліцу.

Ля школы сабраліся. Скраблі бакі. Пакурвалі. Зьбіраліся гурткамі і, абрываючы з барод саплякі, пыталіся адзін другога:

— Які гэта сход будзе?

— От будзеш ведаць, як скажуць.

— Дык чаму-ж гэта не ў нядзелю, чаго так прыперла?

— Мусіць, важнае нешта.

— А пэўна што важнае, чулі — новая ўлада стала.

— Як новая? Дык-жа Керанскі?

— Ды не—другія.

— Ці бачыў!

— Кажуць наша, мужыцкая будзе,—паноў і папоў—к чорту!

— Ці чуў!

— Ага. Што-ж ты думаеш. Вунь ужо з панамі, кажуць, распраўляюцца. Гэта ў нас, дык ня чуваць... От і раскажуць.

— ?

На ганак вышаў чалавек. Скуласты. У чорнай нязголенай барадзе і скуранай тужурцы. У доўгіх пакурчаных ботах і высокай шапцы. Агледзіў натаўп. Памацаў яго прыжмуранымі вачыма. Зьняў аўчарку. Падняў у надгалоўі:

— Таварышы!

Натаўп змоўк. Заварушыўся кажухамі і барадамі і сьціснуўся да ганку.

— Таварышы, сяляне і сялянкі! Мы сабраліся сёньня на сход, каб пачуць тут, што з гэтага дня нямашака ўжо ні Керанскага, ні цара, а ёсьць улада рабочых і сялян—наша ўлада, якую ў крыві і барацьбе захапілі рабочыя. З гэтага часу вы не рабы паноў і фабрыкантаў, а самі гаспадары зямель і фабрык. Таварышы! Доўга зьдзекаваліся над намі цар і буржуазія, ашуквалі нас, абяцалі даць зямлю і заводы, а ці бачылі мы гэта? Ня бачылі! У нас вырывалі нашы сілы, застаўлялі праліваць кроў і пот, а для каго? Для тых, хто ня можа дыхаць ад тоўстых жыватоў! Мы ваявалі! За каго мы ваявалі? Пабілі вашых сыноў, мужоў, а што далі вам за гэта?

Таварышы! . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . .
. . . мы зробім нашу ўладу, савецкую!

Дык бярэце-ж стрэльбы ў рукі і ідзеце абараняць яе, абараняць землі, фабрыкі і заводы, якія з сёньнешняга дня вашыя!

Няхай жыве рэвалюцыя!

Няхай жыве савецкая ўлада!

Разграбаючы натаўп да ганку, працiснулася Алеся. Узьлезла. Паправіла хустку.

— Салдаткі і мужчыны! Гэты таварыш сказаў праўду. Мы бедныя, голыя і абадраныя. Мы чорныя і няпрыбраныя. А хіба мы гультаі? Хіба мы мала рабілі? Не! А хіба наш пан многа робіць, што ўсё мае? Не! Гэта мы на яго рабілі. Мы яму пабудавалі пакоі і аборы. А самі ня маем за што жыць! Чаму гэта?

— Правільна!

— Правільна!

— Правільна!—загудзеў натаўп.

— Салдаткі і мужчыны! Нашых сыноў і мужоў пабралі на вайну. Пабілі іх. Памарылі. А за што яны ваявалі? За каго? За гэтых-жа самых—паноў і цара. За тое, каб было на каго нам працаваць.

— Правільна!

— Правільна, Алеся!

— Нам трэба прагнаць іх, а іхную маёмасьць адабраць сабе, бо гэта-ж нашая!

— Правільна!

— Далоў!

— Далоў!
— Салдаткі!...
Натаўп ня слухаў. Роў. Хваляваўся. Гразіў і трос бародамі і аўчаркамі:
— Разагнаць! Разбурыць! К чорту крывапійцаў! Бяры сякеры, дубіны! хадзем...
— Салдаткі!..
Голас прападаў. Грамада бушавала і мясіла вуліцу. У паветры разрываліся пагрозы і лаянка. Узьнімаліся кулакі і цягнуліся да пана Плінскага.

Дзе пан?!—скаланулі сотні галасоў згорбленага парабка.
— Пан?
— Пан!!!
— І-і-і-і–яго і сьлед прастыў даўно. Сёньня ночы прапаў недзе.
— Дазнаўся, паскуднік!
— Брадзяга!
— Крывапійца!
— А пані?!
— І пані.
— І эканом?!
— І эканом. Мы ўжо от тут эканомім—самі шукаем яго.
— Ну, дык што-ж, хлопцы, будзем гаспадарыць мы!
— Бяры што хто хоча! Ламі ўсё! Забірай! Чаго малімоніцца!
— Бяры, чаго там! Цяпер нам трэба папанстваваць!
Грамада хлынула. Затрашчалі дзьверы, замкі. Паляцелі падушкі вазоны, крэслы. Зазьвінелі шыбы, начыньне.
Ламалі. Выкідалі праз вокны. Накладалі на вазы. Набіралі на плечы, пад пахі.
Заіржалі жарабцы. Зарыкалі каровы. А паверх рагатаў, гудзеў і капашыўся натаўп.
— О, гэта дык сьвята! Кірмаш на першы сорт—што хочаш выбераш!
— А што, усё яму панаваць!
Пакоі зрабіліся голымі, абшарпанымі, пустымі, пакалечанымі. На падлозе ногі тапталі кускі фарфару, цэглы і пабелкі. Разьбягаліся няскладныя гукі ад заліхвацкіх удараў тоўстымі пальцамі па клявішах раялю.
— Гэта яго музыка?
— Музыка!
— Іграй! браце!
— Весяліся!
— Смалі мацней! Няхай грае не для пана, а для нас!
На сьцяне, у палітурованых, высокіх да столі, рамах, адлюстроўваліся кажухі, бароды, распаленыя вочы і кулакі.
— А гэта што?
Рука нагнулася і падняла цагліну. Бырзнула празрыстымі іскрамі шкло і са звонам апырскала падлогу.
— Няхай глядзіцца цяпер, нягоднік!

„Улада“ — прагрымела ад вёскі да вёскі. Захадзілі дыбам маёнткі. Закурэлі панскія пакоі. Паразварочвалі скляпы з нябожчыкамі. Зьнімалі дарагія ўбраньні: пярсьцёнкі, брасьлеты, завушніцы, скарб. Мужчыны, старыкі чухалі бароды, патоптвалі астопкамі і меркавалі пра зямлю. Моладзь зьбіралася, грымела на вуліцы. Зьбіралася ля папоўскіх пакояў і ўдарала песьню:

„Далоў, далоў манахаў,
Далоў, далоў папоў.
Бі спэкулянтаў,
Душы кулакоў!“

Поп моршчыўся. Хрысьціўся на вабразы, бегаў па бакоўцы і штырхаў матушку:
— Анціхрысты! Багахульнікі! Іспытаніе гасподне.
Кулакі расчароўваліся. Песьні: „душы кулакоў“—гнялі іх і заганялі ў свае куткі. На вуліцы схватваліся і даказвалі:
— А што мы—памешчыкі, ці што?
— Памешчыкі! Горш іх—памагалі ім з нас зьдзекавацца!
— Дык за што-ж мы памагалі вам? Хіба-ж ня разам хадзілі разбураць маёнтак?
— Разам? Нажыліся, значыць, яшчэ? Адмовіцеся! Аддасьцё! Цяпер лес возіце! Хочаце палацы паставіць? Аддавайце коняй нам, брадзягі!
— Малатарні аддавайце!
— Ня возьмеце! Нажыць трэба самім! На печы валяліся, — цяпер гатовым хочаце жыць!

— Возьмем!

— Аддасьцё!

Сытыя, лезьлі да сваіх скляпоў. Хрысьціліся. Закопвалі маленькія жалезныя куфэркі, а галыцьба йшла да Алесі:

— Эй, старшыня!

— Што трэба, мужчыны?

— Ты наш старшыня беднаты,— коняй у нас няма. Трэба лес вазіць, а мы з голымі рукамі ходзім.

— Многа вас бясконьнікаў?

— Ды ўсе от што прышлі... А ў Прахора пяцёра.

— У Гарбуся чацьвёра!

— У Пранууся...

— У Дзям'яна...

— Складзеце сьпіс.

— Няпісьменныя. Няма каму. Сама ўжо, Алеська, зрабі.

— Зрабі, Алеська, зрабі.

— Першага мяне!

— Ды што там першага—усім трэба. Усіх разам пішы, Алеся!

Гнялі падлогу школы. Шаргацелі кажухамі і рукавіцамі. Круцілі самасейку і выкідалі дым праз бароды і шчарбатыя зубы. Праціскаліся да століка і выкідалі на паперу свае прозьвішчы.

Тады затопалі астопкамі і сьцянулі вуліцу рогатам і матам. Зарыпелі вароты хлявоў і паветак. Забразгалі цуглі і клямкі.

— О, на гэтым можна за адзін раз хату вывезьці!

— Запрагай! І хлеў вывезеш, і поле ўзгарэш, і чорту шыю скруціш.

З хаты выскачыў круглявы з казьлінай бародкай. Бяз шапкі. Ухапіўся за павады і, надрываючы жывот, раскідаючы вочы і пыркі з роту, калоцячы рукою і прысядаючы, закрычаў:

— Людзі! Людзі! Сярод белага дня рабунак! Пусьцеце! Пакіньце! бог пакарае! Што вы робіце! Анціхрысты!

— Дай яму, каб назад не вярнуўся!

— Адгані сабаку, каб не брахаў!

Грамада рагатала, трасучы барадамі і аўчаркамі. А чалавек біўся кулакамі аб зямлю і грыз зубамі рукавы ў бясьсільнай злосьці.

Папа выселілі ў маленькую бакоўку, дзе пападзьдзя задыхалася ад недахопу паветра і месца.

— Ды ці доўга-ж гэта будзе? Ды што-ж гэта такое? Зьдзекі над царквою і людзьмі памазанымі.

— Гасподзь пакараў за грахі людзкія. Доўгацерпны гасподзь і многалітасны, але непамерныя спакусы ад лукавага. Маліся, матушка,—усевышні—судзьдзя правільны. Да збудзецца рэчэнае ў пісаньні: і паўстане брат на брага і сын на айца і паліецца кроў чалавечая, каб іскупіць ёю віну праграшэньняў лёгкадумства чалавечага.

— І якімі вар'ятамі парабіліся. Усё пазабіралі: крэслы, шафы, сталы. Нават грамафон. А пакоі пад нейкі вэртэп зрабілі. І ўсе як адзін. Нават царкву забылі...

— Такая парода, матушка. Бачыш, хто ў іх павадыром, камбедам нейкім—Алеся. Гэтая блудная жанчына, якая, страціўшы свайго мужа, з кожным на сяле вадзілася і прадавалася за саблазны і салодкія словы. А цяпер усюды арудуе. Хіба-ж гэта відана калі было? І нашто я па яе мужу паніхіду яшчэ адслужваў? Такі грэх браў на сваю душу?.. Не палі агню, матушка, бо гэтая зграя будзе праядаць вокны сваімі нячыстымі харамі. Бачыш, як сваволяць.

А за сьцяною топаў і кіпеў клюб. Нізаліся галасы і стукалі крэслы. Шморгаліся падэшвы і насы. Гудзела моладзь, вырываючы нязьвязаныя акорды з раялі шалёнымі ўдарамі многіх рук. Дзяўчаты пырскалі сьмехам і ўскрыкамі:

— Не чапай! Хустку парвеш!

— Адчапіся, сараматнік, памагай сьпяваць! Ідзі да матушкі!

А паверх білася ў столь і сьцены:

„Далоў, далоў манахаў,
Далоў, далоў папоў.
Бі спэкулянтаў,
Душы кулакоў!“

## V

## Нюх па сьлядох

Жудасьць насілася ад вёскі да вёскі. Насілася грозным непаразуменьнем непрадбачанасьці і небясьпекі. Застаўляла маўчаць ці ціха шаптацца і скраблася пад ложачкай і сэрцам пагрозай, нечаканасьцю, цярпеньнем. Кожны вечар, ноч—былі напружанымі, звонкімі і чулымі. Брэх сабакі калоў вушы, шкрабаў пад кашулямі і дрыжыкамі прабягаў у пяткі. Няяснае, але яскрава-пукатае чаканьне пужліва вырастала, выпірала з істоты і нема, надрыўным голасам стаяла ў вушох:

— Зараз!

Гэтае „зараз“ множылася, падымалася, зьлівалася з звонам цішыні і стукала ў скроні:

— Зараз!

Вецер падымаў водгук і, скрабучыся ля вуглоў і вакеніц, раскідаў яго па цемры, напаўняючы ўсю ноч гэтаю напружанасьцю, гэтым няясным, але яскрава-пукатым чаканьнем:

— Бандыты!

Сэрцы стукалі. Крокі па хаце былі ціхімі і асьцярожнымі. Вокны—страшныя сваёю цемраю ночы і загадковасьцю.

Лажыліся спаць. Кожны няспрытны шолах ветру ля дзьвярэй прымалі за той стук, якога даўно, але страшна чакаюць, стук забойства, пажару, сьмерці.

Вызваленьнем быў кожны дзень, які сустракаўся новымі весткамі вар'яцкае расправы і гвалту.

Бабы зьбіраліся.

Талкавалі.

— І што гэта бог пасылае. І што гэта творыцца. І калі будзе які канец.

— Чулі-ж—гэта заўчора: на хутар, што ля Кудзерышча, ўночы ўскочылі адзетыя, кажа, папольску, ды зразу: рэнкі да гуры!

— Аа-а. А далей?

— Ды што далей—вядома: старэйшага, Мікіту, на месцы адразу прыстрэлілі, а ў рэшты дапыталіся ключоў, дый пашлі пароцца па ўсіх кутках. Малодшы, калі сталі ўсюды лазіць—хацеў уцячы, але не адчыніў і дзьвярэй, як і рынуўся вобзем.

— Божа міласэрны!

— Ага. Пасьля пачалі жонку старэйшага гвалціць. Стары Карней кінуўся цалаваць ногі, але яму так зьдзяжылі па галаве, што аж мазгі распырснуліся па сьценах. Толькі васьмігодак астаўся. Запеччу нейк схаваўся.

— Гэта-ж думаць?

— Сканчэньне сьвету, мусіць, будзе.

— Насланьне нейкае, жаначкі...

— Макара-ж Сьпірыдонава, што на баравусе, дык спалілі, не пакінуўшы ніводнае жывое душы.

— Дык ці мала толькі... Вунь Мікалаішын зяць казаў, што . . . .

. . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . .

Пагроза разрасталася.

У дарогах баяліся езьдзіць.

У хатах баяліся начаваць.

Былы панскі маёнтак мястэчка Купацішчаў ахапіла ноч. Ціха спусьцілася на прысады, а пасьля падпаўзла да пакояў і прыліпла да сьцен. Лазіла ля падмуроўкі. Лізала шыбы вакон і, бясшумна шамкаючы бяззубаю зяпаю, глынала пукі праменьняў, што выкідаліся праз рамы.

Па пяску прысадаў зашоркалі нечыя падэшвы. Коратка адрываліся і бліжыліся да пакояў. Пасьля ля дзьвярэй стала постаць. Папраўіла шапку, папружку, памацала гузікі і зьнікла ў ганку.

Тук-тук-тук-тук.

— Калі ласка.

— Добры вечар!

— А, гэта ты, Бабырка.

— Так, я.

— Ну, то сядай. Распранайся. Скідай шапку.

— Не, я не надоўга. Зараз пайду.

— Што,—хіба нанюхаў?

— Нанюхаць то не нанюхаў як сьлед, але-ж трэба нанюхаць.

— Трэба! Ĭ ўжо даўно трэба. Ты бачыш, які перапалох ахапіў усю воласьць. Дый ня дзіва, гэта-ж такія гвалты, што аб іх адны чуткі могуць увагнаць у магілу. А мы што зрабілі? Нам сорамна не злавіць нейкага там злыдня, які мае можа шэсьць чалавек і наводзіць такі страх на ваколіцу. На вось пачытай, што пішуць газэты, і гэта для нас—дакор, якога нельга нічым апраўдаць.

Бабырка ўзяў газэту.

— Вось тут чытай, —на!

На чацьвертай старонцы ў аддзеле „хроніка“ значылася:

**Купаціцкая воласьць ахоплена цэлаю сеткаю бандытаў. Карнаму атраду не даецца ніякай магчымасьці пералавіць іх. Банда паказваецца то тут, то там з няўяўнай спрытнасьцю. Палядць вёскі, рабуюць і вырэзваюць цэлымі сем'ямі. Жыхарства ў поўным перапалосе і нездаваленьні.**

**Згодна вестак, бандаю кіруе нейкі галаварэз Пігульскі.**

Бабырка падняў галаву. Вугалькі пад брывямі наліліся злосьцю:

— Зараз перастане гуляць!

— Пакуль перастане, дык чытай далей.

### Здарэньні

**— Ноччу з 23 на 24 красавіка невядомымі злачынцамі быў учынены напад на хутар Казюты. Злачынцы абрабавалі хату, перабілі сям'ю і зьніклі.**

**— На Прудзінкаўскай дарозе знойдзены труп селяніна в. Зазер'е Ігната Габрусёнка. Забойства зроблена напападам невядомых злачынцаў, якія парасьсякалі цела на кавалкі.**

**— Увечары 24-га красаваіка ў в. Галузікі ўваскочыла грамада ўзброеных бандытаў. Разагналі вечарынку і накінуліся на дзяўчат. На супраціўленьне моладзі адказалі стрэламі, а пасьля падпалілі вёску, ня выпускаючы нікога з хат, і зьніклі.**

Швырнуў газэту. Падняўся і нэрвова захадзіў. Бровы насунуліся і сьціснуліся распаленыя вугалькі. Рукі залезьлі ў кішэні портак і пасьціскалі пальцы. На паваротах быў круты і прудкі.

Стаў. Выпрастаўся. Глядзеў у вочы.

— Сцапаем!

— Трэба!—пачуўся адказ.

Доўгае гарачае маўчаньне. Моцнае пашчыпваньне губ і рыпаньне зубамі.

— Учора хлопцы ў беразе Загацкага лесу злавілі двух. Аднаго ранілі. На допыце доўга маўчалі—урэшце сазналіся, што яны рабілі разьведку і што іх маецца каля 20 чалавек, разьбітых на гуртki. Правадыр іх спрытны і адчайны абармот. Штабу не паказалі, за што я тут-жа расстраляў... Спроба пералавіць іх каля млынішча аказалася няўдачнай.

— Злавіць яго ў лесе нам няма ніякай магчымасьці. Трэба прысачыць, разьнюхаць, калі і дзе ён будзе наладжваць папойкі. Кажуць, ён часта бывае на Коцішчах у Камарэўскага. Я ўжо наладзіла добрую сетку вызнаўцаў. А пакуль што кончым і будзем піць чай. Распранайся.

Алеся.

— Ну?

— Ты з намі не паедзеш—я сам спраўлюся.

— Чаму гэта так?

— А так—мала што можа здарыцца... А Міхаську-ж у бабкі ня вечна быць.

— Ĭ ты думаеш мяне гэтым выручыць?—дык у якога-ж чорта я ваш начальнік!

Яна ўсьпёрлася локцем на канапе. Валасы распусьціліся, упалі на біла і расплыліся ручайкамі. Пальцы гладзілі аксаміт, а вочы сьмяяліся.

— Эх, сараматнік ты. Розум добра, а два яшчэ лепш,—ты гэта ведаеш?

— Да чаго й які тут можа быць розум? Тут трэба спрыт. Ну, а я думаю, што ўсё-ж такі я спрытнейшы за цябе.

— Ну, добра, то сядай тут, а заўтра ці пазаўтра мы разам паедзем лавіць мышэй. Праўда—гэта-ж мышы? А мы з табою каты, але пакуль што няспрытныя... А як гэта ён ў нас вырваўся каля Махрушак?—проста дзіўна! Як змоўж які... Сядай-жа.

Бабырка падсунуў крэсла. Рука ўпала яму на плячо. Ĭ ён,—нядаўна грозны, зажмураны, з нахлабучанаю шапкаю і прыкушанымі губамі,—зрабіўся чалавекам, які адчуваў над сабою ўладу: пяшчотную, мілую. Уладу начальніка і сябра. Узяў гэтую мяк-

кую руку і палажыў на цьвёрдыя, жылістыя пальцы. Перадавалася лёгкая, тонкая цяплынь, тая, што доўга ня хоча астываць, каб не астылі й вочы...

. . . . . . . . . . . . .

Калі ноч бясшумна прыліпла да падмуроўкі і ўжо ня лізала сьцен і шыб, а застыла ў сваёй напружанасьці—па пяску прысадаў, коратка адрываючыся, што-раз цішэючы, зашоркалі цьвёрдыя падэшвы.

*„Тав. Алесі Крывіцкай*

*Дарагая начальніца. Усе мы просім, каб вы як найхутчэй злавілі гэтага злодзея Пігульскага. Ён нам не дае ні жыць, ні спаць, і мы кожны раз яго вельмі баімося. Дзеля таго просім вас злавіць яго з усёю яго бандаю, бо ён сёньня ночы будзе ў Камарэўскага і будзе п'янстваваць і весяліцца. Прыяжджайце, толькі каб ніхто ня ведаў, бо тады нам усё роўна ня жыць. Заяжджайце ад працерабоў, бо ля крыжа ў яго будуць стаяць вартаўнічыя. Гэта мы даведаліся ад таго, што запісаліся ў яго банду. Ратуйце нас ад няшчасьця. Будзем вечна за вас маліцца богу.*

*Селянін вёскі Карчукі*

*Галузік*".

26-IV—1919 г.

На небе зоры параскіданыя мітузь. Дрыжаць. Калоцяцца. Нібы баяцца зараз адарвацца ад вышыні і разьбіцца аб ноч.

Тонкае, ціхае паветра. Гнуткая, нізкая трава. Шырокія, нямыя кусты.

Цяжкія.

Навісшыя.

Нібы прыдушыўшы, хочуць схаваць цішыню; адтаго згушчаюць пад сабою ноч.

Дарога шэрая, чуць прыкметная, вузкая і ізьвілістая, як чалавечая душа. Пясок, трыпытнік і прыдарожны бур'ян топчуць конскія капыты: падковамі, звонам—

многа.

Зьвярнулі. Бязгучна праехалі па мяккай траве. Акуталіся кучароўем застыўшых бяроз, што паапускалі васковыя гірлянды ў цішыню. Тады ля коняй павырасталі чалавечыя постаці: няясныя, грубыя ў сваім афармленьні.

Ціхім шопатам дыхнула ноч:—

— Два—ля коняй! Рэшта—да Камарэўскага! Бяз гуку і шуму абкружыць хату! Паўзьці—каб не паказацца! Вартаўнічых зьніму сама! Адзін да мяне! Бабырка—з атрадам! Не страляць да сыгналу!

Постаці зарушыліся. Зьніклі. Ноч праглынула іх.

Між вішняку і бэзу—хата. Вокны выкідаюць тлустыя пукі праменьняў і чалавечыя галасы: заліхвацкія, бястурботныя, разухабістыя.

А ноч ціхая. І кусты бэзу і вішняку—ціхія. Дрэмлюць. Заміраюць, каб пасьля сваім крыкам разбудзіць гэтую грозную цішыню.

Вось яны ўжо чуць варушацца.

Прачынаюцца.

А з-пад іх высоваўюцца халодныя, прагныя канцы сталі...

. . . . . . . . . . . . .

Рванулася ноч. Бліснуў аганёк і пакацілася кароткае рэха. І нібы ад гэтага ўзрыву—вокны трэснулі, шыбы зьвякнулі і тлустыя пукі праменьняў сталі пляваццa сьмерцю.

У хаце замітусіліся кароткія цені і чорныя рулі. Кулі бзыкалі. Шалушылі кусты і клявалі сьцены. Ноч вар'яцела, узрывалася тонкімі агонькамі і крыкамі сьмерці. Рагатала поўнымі жабрамі свае агідкасьці і пустаты. Іграла шалёны танец чалавечых душ і нікчэмнасьць. А душы таксама сталі шалёнымі. У сьценах яны тузалі свае мускулы і напружанасьць воч. Выкідалі іх праз вокны ў бяздоньне агнём і волавам, сустракаючы волава і агонь. У роспачы і бясьсільлі падалі. Хапаліся за вушакі і сьвідравалі вачыма грозную, няўхільную нявыразнасьць, якая вырывала сэрца і смактала кроў. Кроў, што ўжо сачылася па вісках, капала і пырскалася на пальцы і сьцены. Што ўжо наплывала ў сьвядомасьць і душыла жалезнымі пальцамі за горла, за дыханьне...

. . . . . . . . . . . . .

Сьцены змоўклі і пакінулі плявацца ў ноч.

— За мною! Рэшта сачэце ля вакон! Жыўём, хто ня здаўся сьмерці!

Хруснулі дзьверы. Раздаліся. Кароткая рулька нагана выцягнула руку Бабыркі:

— Здавайся!

Але чалавек—высокі, з гарбатым носам, тугімі губамі—выпрастаўся ў нагласьці і бясстрашшы:

— Прымі апошнюю кулю ў падарунак ад сабакі!

Яшчэ кавалачак адарванае ночы і надломленае цела. А ён, горды ў сваёй нікчэмнасьці, стаяў з скрыжаванымі рукамі.

— Цяпер бярэце! Я—Пігульскі!

Разьяраны натаўп рынуўся, гатовы падняць яго на сталь. Глушачы немы рык, падняўся і ўдарыў уладны голас Алесі:

— Стойце!

Пасьля вочы сьлізганулі па высокай постаці, скрыжаваных руках, і засталіся на гарбава ым носе, сьціснутых губах і гарачых зрэнках:

— Гэта—гаспадзін палкоўнік!

— Я—палкоўнік!

— Дык прымі-ж, нягоднік, за свае заслугі!—і рука застыла, наводзячы грознае зрэнка ў упор.

— Я сам... Я сам магу яшчэ... Стойце...

Бабырка прыпадняўся на локаць. Абмацаў халоднае, цяжкае жалеза. Выцягнуў руку. Скрыўлены мукаю нацэліўся.

Астатнім узрывам здрыганулася ноч.

---

Пуста. Алеся схілілася над трупам, які ўдыхаў свае апошнія хвіліны. Хрыпла ўзьнімалася грудзі. Касьцянелі пальцы, але лавілі яшчэ ласку, апошнюю ласку начальніка і таварыша. Вочы цяжка глядзелі ў нахіленыя, але ўжо далёк'я вочы, а губы шапталі:

— Бывай, Алеся. Я... чужы ўжо... ня твой...Добра што... яго... упэйкалі...

У адказ падалі гарачыя, чыстыя, як раса, сьлёзы.



**Рыгор Казак**

# У падвячорку

Задуменна
        палі застывалі.
Багна сьнежная
каля вакна.
Я праз сінія шыбы
        ў далі
зіркам
        сонца хацеў дагнаць.
А яно,
        як чырвоны яблык,
закацілася
        за стужку-лес.
Залатыя праменьні аслаблі,
змрок вячорны
мне ў душу лез.
Сьціхла смага трывогі,
        і нават
хлюпаватая ноч
        у дзьвярэй.
Толькі будзе
        над гурбамі плаваць
мяккіх,
        сьціплых
                сьняжынак рэй.
Сьнег на полі—
        баўнянае сьмецьце.
Аджа-ж помню
        дзяўчыну бялей.
І пазьней
толькі стаў разумець я
плям ружовых
        на шчоках лілей.
Сьнег пажоўкне ў палёх
        і на твары
у дзяўчыны,
        што зьзяе красой.
Ды ня зжоўкнуць
        барвовыя мары,
і ня счэзнуць,
        як з поля, расой.

**Юрка Лявонны**

# На вятры

*(Фрагмэнты)*

„Над седой равниной моря
ветер тучи собирает.
Между тучами и морем
гордо реет буревестник,
Черной молнии подобный...“

**М. Горький.**

## I

Нарадзіліся, як ад марской буры,
навальніцы, хваляў і пены—
моцныя, суровыя,
з жалезным целам
і сталёвай душой.
У віхурах, у бойках, у барацьбе
з морам і людзьмі
з-за лішняга дню,
з-за лішняе гадзіны жыцьця—
загартоўваліся яны.

Ї ад халодных скалаў Балтыкі, ад чорнаморскага млявага ўзьбярэжжа—яны прышлі ў сталіцу, прышлі ў партыю, як сымбаль рэвалюцыі—
грознай,
стыхійнай,
зьмятаючай...

Матросы!
Імя, якое наводзіла жудасьць на тых, хто хаваўся па міністэрствах, прыватных банках, дырэкцыях фабрык...
Матросы—
чырвоная літара ў вялікім слове—„Кастрычнік“!..

## II

Прыехаў да сваіх, у Плясну, рамянямі абвешаны;
цераз плячо—бінокль,
цераз другое—патроны.

Тут-жа браўнінг, бомба, цясак...

Прывёз на вёску шырокі размах бунтарства, неабдымны „клёш“ ды набягаючы матыў матлёту.

А засьмяецца Антось—мільгануць два залатыя зубы, і ад лёгкага ўздрыгу галавы калыхнуцца на плячох чорныя зьмеі-стужкі...

На стужках вышыта:
„Аврора“...

...Сход у мясцовай школе гудзіць, злуе...

Цiснуцца да бярвенчатых сьценак бабы.

Уздыхаюць пасьля кожнага слова—ці ад напружанасьці гаворкі мужчын, ці ад сваіх думак...

Вясковыя барадачы, змучаныя прадразьвёрсткаю, гужпадаткам, кідаюць як волава цяжкія, цёмныя словы:

— Ня так гэта!.. Наша ўлада—дык наша... Навошта й Міколку скідаць было... Ї раней ня бралі гэтак,— абураецца Піліп Дрозд — першы „запяканец“-кулак у Плясьне.

— А хіба-ж няпраўда?.. Вядома...— падтрымліваюць Піліпа заможнікі.

Тады сьціхаюць спрэчкі, бо голасна, адрывіста, роўна пачынае гаварыць Антось.

Быў час, калі ён, яшчэ ў 14-м годзе, пераймаў, жартуючы, гаворку памоцніка капітана—і потым гэтае перайманьне перайшло ў звычай.

— Мы там, на вадзе, на моры, ахоўваем ваша жыцьцё і дабрабыт... Мы захаплялі Таўрыцкі... Зьнішчалі „іх“... Зараз-жа—трэба даць да-

памогу—і без ніякіх размоў—рэквізаваць залішняе...

— Як так?.. Па якому, ды...

— ...Ĭ бяз ніякіх размоў... Рэквізыцыя гэта, здаецца, будзе апошняю... Пачнем з Піліпа.

III

Разгаварыўся Антось са старым сябром.

Мінулыя былі, што цяпер легэндамі здаюцца, успамінаць пачаў...

— Та-ак, вось, Ларывон... Усяк было... У Чарнігаве, напрыклад...

Адразу пасьля Кастрычніка... Маленькі выпадак!..

Перад будынкам савету рабілі парад. Нашых там цэлы атрад быў—паўтары сотні...

Эх, і хлопцы-ж былі!..

Здаравенныя ўсе,—бывала ідуць па бруку—

аць... два!.. аць... два!—

ажно брук гудзіць...

За плячыма ў кожнага—карабінка, на гамашах—сонца ўсьміхаецца...

На парад народу сабралася—канцаберагу ня ўбачыш.

Ну, адзін з нашых, Мікітка Гвозд,—буйная галовушка! — і штурхані са ўсяе моцы старога яўрэя з натоўпу...

Той—і брык на зямлю...

Камандзір да яго адразу, з кароткімі гужамі:

— Прасі выбачэньня ў грамадзяніна!

— Што-о? Я, матрос з „Авроры“, ды прасіць у жыда выбачэньня?.. Ніколі!

— Прасі выбачэньня, Гвозд...

— Ды я рэвалюцыю рабіў, я...

А праз гадзіну, параіўшыся са старшынёй рэўкому, расстралялі мы Мікітку тама-ж, за цэйхгаўзам...

IV

Пагутарыўшы з Ларывонам, Антось накіраваўся да хаты цёткі Даміцэлі, удавы, дзе па суботах плясноўскія хлопцы арганізоўвалі вечарынкі...

Цётка Даміцэля атрымоўвала за памяшканьне „керанку“, гарманісту плацілі дзьве, і пры няроўным асьвятленьні газавай лямпачкі весялілася моладзь. Цяпер, з уваходам Антося—у хаце адразу зрабілася цішэй.

У дзяўчат запаліліся патаемным аганьком вочы, і хлапцы, штурхаючы адзін другога локцем, пачалі перашэптвацца...

— Відаць ён тамака ў іх старэйшы...

— Не дарма грудзі размаляваныя...

— А на руцэ, глядзі... Якар!.. Ды вялікі...

Антося неяк ня вабіла вясковая вечарынка.

Можа таму, што яго Алёна другі год як выйшла замуж за тэхніка, а ўспаміны аб ёй, якая зараз на Урале, раптам усплылі...

А можа таму, што Антось наогул адбіўся ад ціхага завульля, акунуўся ў партовы грукат і рана пазнаёміўся з асалодамі і пакутамі гораду.

Выходзячы ад Даміцэлі, ён заўважыў у некалькіх кроках ад хаты дзьве постаці.

Было цёмна.

Ня гледзячы на жнівень — ночы стаялі імглістa-ветраныя...

Ківаліся даўгія цені, на ўсходзе далёкім зарывам ірдзела неба, і пры слабым асьвятленьні яго ружовых вобліскаў Антось пазнаў па абрысу ў аднэй з постацяй Піліпа Дразда.

Убачыўшы Антося, ён пужліва прыгнуўся да плятня і зрабіў хуткі рух рукою да кішэні, але потым, нібы перадумаўшы, зноў выпрастаўся.

— Чаго яму трэба тут?..—падумаў Антось, можа ён...

А тады дадаў ужо голасна:

— Ну, і няхай... Паглядзім... А пакуль што—спаць!..

V

Спачатку прыемна казытаў Антося мяккі пах сьвежага сена.

У пуні было прасторна.

Высокі дах схадзіўся ўгары вострым грабянём.

Паміж дахам і сьцяною была дзірка і можна было бачыць, як насіліся па коўзкаму небу лёгкія, шурпатыя хмаркі.

Вакол шапацела сена, і пад ласкавы шолах яго Антось перанёсься ўсёй істотаю ў вір мінулых спатканьняў.

...Порт у Амэрыцы...

Вялікая прыстань...

Запэцканыя вугальным пылам грузчыкі, па вузкіх лесьвіцах-мастніцах пераносілі на сьпіне цяжкія лантухі.

Тут-жа недалёчка, гультаявата ківаюцца на зеленаватых хвалях чысьценькія, прыбраныя кветкамі, прыватныя параходзікі-яхты.

На іхных палубах, пад белай палатнянай страхой, стаяць маленькія, мармуровыя столікі, дзе пад гукі аркестраў „лэдзі“ і „джэнтльмэны“ пацягваюць з крышталвных кілішкаў халодныя лікёры.

Над прыстаньню — жалезны крык блёкаў, лябёдак, якія выкідваюць з параходных трумаў нязьлічаныя тоны тавараў.

Антось атрымаў водпуск на 6 гадзін і таму, сышоўшы з свайго параходу, з гонарам ідзе па вузкай партовай вуліцы.

Вечар.

Неяк асабліва хітра мігацяць электрычныя ліхтары пад нумаркамі на вялізных дамох.

Сіпяць, нібы хворыя, аўтабусы, рэжуць паветра званкі трамваяў, і высока над зямлёю нячутна кладуцца ружовыя пасмы закату.

У карчомцы—

лаянка, звон шклянак.

На ўзвышшы, у куце,—піаніна, і пад яго разьбіты акампанімэнт, аднавокі юнак у блакітным гальштуку рэжа на скрыпцы „танго“.

За адным з столікаў сядзіць добра апрануты малады чалавек з жанчынай, якая ўдвойчы старэйшая за яго.

Як відаць—яны выпадкова зайшлі сюды, бо жанчына таксама ў шоўкавым чорным адзеньні з манэрамі „вышэйшага палёту“.

Паміж сталоў вужакай выгібаецца лёкай-нэгр.

— Джон, віскі!

І „Джон“ ляціць, зламаўшы галаву, на покліч п‘янага матроса.

— Джон, сюды!..

І ён аднолькава—хутка імчыцца да гаспадара, за стойку.

Далей адыгралася сцэна, якую Антось ня змог спакойна вытрымаць...

Джон нёс дзьве шклянкі піва на падносе, і, праходзячы міма маладога чалавека з жанчынаю—зьнянацку скаўзануўся, і адна шклянка трапіла на белы, лайкавы гамаш госьця.

Тады „госьць“ зусім спакойна падняў насок гамаша і з усяе моцы ўдарыў Джона ў твар...

Кроў з півам зьмяшалася на падлозе, вакол узьняўся здаволены рогат.

Антось глянуў у поўныя пакуты і сьлёз вочы нэгра і...

Ён цяпер помніць толькі, як кінуўся на маладога чалавека, корцікам ударыў яго ў шыю, помніць прарэзьлівы крык „жанчыны“...

А потым—грымотны стрэл з вугла, бляды твар гаспадара карчомкі і аднавокі юнак чамусьці дагары нагамі...

Цяпер на галаве Антося застаўся вузкі, белы сьлед кулі з „бульдожкі“...

## VI

За сьцяною ледзь чутны ціхія, прыдушаныя галасы:

— Ты, Пііп, першы... Абухом...

— А тады ты, Пракоп, вяроўкаю, ды за шыю...

— Добра!..

...А ён, Антось, ужо аб другім сьніць...

Вось ён у Піцеры...

У 17-м...

Вось ён ссаджвае „фараонаў“-паліцэйскіх з балькконаў і вышак, куды яны заселі з кулямётамі...

Імчыцца па Неўскаму бранявік—„аўто“.

На ім—матросы.

Вінтоўкі—на перавагу.

На бранявіку-ж Антось.

Вось цэліцца ў яго „фараон“ з даху...

— Трр-ах!.. Што-ж гэта?.. куля трапляе ў лоб Антосю...

Іскры мігацяць, мігацяць...

Боль, а потым—

цёмна й холадна... Нябыт...

— Ну, вось... І гатоў... І вяроўкі ня трэба...—

прабурчэў Дрозд.

— Ага!.. Нават і ня пікнуў...

1927 г.



**Рыгор Казак**

# Быльнёг

*Апавяданьне*

## I

Летняя раніца.

Сьветлая. Румяная. Нібы спелы яблык сакавітая.

З-пад танюсенькай чорна - сіняй істужкі лесу—пырскі крыві сонца.

Па дарозе—траўка ў сьлязах дыямэнтавых.

Пыл на дарозе прыбіты. Колы ціха, мякка пакідаюць сьлед дзьвюх палос.

Но-о, каштанка!—тузае дзядзька Лявон за лейцы.

— Ну, а як-жа ў горадзе там,—га?—пытае ў студэнта, які сядзеў поруч.

Студэнт Маліноўскі неахвотна варушыцца. Пазяхае. Твар кіслы, нераспаны, а на ім—задумёнасьць маленькая і п'янаватыя вочы. З-пад шапкі—рыжаваты касмыль валасоў. Думае пра дзяўчат вясковых.

Што скажуць пра яго? Гонар, павага будзе. Прачытае свае вершы, пасыплюцца авацыі (дарма, што ў газэце, у паштовай скрынцы адказалі „ня пойдуць, слабыя"), а ён будзе глядзець на ўсіх з такім важным відам...

Сусед Лявон быў на вакзале. Сустрэў Янку. Вязе да бацькі.

Дарога сумная. Усё знаёмае. Тысяча першы раз бачанае:—

Лясы.

Поле.

Хутары.

Хочацца пагутарыць з кім. Хочацца перарваць сіпаватыя сьпевы калёс і неразборлівае мармытаньне.

Што гавораць колы?

Можа пляткараць яны аб Маліноўскім?

Паднімае вышэй брэзэнтавы каўнер плашчу. Карэжыць сквіл. У скрыгаце колаў здаецца:—

Ня наш—сталічны...

Ня наш—сталічны...

Ня наш...

А непадмазаныя восі:—

сьві-і-і

ньня-а...

Прыкрасьць Маліноўскаму да ўсяго. Чаму?

Не дае сабе адказу. Разганяе цяжкія думкі гутаркай.

— У нас усё старое, дзядзька. Як у вас от? Мо' што новага ёсьць? Як нашы маюцца?

— Ды яно многа чаго зьмянілася. У Дунеўскіх млын абярнуўся. Старога Навума забілі. А ведаеце Акуліну Сьцяпанішыну?—За Зьмітрака вышла. Са старою ён разлучыўся. Цяпер абедзьве ў аднэй хаце жывуць. Сварацца. Старая трэцяе дзіцянё мае. У гэтай таксама зараз будзе.

Лявон запальвае самасейку. Адкашляўся і аглядае суседа.

— А вашы крыху папраўіліся... Бацька ля сьвірна склеп паставіў. Надоечы карову прадаў. Рублёў 50 узяў мусіць. Ды што й казаць,—у лісьце самі пісалі, можа... А сястра ваша—дзеўкаю стала: Сьцяпан Бірчык да яе прыглядаецца.

Но-о, падла!
Пуга—маланкаю ў паветры.
На рэбрах конскіх — тонкая палоска.

Вось знаёмае Янку: поле суседа Мацея. Лясок Сапронаў. Даўнейшы маёнтак пана Вакалава.
А вунь:—
знаёмыя могілкі,
курганы,
сяло роднае.

Дыхае ветрык. Цёплы. Пяшчотны. Малаком сьвежым запахла.
І ў маладога паэты—вершы складаюцца. Здаецца: прыгожыя. Такія, што яшчэ ніколі ня пісаліся:—
неперамальныя,
новыя,
сьвежыя.

Неадчэпныя думкі—як ваўчкі лапушніку да вопраткі.
Што чакае маладога паэту?
Ці хутка сьвет будзе ведаць пра яго?
Ці не пасьлізгнецца?
Вось і ўчора: п'янка заўзятая. Разьвітальная. А сёньня галава—чурбан. Млявасьць у целе. Блявота.
Сплёўвае на дарогу.
Пазірае на вёску, што бліжыцца. Варушыцца нешта нязнанае ў нутры.
А дрэвы шэпчуцца. Вітаюць яго.
Пралятае грак, востра рэжучы крылом паветра.
Ветрык атрасае з жыта расу-дыямэнт. Яна падае. Пераліваецца на сонцы колерамі.
Растае.

II

Вароты расчыненыя.
Пастух выганяе з хлява авец. Каля студні—рыжая карова з цёлкай. Маці налівае ў начоўкі ваду. Клапоціцца. Нешта мыць думае.
Адарваўся голас Лявона:—
— Тпру, каштанка... Ну, от і вашы; прыехалі. Здаецца нічога ня згубілі... Бывайце.
— Дзякаваць, дзядзька Лявон. Заходзьце пагуляць.
—Ды трэба будзе заглянуць,—як-жа.

А сынок мой... Дык гэта ты прыехаў? А мы занудзіліся па табе. Хадзем-жа...
Уцірае хвартухом твар. Плача ад радасьці. Не хапае слоў гаварыць. Глядзіць і ня верыць: пахудаў, зьмяніўся, падрос. Пахарашэў нават. А такі мізэрненькі быў.

У хаце—цёмна Янку. Няветліва. Маленькія вокны мала сьвету прапушчаюць. Голыя лавы. Сьцены тынкаваныя з плямамі: два-тры плякаты на іх. А ў покуце—абразы пачарнелыя з ручнікамі. Здаецца:— прытуліцца няма дзе. Нават шапкі недзе павесіць.

Бацька з двара—у хату.
— Тэ-тэ-тэ! Не пазнаць цябе... Новы храк?!
— Толькі валасы ў цябе, як шчаціна,—прычашы... мо' і завялося што,—дадае маці.
— Маўчы, старая, хай сабе. Вучоным не да прычэсваньня...
Ад валасоў пераходзяць да гораду. Ад гораду да навін.
Гутаркі.
Распытаньні.

Бацька трымае ў руцэ пляшку.
Налівае ў кілішак.
— Каб даў бог новага прыезду дачакацца і каб... во гэтага—сьвянцонага зелейка.
Чаркі поўняцца. Сьвеціцца сінявата-зялёная вадзіца.
— Пі, сынку, ды прабачай. Прывык можа там да шупанскага. Але й наша ня горшая. Моцная. Трохі прыгарэла, дык што там—гары ня чувацъ. Маці твая крыху там нейкіх прысмакаў прыкінула.
— Ды не пашкодзіць. Я тут трохі ягад падсыпала—сунічак сушаных.

Маладога Маліноўскага ня трэба доўга прасіць. Умее. Але нейкія хвіліны нерашуча пазірае. Не падабаецца пах самагону.
— Пі, сынку, не прыслухоўвайся. Нюхае.

Малодшыя браты паглядаюць.

На ўслоне поруч—сястра Ганна. Таксама цешыцца.

— Выпівай.

Рашуча перакідае чарку ў разяўлены рот.

— Ніштаватая.

— Яшчэ чарачку!

Крывіцца. Зламанай відэлкай бярэ кавалак сала. Паглядае на яго. Варочае.

— Яшчэ па адной!

— Хопіць. Дый пасьля добрае—душа ня ўспрымае саматужнай.

— Хоць за сваё здароўе!

У чарцы — сінявата-зялёнае, чадлівае.

Каўтануўшы—з ламанай відэлкай кавалак каўбасы варанай смакуе.

Лік чарак губляецца. Вочы вадзянеюць, нібы студзіна робяцца. Твар чырвоны, гарачы. Нос прызвычаіўся і нават з нейкай асалодай цягне пах.

— Моцная. Градусаў мусіць 90?

Налівае.

Рука калоціцца—міма.

Аднак-жа многа п'еш ты, сынку.

— Звыкся, бацька.

— А бачу, бачу.

— Бачыш?.. А ты ведаеш хто я? Ведаеш? Чаго маўчыш? Кажы!

Бацька ня ведае што казаць. Адчувае перавагу сына над сабою. Думае: „а чорт цябе ведае, хто ты".

— Дык ня ведаеш?!

— Не.

— Я... Я—паэта, разумееш ці не? Чуў пра Пушкіна, пра Лермантава? Дык вось і я такі самы.

Павекі навісаюць. Вочы вадзянеюць, а твар гарыць.

— Сказаў бы табе, але што ты ведаеш—я, вялікую паэму напісаў... Знаеш, што такое паэма? кніга такая... Напісаў—не прапусьцілі...галоўліт. Упадніцкая, кажуць... брадзягі. А надрукавалі-б—ты ведаеш колькі грошай тады я меў-бы? Ведаеш?

— Ну?

— Дзьве тысячы!

— Дзьве тысячы?!

— Ага!

— А-а-а. А гэты галоўліт мабыць нейкая шышка вялікая?

— Якое там... У мяне онь... апошнюю рэч на ўсе мовы надрукавалі... За тры радкі—паўсотню абяцаюць!

— Няў-ужо?

— Ага.

Бацька тарашчыць вочы. Маці ўзялася пад бакі. Ганна сьмяецца з падваконьніка ў радасьці.

— Ня верыце!? Нават дарогаю едучы напісаў:—

Прывёз да бацькоў кватэры
Мяне сусед Хвядот.
А на плоце коцік шэры
Умывае лапкай рот...

— Дык цябе-ж не Хвядот, а Лявон прывёз.

— Ат, маці, ні кляпа не разумееш. Гэта-ж каб складней. Ня ўсё роўна ці Хвядот, ці Лявон.

— А ня ўсё роўна: Хвядота ў нас і з агнём нельга знайсьці, а Лявон—сусед, добры чалавек. Ты яго ў кніжку ўпішы. Дый нас не забудзь. Пра мяне напішы, як я цябе сустракала, ды як гадавала, ды як у горад выпраўляла.

— І пра мяне таксама—як гарэлкаю частую,— усьміхаецца бацька.

— Пра гарэлку пісаць нельга—упадніцтва скажуць, але... як-небудзь успомню.

— Ні як-небудзь, а добрым чым кольвеча...

III

Ня сьпіцца ўночы Янку. Перад вачыма—прыгожы вобраз дзяўчыны. Стройная. Каштанавыя кудзеркі. З-пад чорных брывей—пырскі сінія.

„Навошта я яе ўгледзіў — думае Янка—навошта гэтая вечарынка была. Хіба для таго, каб сэрца непакоілася".

Варушыцца пад стрыўкай дзяругай. Праз тонкую бялізну дакранаюцца да цела асьцюкі.

А цела гарачае.
Напружаныя нэрвы.

Успамінаецца:—

...Зірнула на яго. Усьміхнулася. Нешта чыстае, прывабнае было ў гэ-

тай усьмешцы. Румяныя губы шапталі нешта. Можа яны й моцна гаварылі, але ня чуў—гармонік заглушаў.

А скача як!

Нібы матылёк кружыцца ў полі.

І сьмяшок такі ўдалы.

Янка сіліцца—уяўляе ўсе дробязі.

Перабірае ў памяці: вось яна жартуе з ім. Адхіляецца. Пасьля вочы прыжмурвае. Сьмехам пападжваецца. Гарэзуе.

А ён пытаецца:—

— Вы мусіць дзе вучыцеся?

— А нашто гэта вам?

— Так сабе. Я, здаецца, дзесьці ў горадзе вас бачыў. Вы-ж ня тутэйшая? Праўду кажучы, хоць я ўсіх сваіх вяскоўцаў і ня ведаю, але...

— Такое як я ня бачылі, бо... так, я вучуся на рабфаку. Цяпер на вакацыях. Прыехала гасьціць да Стасі Кулікоўскай. Яна мая таварышка.

— Ага, дык суседкаю будзеце. Мы-ж ня так далёка ад Стасі й жывём.

Вельмі прыемна мець добрую суседку—а як вас можна зваць?

— Ды ўсяк можна.

— Ну, як-жа ўсяк—імя-ж адно маеце.

— А хіба вам ня ўсё роўна?

— Не, ня ўсё роўна.

З пафосам:—

— Я хачу, каб ваша імя было кветкай у маіх уласных одах.

„Уласных“—дадаў цьвёрда, падкрэсьлена.

— Нінай завуць.

Маліноўскі ледзьве пачуў. Магчыма проста па руху вуснаў дагадаўся.

— Ніна... Ніначка—прыгожае імя.

**Г**аварыла:—

— Я вас чула недзе.

— А, ведаю,—у газэце.

— Вы селькор?

Абразьліва, з дакорам і гонарам:

— Выбачайце... Паэта, пісьменьнік.

— Дык вы пішаце вершы?

— Але, пішу.

— Напішэце мне што-небудзь на ўспамін.

**М**аліноўскаму імя яе—нібы сьвятыня. Нават гаварыць хочацца гэтае імя, паўтараць многа разоў.

Няўжо каханьне?

— Ніна... Ніначка...

Гарачыя рукі працягваюцца з-пад коўдры. Нібы злавіць хочуць хоць гэтае слова, хоць выбражэньне, каб чуць, каб песьціць, цалаваць каб.

Адкідае коўдру. Душна. Зрэнкі гараць у цемнаце. Ніжуць яе. Вырываюцца за сьцены.

— Няўжо аўладала так?

**М**есяц выкаціўся з-за хмары. Сунуў сівую бараду ў вакно. Жывым срэбрам заліваецца падлога і стол.

Такая напружаная цішыня.

Такія распаленыя вочы.

Такія пруткія нэрвы.

## IV

**Д**ні бягуць.

Праходзіць лета.

Праходзяць бабскія плёткі.

А гаварылі:—

— Чулі?—Маліноўскага сын нейкім важным там у Менску.

— Я чула—паперку напісаў. Дванаццаць тысяч рублёў даюць.

— Хы-хы-хы... Ха-ха-ха-ха...

— Сьмяешся?—спытайся ў Зьмітрака...

— Дык дзіва,—паглядзі, які склеп Маліноўскія ля сьвірна паставілі. Гэта яны толькі так бядняцца.

— А я чула, што яму самому з дому памагаюць.

— Эт, слухай ты іх,—гэта каб не зайздросьцілі.

— Праўда, сястрыцы, я чула, што яны вялікія грошы ў кубле хаваюць. Нехта казаў, што, калі прыехаў сын—сто рублёў прывёз.

— Глядзі ты. Разумны чалавек з гэтага Янкі выйдзе.

— Не здарма гарадзкая гэтая, Нінка, на яго прыглядаецца.

— Тота-ж.

**А** маль штодня Янка ходзіць да Кулікоўскіх. Там, у садку, пад бэзавымі кустамі часта сядзіць з Нінай. Грае на гітары любімы раманс:

„Ночи бессонные, ночи безумные“...

Ніна слухае. Але неяк няўважліва ўжо. Проста—ад таго, што няма чаго

рабіць... Хай грае. Іншы раз нават доўга сама сабе думае. Нават забываецца пра яго.

— Ніна...

— Ну?

— А ты памагла-б—сьпявала-б.

— Ай, кінь ты, нашоў што сьпяваць. Лепшае песьні нават ня прыдумаеш, барахло нейкае.

Ён злуецца. Заўважае, што нешта між імі паўстае. А ці даўно сама лашчылася. Гневалася, калі ня прыходзіў. А гэта...

— Ты гневаешся, Ніна?

— Ды не, але ты надакучыў з гэтымі рамансамі. Можна што-небудзь іншае прыдумаць. Наогул...

— Нінуська...

Гітару адкінуў у бок.

Нахіляецца да яе. Шукае стану. Рука сьціскае пругкае цела: маладое, гарачае.

— Пакінь... Я не хачу...

Губы шукаюць губ. Злавілі. Застылі. Раптам:—

Пякучая пляма на шчацэ.

— Ніна, за што?

Ніна стаіць гордая з зьнявагаю ў вачох. Грудзі ўзьнімаюцца. Дыхаюць нейкаю злосьцю і агідаю.

— Можаш убірацца. Я думала ты сур'ёзны чалавек, а ты... дробязь, якую выграбаюць з сьмецьцем. Сапсуты чалавек, які мог схапіць толькі бруд гораду, а не яго прыгожасьць і сілу. Ад цябе пахне тым, што абзываюць мяшчанствам.

— Гэтага ня сьмей гаварыць!

— Гавару і буду гаварыць, бо ты іншым быць ня можаш.

У Янкі злосьць і бясьсільле. Пагарда і нікчэмнасьць. І гэта яна кажа яму, Янку Маліноўскаму, паэту,— Яна! Чым паказаць, што ён ня лялька і не пустальга?

Рука хапае гітару, падымае над галавою.

Храбуснулі тонкія рэбры-шчэпкі і абарваўся голас струн.

— Гэта ты так з людзьмі паступаеш. Бачыш?—яна разьбітая, а ты цешся, бо гэта-ж разьбіла ты.

— Калі я разьбіла—я магу спакойна йсьці.

— Ніна! Ня трэба так... Чакай... Постаць хаваецца ў вечары. Хаваецца так, як і гэтае сонца схавалася: у бары вячэрніх праменьняў.

## V

**А**д чаго так чайка дзіка галосіць у полі? Працяжна кліча так. Шукае мусіць кагосьці.

А можа гэта здаецца?

Можа гэта сэрца?

Маліноўскі ідзе дахаты.

У нутры—каменьні вострыя, нашчаманыя, пякучыя. І гэтая сьцежка жорсткая нейкая. Вузкая. Куды яна вядзе?

Во—жыта.

Каласы шамаюць.

Яны нешта мусіць ведаюць пра Янку.

І здаецца Маліноўскаму:—не каласы гэта, а цэлая зграя злыдняў, і вось яны зараз будуць рагатаць з яго. Пакладуцца ад сьмеху.

Злосьць ахапляе студэнта.

Дзікая. Незразумелая.

Невядома чаму — рука вылоўвае васількі, з карэньнямі. Сіняватыя! Ці ня вочы Ніны?

**А**д чаго гэта?
Што сталася?

Зьняважыла. Насьмяялася. За што? Хіба не сама прасіла яго не забываць Ніны? Хіба не сама звала яго на рэчку вудзіць рыбу? А пярсьцёнак? Сама-ж дала ў падарунак пярсьцёнак, залаты, з сінім каменьчыкам! Казала: „Хай гэты каменьчык напомніць табе мае вочкі, аб якіх ты сьпяваеш".

Ці гэта можа так сабе?

Можа ня было дзе дзець?

Можа й тады, даючы, сьмяялася?

Так—сьмяялася! З дурошчаў зрабіла так. А ён і не заўважыў. Не зразумеў. Які-ж ён дурны быў.

— Не, ня дурны, чаго там! Сама дурная. Усе яны такія. Любяць мучыць нас... І вучыць яшчэ думае... Мешчанін.

А можа так гэта?
Можа яна яшчэ прыдзе?

— Не захачу! Не вазьму! Мяне абразіць?!

Рукі жмакаюць кулакі. Па жылах пераліваецца, нібы шэлест у жыце, прыдушаная, густая злосьць. І ноч насоўваецца. Чорная. Гадкая. Глухая. Пустая, але звонкая.

VI

Ноч.
Месяц сунуў сівую бараду ў вакно.

Жывым срэбрам заліваецца падлога і стол.

Маліноўскі ў пасьцелі. Ня сьпіцца. Цені нейкія варочаюцца ў мазгох. Пераблытваюцца. З іх складаецца пасьля адзін вобраз: строгі, стройны, з апушчанымі павекамі й каштанавымі кудзеркамі. Вобраз такі ціхі, лагодны. Блізіцца да яго. Нават лёганькае шастаньне адзеньня чуваць. І водар валасоў...

Раптам:—

Вочы суровыя
Пабліскваюць пагардаю.
Набліжаюцца.
Хочуць пранізаць нутро...
Разрастаюцца...

Маліноўскаму холадна робіцца.
Хоча прагнаць вобраз.
Нашто ён?
Няхай ня мучыць!
А можа ён і ня мучыць?
Можа палашчыць хоча? Гэтак, як некалі.
Не:—
Шырокія сінія вочы сьмяюцца.
Пырскі сьмеху дратамі расьпечанымі колюцца
— Нягоднік!
— Мешчанін!

Мускулы твару дрогаюць. Сэрца камянее ў немачы. Рукі калоцяцца.

Маліноўскі паднімаецца.

Запальвае сьвечку.

З блёк-ноту вырывае чысты ліст. Рашыў: — „хутчэй трэба, пакуль сьпяць—каб ня чулі“.

Аловак нэрвова бегае.

Балючая, глыбокая ўсьмешка—„Можа пашкадуе?“

На паліцы шукае нечага. Знашоў. Рукі калоцяцца. Налівае ў кубак з пляшкі нейкую вадкасьць.

Бацька варушыцца ў ложку.

— Што ты там робіш, сынку?

— Нічога... вады шукаю.

Час ужо. Бацька заснуў. На стале вобмацкам знаходзіць кубак.

Кубак трапечацца. Сэрца стукае. Каля вушэй—тузаніна нейкая. Цела жорсткае, напятае.

А во зноў вобраз.

У вачох чыстыя кроплі сьлёз.

Просіць, каб ня губіў...

Шкадуе...

— Н-не!

З прагнасьцю засап каўтае.

Вочы цемняцца.

Кубак бьецца аб падлогу. Пах воцату разносіцца па хаце. Глуха валіцца на лаву цела.

Жонка, а жонка!

— Ну?!

— Хто гэта стукае?

— Дзе?

— Запалі агонь.

Чыркае сернічка.

— Ай... Янка!

Усхватваецца сям'я. Паднімае лямант. Янка хапаецца за грудзі. Стогне. У рот ліюць сырыя яешныя бялкі з содай. Ратуюць.

Паперка. Ганна чытае. Праз сьлёзы ледзьве разьбірае літары. А яны тлустым радком стаяць і складаюць словы:

**Перадаць Ніне-рабфакаўцы.**

Ніжэй дробненька алоўкам:—

В этой жизни умереть не ново,
Но и жить, конечно, не новей.

Пад гэтым эпіграфам і зноў буйнымі літарамі:

О, жыцьцё мае, залатакудрае,
Разьвітаюся я з табою.
Паміраймце мае думкі мудрыя,
Хай ня будзе мне Муза рабою.
Ніна, Ніна—я хворы паэта...

Далей не разабраць. Літары нэрвовыя, размашыстыя.

Ніна атрымала ліст.

Нешта глуха ўдарае ў голаў.

Нават у вачох пацямнела.

— Праз мяне. Дурная я... Ня ўмела йначай... Згубіла чалавека...

Дзьве кроплі сьлёз выступаюць на веках.

Але раптам:

— Каго шкадаваць? Злыдня? Таго, што ўсё роўна памірае пацїху, як сьвечка растапляецца ў нашым жыцьці? Хто згубіў сваю дарогу і хоча знайсьці яе ў балоце абывацельшчыны? Хто шукае здаваленьня і ідэалаў у распусьце і п'янстве?—Не! Слабасьць мая жаночая плакаць над ім. Ня трэба... Толькі ня так я зрабіла. Іначай трэба было. Паправіўся-б можа...

Дастае аловак. На адвароце піша Маліноўскім ліст:

*„Паважаныя Маліноўскія.*

*Я спачуваю вам. Страта адзінага сына—вялікае гора, але сьмерць Янкі рана ці позна павінна была быць. І менавіта такая, бо вы й самі ў многім вінаваты перад гэтым. Янка зьвіхнуўся ў жыцьці і яму „жить, конечно, не новей“.*

*Калі я й вінавата, дык толькі ў тым, што раней не сказала вам гэтага.*

*Ніна.*

Гэтага-ж дня Ніна паехала ў горад.

Праз два тыдні яны сустрэліся.

Ніна йшла па вуліцы.

Адратаваны Маліноўскі з сваімі сябрамі, з налітымі вадой вачыма выходзіў з піўной. Яго падтрымоўвалі пад пахі.

Параўняліся. Ніна ня зірнула. Хацела абмінуць, але з-пад раскамлычаных і навісшых валасоў, студзёнымі вачыма, пазнаваў Маліноўскі.

— Пусьцеце, хлопцы! Я... адзін...

Ужо праходзіла, але аклікнуў:

— Таварыш Ніна, чакайце!

— Чаго вы хочаце?

— Я хачу вам сказаць, што я...

— Вы п'яны—ідзеце адпачнеце.

— П'яны? Ха-ха-ха-ха... І вы думаеце нічога ня памятаю? Ня знаю, думаеце, нічога? Знаю! Вы... сьмяяліся, калі я мог плакаць... Сьмехам давалі падарунак. Цяпер вучыць хочаце... ня піць. Ня трэба! Сам знаю, чым мне жыць!.. А ваш гэты... падаруначак пра сінія вочы я—прапіў... ха-ха-ха... Прапіў, як і вы прапіваеце памяць. І буду піць, бо хачу, бо... вам ня хочацца, каб я піў... Бывайце. Я вас больш ня ведаю...

---

Гэтак дагараў Маліноўскі.

А дні званілі, пераразваньваліся.

Цягніком імчаліся наперад.

Крушылі перашкоды...

Рухалі жыцьцё...

Шпарка ідзе мэліарацыя балота.

Высыхае іржавая вада.

Высякаецца лазовая зарасьль.



**Ардзём Вясёлы**

# Вольніца

Вясна васемнаццатага. Першая *наша* вясна. Кубань, Чорнамор'е, Новарасійск, Рэсэфэсэрыя. Пыл, тлум, крык, лютаваньне, паводка—урывістая вада...

Усю дарогу гутаркі ў вагоне.

Аб чым крыкі? Аб чым спрэчкі? Усе справы ў адно кольца прыводзь: бі буржуяў, бі, душа з іх вон! Усё наша. Галава—мы. Кінці—мы. Беламордыя? Што нам беламордыя,—сіла наша. Усіх патопчам. Усіх парвём. Простанародная рэвалюцыя: плач і стагнаньне, песьні і сьлёзы.

Насустрач, пад Таннэльнай, два эшалёны папаліся—урэзны франтавік, кроў родная. Стогнэ Дніпр, стогнэ шырокі. І ўсе аднаго напрамку: дзюбануць. Усе махаюць вінтоўкамі і страшнымі галасамі эрзэрумскіх вышынь равуць:

— Далоў Хвілімонава...

— Рві кадэцтва...

— Поіздылы, попылы... Тэпэрычка мы поіздымо...

— Крый, таварышы...

— Капіталу няма зьлітаваньня...

— Далоў...

А Хвілімонаў глаўкаверх царызму па-на Кубані. У годнасьці свахі гад паўзучы—вайсковы, казачы круг з радаю спарываў. Але мы раз і на заўсёды супроць усяе гэтае хэўры. . бойкі навакол рыкацяць пад Цімашэўкай, Ціхарэцкай, Невінкай. Скрозь бойкі: па ўсёй Тамані, па-над Кубаньню, аж да самага Царака. Сапраўды, далоў генэрала Пакроўскага. Дужа шкодны генэрал для сялянскага насельніцтва.

Ду-ду. Ф'юрр...

— „Березай, вылезай“.

Новарасійскі гарадок. Станцыя Новарасійская.

— Дзе камэндант?

— Ах, браточак, сур'ёзныя справы...

— Франтавікі не падгадзяць—у адзін моэнт абробяць справы ў лепшым выглядзе...

— Эх, ваша благародзьдзя, трымайся, не валіся... Франтавік ён...

— Дзе камэндант? Пад дзявятае яго рабро!

— Ёсьць.

— Дабрыдзень.

— Ваш мандат.

— Тутачкі.

Правільны мандат: станічнік Максім Кужэль, як дэлегат па зброю. А камэндант, з учора, разваліўся ў мяккай фатэлі і языком ледзьве-ледзьве.

— Не ад мяне залежыць...

— Як так?

— Так.

— Ды як-жа так?

— Гэтак.

— *Ды які-ж ты і камэндант, калі зброі ня маеш... А калі экстраны напад контры?*

— Не ад мяне залежыць...

— Га, чортаў сынок!

Плюнуў дэлегат цераз камэнданта на сьцэнку, давай у горад зрывацца. Савет рабочых, салдацкіх...

На ўсходцах народ, у залях народ—рукі не праб'еш. З Чорнамор'я мужыкі. Малдаване з Джубгі, Дэфанаўкі, Сапсульскай. Матросікі лётаюць

туды-сюды: дзе-б гарэлачкі дрызнуць. Тут-жа невядомы салдат срыбраныя талеркі прадае.

Паштырхаўся-паштырхаўся Максім; хадоў не знайсьці, і праняў яго такіта апэтыт, такі апэтыт... Прымасьціўся на падваконьніцы, хлеба адламаў і вось-вось за сала... зірк: дарагі таварыш Васька Галаган кажа:

— Здароў, галубок.

— Ды няўжо-ж ты жывы застаўся?

— Э-э, мяне не бярэ ні шрот, ні куля...

— Ай, рады я страшэнна.

І вышла тут экстраная гутарка. Сьмяецца Васька—адкрыты прыяцель... Падманіў таварышоў ды ну апавядаць, як з Максімам у трубе начавалі, як удвох па тэлеграфу горад каўкаскі ўзялі. Сьмяюцца матросы: атынкоўка са столі сыплецца, савецкія шпалеры вянуць—стружкай па сьценах завіваюцца.

— А ў Савет тутэйшы ўсякая брадзяга панабівалася: і бальшавікі, і меншавікі, і кадэты, і эсьцервы... Зброі табе, салдат, не дастаць.

— Як так?

— Ды так.

— Ды як-жа так?

— Ды гэтак.

— Шчо-ж, цэ такі за совет, колы зброі для добрых людэй нэ прыготоваў. А колы екстраны напад контры? Воны і вусом нэ моргнэ...

— Не па прызначэньню папаў.

— Іэ-х, сэрцу стала смутна. Зачапіў Максім Ваську за рукаў, давай маліць-прасіць:

— Васёк, таварыш падсэрдэчны... За што мы пакуту несьлі, трудзіліся? Далоў залатую шкуру. І нашто нам кіслая меншавіцкая ўлада? У контрах уся Кубань—трыццаць тысяч казакаў. Што тут рабіць і як тут быць!

— Заспакой ты сваё салдацкае сэрца.

— Будзь упэўнены, зброю дастанем.

— Слова—волава.

— Дапраўды, далоў кіслу меншавіцку ўладу...

— А Савет, Савет—чхі!—будзь здароў цацанка!

— Уся ўлада ў нашых руках... Харомы, палацы і гэтак далей.

Узрадаваўся Максім. Ды ці так узрадаваўся—сала і хлеба акраец на падваконьніцы забыўся.

Кагалам прытупалі ў гасьцініцу „Расія“. Малюнкі, канапы гэтыя самыя ды фіранкі—чысты шоўк. Барахла панавальвана, барахла: сюды павернешся—чамадан, туды—клунак, удвох не падняць. Рашпілілі пляшачку, другую. Успаміналі з Васькам, як на аўтамабілі міма дарогі часалі,—выпілі. Пра трубу ўспамянулі—яшчэ выпілі. За папоўскі бот зноў выпілі. А пасьля таго вывеў Васька госьціка дарагога цераз шкляныя дзьверы на тэрасу. Вывеў дый паказвае:

— Вунь немцы ў Крыме. Вунь Украйна, краіна хлебародная, усю яе зваявалі, сьцярвюжыны, а флёт наш сюды адсунулі.

— Немцы?

— Немцы, Максім, немцы... Шлёмблём давай флёт па брэст-літоўскаму. Жарты! Распусьцілі мы дымок—сюды ўпілітавалі. Вып'ем віно да астатняга вядра, далей паедзем, разбурым усе берагі і з гонарам памрэм.

— Вася, навошта паміраць? Памерці—справа ня хітрая...

— Я? Мы? Ды ніколі. Усё прайшлі з бойкамі, з агнём: гайдамакаў білі, Раду білі, пад Белградам Карніла шарахнулі, з Каледзіным хапнуліся, у Крыме з татарамі біліся, афіцэраў тапілі ў пучыне марской... Калі афіцэр—фактычна контрык...

— Бі тычкам. Бі з навесу. Бі наотмаш. Хрулі гадаў.

— Справідлова, дзядзька. Поўны зварот сабатажу. Увесь шлях пад сабатажам. Мокравусаўскі атрад—чуў? Наш атрад... Чорны флёт... І кругом цяпер судавыя камітэты—наша братва: чумазая, нячэсаная, ніводнага ў акулярах няма. Дні і ночы ў нас сходы і мітынгі, мітынгі і сходы. На дні выпіхаем па тысячы рэзалюцый—прысягаем, прысягаем і прысягаем: бі контру. Баста...

— Правільна, ад Новарасійска мора пачынаецца. Караблі гуськом. Увесь чорны флёт. Карматкі, дымок, сьцягі

сьвяточныя. Раніцамі з дрэдноўту „Воля“ малым токам радыё па ўсёй эскадры:

У
сім
усіму
сімсягон
ьняўвечарыў
горсадуадчынен
аясцэнанавольнымп
аветрыканцэртмітынг
шампанскаебалдараньня
ўваходвольнываенморызап
рашаюццабезвыключэньняняха
йжывеняхайжывеняхайжыведало
ўдалоўняхайжывевольнычарнамор
скіфлёт Тройка.

Каманды на беразе. Дванаццаць тысяч матросаў на беразе.

Колькі гэта тлуму.

Гасьцініцы і дамы буржуйскія ломяцца. Харомы, палацы і гэтак далей. Савет, што Савет! Лепш аб ім не гаварыць, і слоў ня траціць. Давай шампанскага—і кіслы савет з бяздонных сутарэньняў Абрау-Дзюрсо перакочваў на караблі шампанскае. У тыдзень па два вядры на лыч. І цана сходная—дванаццаць рублёў бутэлька—цьвёрдая цана. Хапала і гарэлкі, мікалаеўскае, белагаловае. Сьлязу выбівала, за сэрца брала старарэжымная, злосная гарэлка. Савет—чхі!—будзь здароў—пагрымушка з гарохам. І такое бывала: ноччу, загнаўшы ўсіх стаеньнікаў і дзеля сьмехуператапіўшы хурманоў у віне і керанках, падвальвалася да Савету буяная хэўра, абвешаная бомбамі, кольтамі...

— Давай аўто!
— Тыл—штацка правінцыя.
— Душу вымем.
— Го-го-го...
— Давай аўто!..

Высунецца ў ваконца дзяжурны член, у шынэль апрануты.

— Таварышы, я сам чатыры гады кроў праліваў, але аўтамабіляў у Савеце няма... Вы, як сьвядомыя, павінны...

— Ботай.
— Куды падзелі?
— Прапілі?
— Немцам хаваюць.
— Душу выдзерым...
— Таварышы...

З натаўпу для забаўкі стралялі. Мо‘ ўгару. Мо‘ ў члена прамахваліся. Ня кожны, скажам, разуменьне аб прыцэле мае. Так.

А член кідае:

— Я ня супроць... Я сам франтавік... Замест аўто Савет выставіць пяцьдзесят бутэлек шампанскага.

— Мала...
— Не залівай нам.
— Бач, франтавік,—нажаваў лыч як...
— Мала!
— Дзьвесьце...

Сходзіліся на сотні.

Усяк бывала.

Дзяўчаткі-мармулёначкі да аднае за маракамі. Віхром вясельлі. Дашчэнту гульня. Вясельныя цугі кішкамі. Праз увесь горад. Скрозь. Вясельлі кожную гадзіну, кожную хвіліну. П‘нка-гулянка. Дым-гураган. Жыцьцё на поўны ход. Хрыплыя жанішкі. Нявесты—першы сорт карамелькі. Дружкі, таварышкі, цётачкі—як належыць. Пярсьцёнкаў — гураган: з пальцамі насеклі ў карніл-афіцэраў. Шлюбы, лахмачы асіплі. Музыка дах ірве. Грошай шмат. Усе скачуць. Усе пяюць. Дым у неба.

Жэніцца Васька на буржуйскай дачцы. Грошы ўсяму шапка. Васька з Маргарытачкай на покуце за сталом сядзяць, адзін аднаму ўсьміхаюцца. Маргарытачка ў форменцы—маладога падарунак. Куражыцца Васька. Ушчаміў яе за хрыбецінку. У міндальныя губкі цалуе. Віно п‘е, шклянкі б‘е, пахвальваецца:

— ... у натуральным выглядзе з падліўкаю...

— Эх, і вясёлы-ж народ матросы! Дэлегат па зброю, Максім, сярод іх, як іржавы курган у зялёным стэпу. Думка грызе—і як-бы зброі разжыццца—чакаюць станічнікі... Хоць, якая тут зброя, калі Васька жэніцца?.. Адгуляем, адскачам і...

Іржэ братва, на слова ня верыць:

— . . . . . . . . . . . . . .
— . . . . . . . . . . . . . .
— Га-га-га!
— Го-го-го!

— А-ха-ха-ха!

Васька пузырыцца:

— Што я вам,—кажа,—чувырло якое?

Васька з двух шпалераў на пад залог садзіць у пустыя бутэлькі, што настаўлены на раяль. Бабы вішчаць. Братва цешыцца. Чачотачку, паўзунка, жабку як трасяне-трасяне Васька, локці на адлёт:

— Ірві ночкі...

— Раўняй дзянькі...

Бацька, гэта значыць буржуй іхны, бязумоўна, скача. На карку памяты брыль. Горла буржуйскае шырэй за халяву разношаную. Рве камарынскага на дэмакратычных пачатках:

— Ааррара... Ааррра...

Іржуць матросікі. Над буржуем падсьмяхаюцца:

— Не. Прасьпявай-от ты нам яблачку...

— Страсяні брыламі...

— Павесялі гасьцей...

— Сып на ўсю залатоўку...

— Уморушка-Тацьцянушка...

А мамулька, гэта значыць буржуйка іхная, дыхае над галубкамі. Пылам сьцелецца:

— Дзяўчынка яна ў мяне чуткая, далікатная. Гімназію з залатым мэдалем... Ужо вы, Васіль Пётравіч, вельмі прашу, будзьце з ёю ласкавей... Яна зусім, зусім дзіцё...

Ваську ад расчуленьня сьляза прабівае:

— Мамуля, ды хіба-ж мы не разумеем... Ды-ж я ўсе стараньні...

Маргарытачка за раялем трэньбрэнь, яе васковы галасок гасьне ў мутным вантробным равеньні:

Ах, ты, яблычка,
Ды з боку кручана...

І на вуліцы пад вокнамі падхопліваюць з подсьвістам. Не зразумееш, плачуць ці сьмяюцца шыбы, і ў рамы лыч дзіка-вясёлы:

— Э, ды тут гулянка...

Пад вокнамі лятучы мітынг:

— Вясельле.

— Ну!

— Верная справа.

— Заляцім, братва...

— Валіся...

— Заходзь, брацікі, заходзь... Месца хопіць. Віна хопіць...

— Нашто-ж біць вокны?

Раніцою з пахмельля:

— Ах, ах...

— Дзе малады?

— Няма маладога!

Прапаў малады.

Цёшча плача. Маргарытачка бялугаю раве: ахарошвае ягадкі памятыя. Дружкі пахмяляюцца, да таварышак падсватваюцца. Дзетвара выціскае з бутэлек пахмелку.

Няма Ваські.

Выходзіць, на фронт махнуў. А мо' і не на фронт. Увечары нібыта бачылі Ваську—у гортэатры люстэркі біў. А заўтра, чуеш, нібыта ўкахалася ў яго „артыска“. „Зафалаваў“ Васька „артыску“ французскую. Разраз—па руках—і ў лазьню. Жыцьцё таму Ваську. Куражыцца, ныгоднік: „артыска“, прынцэса, баба звыш усякіх правоў.

Прышлі хлопцы гуляць і бачаць: „артыска“ не артыстка, а самая запраўская патаскуха—Клаўка Банцік. Хто-ж ня ведае Клаўкі Банціка? Васька, нашто добрага сэрца чалавек, і то зароў.

— Ах, ты, кудлячка!..

Пляхнуў ёй пальцам пад рэбрынку раз, другі—і ў разьліку: чалавек Васька бяз хітрыкаў.

Стогнуць, калышацца дамы.

Скачуць вуліцы.

Прыхіліўся „ходзя“ да „Расіі“. Па невядомай прычыне плача „ходзя“, разьліваецца:

— Вольгуля, мольгуля...

Выкаціліся з „Расіі“ хлопцы і наваліліся на „ходзю“:

— Хам...

— Гам...

— Кітаёза...

— Чарапашын хвост.

— Што азначаюць твае сьлёзы?..

— Вольгуля, мольгуля... Мая лабіла, лабіла ўсе глосы плалабіла: папілоса няма, халепа няма.

Сьлёзы гэтыя з яго так і пруць.

— Ха-ха!

— Гу-гу!..

— Небарака, абскрабі сьлязу, едзем з намі.

— А-яй, дзівачына, кругом слабода, а ты плачаш.

— Едзем...

— Мая топла, таваліса...

— Эх, разьвезла, размазала.

— Стой, не валіся.

У дыміну п'янага дэлегата Максіма ў дзесяць рук упіхнулі ў рэквізаваную архірэйскую карэту з праламаным бокам. Уваліліся—Галаган, Сувораў, кітаёза, яшчэ нехта. Сарвалася пара, убраная ў чырвоныя касьнікі. І ў коняй сьвята. І коням весела.

— Пашоў!

— Гушкай, гушкай!..

— Рві маліну!

— Сячы самародзіну!

— Хха, фьюююююю!..

Памятаў Максім станіцу. Фронт памятаў, гнедзенькага жарэбчыка Сокала. А словы, як ракі п'яныя, распаўзаюцца:

— Вася... Родны... Госпадзі... Брацікі... Контра ўся Кубань... Трыццаць тысяч казакаў...

— Пачакай, і да казакаў дабярэмся і іх на месяц шпіляць будзем.

— За што мы пакутуем?..

— Не расстройвай, салдат, ты сваіх нэрваў... Усіх беламордых пераб'ём і баасстаа—астанецца адна пралетарыя...

— Зброю табе дастанем...

— Павінны мы пагуляць... Першае сьвята ў жыцьці...

— Вася...

Гартэатр. „Гейша". Цікавая штука. Радаваўся кітаёза, як малое дзіця. Сьмяяўся кітаёза, у далоні прыплясківаў:

— Уф, мая топла...

Максім пад крэсламі стаў. Трое ў карткі перакідаліся на заднім пляне. А Галаган з Суворавым панастаўлялі побач лёжы бутэлькі. Хлёбалі шампанскае. „Гейшай" цікавіліся і языкамі прычмоквалі:

— От гэта так!

— Бравааааааааааааааааааа!..

— Вахтаналія!

Разбудзіў Васька Максіма.

— Едзем!

— Куды?

— За грашанятамі на дрэдноўт „Свободная Россия". Адчыніў Галаган куфэрак куты: керанкі, мікалаеўкі, грыўні, карбованцы, бранзалеты—усё на сьвеце. Падарыў сябручку бінокль Цэйс на тры фазы.

— От і партабаку бяры... Не сумнявайся: партабака сем каратаў...

У дэлегата рукі трасуцца. Бінокль запазуху сунуў. Партабаку ў кулак утапіў. Падмаргнуў дэлегат Максім:

— За два аглядкі куплена.

— Ні божа мой... Рабаваць? Ніколі нідзе на грош не ўваравалі. Усё ў зьмёрлых адабрана. Скажы, нашто нябожчыку партабака ў сем каратаў?

Максіму, бязумоўна, крыць няма чым. Памацаў бінокль за пазухай, азірнуўся:

— Паказаў-бы ты карабель мне Вась... Э, недзе, махіна...

— Можна.

Спушчаліся ў качагарку. Васька сыпаў:

— У нас на мінаносцы „Пронзительном" трыста мясцоў золата на палубе без аховы валяецца, ніхто пальцам не кране. А ты: нарабавалі... Тут, браток, асобая шруба ўпору... Разумець трэба.

— Золата?

— Трыста мясцоў, золата з кіеўскіх—харкаўскіх сэйфаў... Мы, браток...

Чорна, чадна.

Топкі гарачынёю пляскалі, раўлі ветрагонкі. Забітыя вуглёвым пылам, задымелыя качагары ў рукавіцах без кашуль. Бегалі, маталіся. Грукалі ламамі. Падломвалі скіпелы шлак. З вуглёвых ям на руках чыгунныя дзежкі падцягвалі. Соп, равеў агонь у топках. Вугальныя лямпкі ледзьве дыхалі.

Максім уцёрся:

— Вельмі горача.

Падаючы на яго, Васька крычаў:

— Гэта што... Два катлы пушчаны... Гэта што. Во калі ўсе дзесяць накруцім... уууууу... Гарачыня восемдзесяць... Ветрагонкі—сыстэма старая, слабая цяга! Гарачыня—восемдзесяць. Ды-ж трэба не сядзець, хустачкаю абмахвацца. Трэба рабіць.

Без адкруту, без разгіну... Ня пот—кроў жане з цябе...

— Жыцьцё—горкія сьлёзы.

— Эх, пяць гадкоў я тут адзваніў. Цяпер сьвет убачыў. Ці-ж і цяпер не пагуляць? Першае сьвята ў жыцьці...

— Гайда!

Скокнулі ў човен. У горад паскрэблі.

Горад у агнях, у музыцы. Кафэ-рэстараны—усе за матросамі. Чорна ад матросаў.

П'яна. Пылка. Гульна.

Спрэс сьвята.

Цывільным уваход забаронены.

Гарсад. Куплетысты. Цыганы. І навакол таннасьць. У дзесяцярох за тысячу ўсю ноч з дзяўчатамі, з музыкаю, з віном. Ня любіў Васька грошай пералічваць. А грошай гэтых самых у яго з паўпуда. Прапівай—не прап'еш. Гуляй—не прагуляеш.

— Э-эх, брацікі...

— Сёньня гуляй, заўтра фронт.

— Ісус Хрыстос прагуляўся ў стос...

— Пі, усё роўна—флёт прапаў...

— Хто там бузіць?

— Бі буржуяў: грошы трэба...

„Наверх вы, товарищи, все по местам"...

— Надакучыла ўся барацьба... Дахаты...

„Врагу не сдается наш горый Варяг
Пощады никто не желаает..."

— Брацікі...

Сцэна. Вальсяночак. Яблычка. Танец „Дзьве кіскі".

— Дамачкі, мамачкі, бірузовыя васількі...

— Цыганка Аза...

— Рві рр-рр-рр ночкі... Раўнуй дзянькі...

— Сячы маліну... Ці ня хочаш гарбаты з чорнаю смуродзінаю?..

— Га, рэзвыя ножанькі, круці, круці, круці...

Смаляныя паходні скачуць. Скачуць матросы Рагачоўскага атраду. Абвешаныя яны бомбамі, кулямётнымі кішкамі, гарматамі. Пахне ад іх пылам, порахам, крывёю: учора толькі з фронту ўцяклі. Пагуляюць дзень-другі і на рамезьніках пакоцяць зноў на пазыцыю.

Пазыцыя пад бокам. Навакол байкі. Навакол вада.

— Арра барра...—Засабачвай...

— Хадзі-хадзі...—Аддзірай пяткі...

„Отречемся от старого мира,
Отряхнем его прах с наших ног"...

Наліваўся-наліваўся кітаёза на галоднае чэрава і раптам пашло з яго усё назад: мадэра, шампанскае і ўсялякія заедкі.

За сталом Максім, Васька, Ільлін, Сувораў, Абрашка—сьлесар з дэпа, мад'яр Франц і ізноў-жа ўзрушаны кітаёза. На прывольным паветры. Якар глыбіні марское. Максім аднаго за адным усіх цалуе і смаркаецца ў рукаў:

— Абрашка, дай сваю чорствую руку... І сьвядомы-ж у вас у дэпе пралетарыят—ох... Абрашка, законны пралетарыят з рабочага ладу... вочы страшаць—рукі робяць. Рукі не дастануць—рэбрамі бярэце...

— Бярэм.

— Гэта так. Гэта панашаму. Жарты?—у тыдзень два бронецягнікі зграбалі... Пад Батайскам, пад Кушчоўкай шыбка яны нам дапамаглі... Вось як дапамаглі, Абрашка... Вася, зьвярні ўвагу: у тыдзень два бронецягнікі...

І Васька частуе кітаёзу, Максіма, шкіпера Ільліна, Суворава, шасьцёрку, Абрашу, у кругавую:

— Пі, гуляй, брацікі... Сёньня наша сьвята!.. Гаспадар, давай вячэру на пятнаццаць даньняў... За ўсё плачу... Ёсьць адказ... А беламордых перадушым да аднаго. Душа з іх вон... Мы...

Хор цыганскі:

„...На горе стоит ольха,
Под горою вишня.
Буржуй цыганку полюбил,
Она за матроса вышла.
Иэх, раз,
Еще раз,
Еще много,
Много раз..."

— Больш жыцьця...

— Больш агня...

„А, ну, раз,
Еще раз,
Еще много,
Много раз,

А-ах раз,
Еще раз,
Еще сотню,
Тыщу раааааз...“

Кожная галава вясёла. Кожная галава—бубен.

Распалілася сэрца Васькава. На стол узьлез, роўма:

— Брацікі... Слухай, сюды-ы-ы...

І пачаўся тут мітынг з сьлязамі, з музыкай.

Гра
Бра
Ура
Дра
Зра
З крывёю
З мясам
З шэрсьцю.

І ноччу-ж проста з гораду на станцыю дабрахвотніцкі атрад. Ваські Галагана партызанскі атрад у дзьвесьце галоў. Навалілiся на камэнданта беспаваротна.

— Зброю...

З пятае пуці два вагоны вінтовак. Адзін Максіму дастаўся. На стрэхі пульманаўскіх ставілі кулямёты. Накладвалі мяшкі з рысам, хлебам, цукрам. Кітаёза рабіў, як чорт.

Сядаааай...

Длянь... Длянь... Длянь...

Ду-ду-ду...

Эшалён сарваўся і, грукочучы буфэрамі, раскачваючыся на стрэлках, зразу пашоў набягі.

Матай. Круці. Вінці.

Цягнік імчыцца.

Аганькі.

Далёкая дарога...

Янка Відук

# Галоп

Туп-топ!
Туп-топ!
Туп-топ!
Галоп!
Галоп!
Галоп!
Капытамі—пыл—
слуп.
Праз канаву быр-
знуў.—
І панёсься з бакамі ўсьпененымі,
раьздзімаючы ноздры ў нахроп.
Пад нагамі дарога—сажэнямі
адсякалася звонам падкоў.
А сядок на сядле—
ў даль.
Вочы роўнядзі рэжуць
сталь.
Сонца сочыцца смагай—
плашмя
(Раьздзімаюцца ноздры
ў каня).
Пералесак, лясок—
міг.
Многа ўмотана вёрст—
міль.
Шмат прабіта бандыцкіх
засад,
каб папасьці ў чырвоны
штаб!
Ужо дзень пахіліўся
ніц.
Ўжо дарогі адцяты
граніт.—
Хоць замылены чорны
конь,
але іскраць падковы
звон.
Небясьпечны апошні
скач
праз лясок і ў штабе...
— Бац!
...Куля зьвякнула.
Дзень—
скок.
Губы жмакаюць
жорсткі
пясок...
Конь панёсься з бакамі ўсьпененымі,
адбіваючы рэхам галоп.

---

Цалавала апошнімі ценямі
сонца труп
і барвяную
кроў...

Апанас Атава

# Працоўнаму веку

Ўжо нэрвовасьць
па вёсках палае,
ўжо рухавасьць
буяе,
расьце.—
Дні—агаркамі
сноў дагараюць,
Ї—гартуюцца
лятуценьні...

Як і ў горадзе,
ў вёсцы
межаў
ўжо няма,—
у бурлістых далях.
Ї званчэе
штодня—марсэльеза,
Ї штодня—
расквітае запал...

Таму часта
у грудзях пажары...
Таму часта
згарае кроў...
Глынуць
хочацца
з фабрыкі гары,—
хочацца—
ў горад з палёў...

Хоць прайсьці
па каменістых плітах,
паглядзець хоць
рабочых калёнаў,—
ды гарачую,
палкую вітань
перадаць ім
ад мілых загонаў.

Перадаць...
падзівіцца на сьвет!..
Хоць у марах...
(Няма тут сьмеху!)
Ї сказаць словам
шчырым паэты
маладому,
працоўнаму веку!

Ох, які-ж ты
бязьлітасны век!
— Падначальваеш
й сэрца законам...
— Даў удзел ты
згараць чалавеку...
— Дый жыцьця
не клясьці ніколі!..

Ну,
дык так-жа!..
Ї я не кляну!
— Прад табою
я нізка хілюся...
. . . . . . . . . . . .
Я хілюся Вялікаму жыцьцю—
і пераможным
яго салютам!..

17/XI—1927 г.

Палесьсе. Случчына.

**Апанас Атава**

# Дарогаю

То маўклівы бары,
то лугі балацістыя...
Ах, Палесьсе,
сасновы палацы!..
Еду ранкам
васеньнім
імглістым,
еду ў вёску —
на працу.

Дарога пыліцца,
дарога яміста —
ружавее усходу маяк...
— Ой ці-ж будуць
тут звоны радасьці,
а ці песьня астыне
мая??

Хто адкажа мне,
хто абмовіцца?..
— Можа бор?..
— А мо' сэрца ў грудзёх?..
— Гэтак стукае-ж, яно — кволіцца,
што чакае —
зажынкавых дзён...

Не —
ня мне гадаць!..
— Думка просіцца,
ў гэту стынь,
у вільготную стынь —
кажа: нашы дні
ў горнах носяцца,
ну —
і сэрца ня можа астыць...

І вясёлы я,
і я з сіламі,
абымаю
— Палескую шыр,
— заву ціханька,
заву мілую
і ад сэрца,
і ад душы...

Еду, еду я —
сум разьвейваю, —
а усход
— ружавее, гарыць...
Моладасьць мая!
ці ты ведаеш?
— Прычакалі мы
шчаснай пары...

То маўклівы бары,
то лугі балацістыя...
Я вітаю цябе, Палесьсе!
— Сэрца грукатам,
думкай чыстаю —
І —
рытмам
сялянскае песьні...

в. Пласток,
Случчына.



Ул. Варава

# „Начальства“

Прыгожы дзень восені. Хутка плывуць хмары з срэбрыстымі краямі.

Кувылькаецца і сьмяецца сонца...

Гарадзкі сквер. Натаўп. Пыл. Рознастайная вопратка. Рознаколерныя твары.

Вочы ліжуць адзін аднаго.

А сярод іх—Базыль Мазавец. Дзелавод, а быў—селянін.

Ён не аматар да наведываньня сквераў, але калі трэба—

чаму не...

І вось цяпер ён хмараю плыў сярод сьвяточнага натаўпу.

Шырокі і высокі.

Паношаныя чаравікі—пауфакстроты з дзюрачкамі—

так сабе, для сьвежага паветра...

Працёртыя парткі з задняга боку—

і гэта дзеля паветра...

Погляд прыкоўваецца не да стракатых вопратак, а да залацістага убраньня дрэваў.

Ён не асабліва сьпяшаецца.

Наогул, сочыць за сваёй уласнай машынай—

машынай чалавечага арганізму.

Ён ня любіў шумнай часткі скверу. Вочы яго апушчаны пры спатканьнях і ня ліжуць—

упрыгожанага падкладкамі стану.. бліскучых чаравік...

Яму не да спадобы пах, якім сапе гэты натаўп—

натаўп раздэкальтаваных і шукаючых прыгоды...

І вось сёньня ён на самай бязьлюднай частцы скверу. Падымае галаву ўгару. Ловіць вачыма хмаркі.

Дробныя.

З срэбрыстымі краямі.

Паволі пасоўваецца наперад—

пяць..

дзесяць...

дваццаць... крокаў.

Спыняецца каля лаўкі. Зьмятае рукою апаўшыя лісты—

пажоўклыя, з зялёнымі плямамі.

Базыль Рыгоравіч?!..

— Каго я бачу?!.

І да тысячы галасоў далучаецца новы—

басісты—

сіпаваты...

Тырчыць нос. Блішчаць васеньнім днём вочы. Твар увесь забінтаваны марляю.

Асабліва адзін бок—каля вуха.

Падыходзіць і пільна ўглядаецца ў забінтаваны твар Мазавец.

На вуснах усьмешка.

— Ты што-ж гэта?.. Пад Плеўнаю, ці мо' Аршаву бяручы?..

— Сяргей Язэпавіч?!.

— Я ледзьве цябе пазнаю.

— Здорава недзе падгуляў!

Сяргей Язэпавіч Падгулянскі, даўнейшы знаёмы Базыля Рыгоравіча Мазаўца. Ён займаў цяпер пасаду дзесятніка-інструктара ў аднэй з зямельных устаноў.

Меў дачыненьне з сялянствам.

Праводзіў сходы—

піў... нэрваваў.

Ён рэдка сустракаўся з Мазаўцом. А калі і сустракаўся, дык не надоўга. Гутарка была дробнаю. Наогул, яго—Падгулянскага—гутарка:

— Жаніўся?..

— Не!..

— І ня п‘еш?

— Не!..

Сёньня-ж зусім іншае. Ён сядзеў на лаўцы—

бы прыкаваны, з апушчанымі вачыма.

Быў вельмі рад хоць і гэткаму сябру, як Мазавец.

Апошні-ж не аматар быў шмат гаварыць.

Але цікавасьць, у якой бойцы пацярпеў яго колішні адважны таварыш па арміі, брала сваё.

Ну, дык што-ж ты маўчыш? Бывала, што гарох аб сьценку, розныя пытаньні, а цяпер, як той сьвяты турэцкі!..

Мо‘ да чужой жонкі падыходзіў? Аматар-жа ты да іх...

Да мяккіх падушак.

Без алімэнтаў.

— Усяк бывае. Здараецца... Але...

— Што але?! Сорам казаць? Бывае... Здараецца, як ты кажаш. Бывае, што і Падгулянскі Сяргей выбірае тую частку скверу, дзе найменш труцца—

— труцца людзкія машыны...

Сьмяяўся з мяне ты. А цяпер дазволь-жа і мне...

— Слухай, кінь, Базыль! Курнём лепш, а ў працэсе гэтага—так і быць—раскажу пра сваю прыгоду. Ня бабнік я, і не з-за бабскага адродзьдзя са мной гэтае здарэньне.

Тут зусім іншае.

Лёгкім ветрыкам падхопліваліся невялікія клубкі дыму.

Круціліся над галовамі і губляліся ў галінах дрэваў зьнізу.

Чуваць ціхуткія гукі ападаючых лісьцяў.

Ч-чах...

Ч-чах...

Паступова засьцілаецца зямля—лаўкі...

Так...

Ты хочаш ведаць і цікавішся маёй забінтаванай мордай?

Слухай-жа, Базылёк, пачынаю!

І басіста-сіпаваты яго галас пачаў. Пачаў з свайго начальства.

— Ён, гэты начальнік—Круціносаў, Піліп Уладзіміравіч.

Малады.

Інжэнэр.

Прыехаў у нашу ўстанову не асабліва даўно.

Прыехаў тады,

калі:—

было папсавана шмат паперы ў „входящих и исходящих“ і перавездзена значная сума пад‘ёмных...

Калі:—

зьявіўся ў чарцёжную і з гонарам, праз акуляры, паглядзеў на падначаленых яму, перакінуўшыся некалькімі словамі...

Калі:—

з часам кірпаты нос яго вышэй падняўся ўгору, і ўсе падначаленыя яму былі ня чым іншым, як дробязьзю...

Калі:—

у раёны выяжджаў не тады, калі належыць. Не кантраляваў там працы падначаленых, а толькі піў і еў на іх рахунак і...

Калі:—

у дадатак да ўсяго гэтага—„Падгулянскі! Боты сьцягні!.. Падгулянскі! Каб за паўгадзіны анучы былі сухія!..“

„Падгулянскі!!! З табой гаворыць само начальства!“

А гэтаму начальству ня так даўно матка скончыла—

гэта з усімі бывае—падціраць...

Ёсьць і „станоўчая“ якасьць у інжэнэра Круціносава, бо,

Ён:—

любіць выпіць і паважае кампанію Падгулянскага...

Ён:—

увёў новыя тэрміны—

гарэлка—„сівуха“, дубняк—„паддубны“, шклянка—„напарстак“...

Ён:—

слова — асацыяцыя — прыстасаваў, калі трэ‘ выпіць кампаніяй і ўчыніць шкандал...

Асацыяцыі адбываюцца вельмі часта.

Боты новыя хто зробіць—

асацыяцыя...

На спэц-вопратку атрымаеш—
асацыяцыя...
Сьвята надойдзе—
асацыяцыя...
Машынку „начальства“ выгадна закупіць—
асацыяцыя...
Нават набыццё новай шапкі і то—
асацыяцыя...

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Скончылася палёвая праца ў раёнах. Ізноў круценьне на пупох, на аграмадных чарцёжных дошках.

Пляны. Пляны. Пляны...

Атрымалі і пэнсію.

„Таварышы! Слухай начальства! Сёньня пасьля службы ўсёю братвою ў „Бар!“ Адбудзецца „асацыяцыя“. Голас Круціносава—
танклявы—праразьлівы...

Падымаюцца заспаныя вочы. Сыпяцца запытаньні:

„Гэта-ж па якому выпадку?..“

Адказ:—

„сканчэньне палёвай працы—
пераезд у горад—
атрыманьне пэнсіі...“

На гарадзкой вежы гадзіньнік прабіў тры—звонка.

Цягуча.

Мэлёдычна.

Крычыць газэтчык на рагу вуліц. Голас заглушаецца гарадзкім жыцьцём, але.

... „Троцкі разводзіць контррэвалюцыю. Ён выключан з партыі—
даўно пара“...

Паскораным крокам імчыцца кампанія Круціносава. Паўгадзіны не дасядзелі да канца службы.

Ну, што-ж...
гэта бывае...

... „Газэтчык крычыць“ „Ну, і няхай, а чытаць калі?..“

Што журавлі, рассыпаліся па хадніку. Часамі і па бруку—
бывае.

Калі трэ' абыйсьці madame—
так на 120—130 кілаў...

Нарэшце, і „Бар“.

Шыльда—

Зеленаватая, з пазалочанымі літарамі. Асабліва выдзяляюцца словы
... „моцныя напіткі“.

Амаль зусім губляецца на ёй прозьвішча гаспадара.—

Гэта цяпер у модзе...

Каапэрацыя карыстаецца посьпехам.

„Бар!..“

Асобныя пакоі. Дзьвярэй няма. Іх замяняюць шырмы.

Палінялыя.

Запыленыя.

Востры пах закусак перамешаны
з дымам-вільгацьцю.

Да агульнага шуму далучаецца скрыгат душніка. З нейкім асаблівым трэскам выскаквалі піўныя коркі.

Зьвінела пасуда.

Снавалі сюды і туды людзі. Устане другі з-за стала, а яго як пацягне ў бок—
... так і выходзілі.

А на іх месцы ўсё новыя і новыя...

Шум...
Сьпевы...
Мацяршчына...

Зрэдка і раздэкальтаваныя кабеты...

Сьмяяліся.

Стралялі вачыма.

Курылі.

Гаспадар-яўрэй—нэпман.

Аголены.

З распухшым тварам.

Прышчураным вокам акідаў гасьцей. Падыходзіў, штосьці ветліва гаварыў...

Зьвінелі грошы...

Злучыўшы два сталы, у асобным пакою засела кампанія:

Круціносаў...
Падгулянскі...
Кілішкін...

Інспэктар. Тэхнік. Дзесятнікі. Усіх шасьць. Пакой той самы, дзе блішчэў у паветры аднаго разу наган. Тая самая мэбля. Тыя сьцены. Тая шырма.

„Меню“ складала само начальства—інжэнэр Круціносаў.

Ён на гэта быў вялікі спэц.
Дубняку... Горкай...
Партвэйну... Піва...
Сыру... Селядцоў...
Каўбасы... Агуркоў...

Не пасьпявала асушыцца адно, як зьяўлялася іншае.

Моцнае, мацнейшае, наймацнейшае...

Паволі разьвязваўся язык. Салавелі вочы. Сьпеў—

П'яны сьпеў:

„Я страдала-а,
Страдану-ула
З моста в во-о-дуу..."
. . . . . . .

„Не целуй меня в засос,
Я не богородица-а,
От меня Исус Христо-ос
Никогда не ро-оди-ится...
. . . . . . . . . . . . .

„Грамадзянее-е! Цішэ-эй!.."

Голас гаспадара—

Ціхі, умаляючы...

Сядзелі доўга. Некалькі разоў выходзілі і ў двухнулёвы. Не для паездкі ў „рыгу", не, а проста—патрэба на тое бывае...

Туды вышла і само начальства—інжэнэр Круціносаў. Чапляецца за парог і разьбівае акуляры.

Губляецца начальніцкі выгляд.

Злуе. І тут хоча паказаць сябе вялікаю шышкаю.

Ляскаюць дзьверы мужчынскага пакою.

Калідор.

Крык:—

„Падгулянскі-і! Ты ведаеш сваё нач-чальства?"

Адказ:

„На службе прызнаю начальства, а ня ў піўну-ушцы!"

Вылупліваюцца вочы. Скрыгацяць зубы.

Ізноў крык:

„Скажу сёньня двухнулёвы чысьціць, і мусіш!

Адмовішся?!. Гы-ы-х!"

„А во-о, ня хочаш?!."

Горнецца вялікая хвіга. Суецца „начальству" пад самы нос. Мільганула другая рука.

Лясь!

Ізноў. Ізноў.

Лясь! Лясь! Лясь!

Крычаць. Сапуць. Разводзяць...

Супакоіліся.

Той самы пакой. Той самы стол. Валяюцца агрызкі закускі. Непарадкам—недапітыя бутэлькі...

„Слова хоча тэхнік Кілішкін!.."

„Да-ё-о-о-ш!..."

„Піліп Уладзіміравіч, ці варта рукі мараць?!."

„Як! ён прымусіць чысьціць?!."

„Прыму-у-шу!"

Рука хапае бутэльку. Падымаецца ўгару. Глухі ўдар. У вушох звон. Але нічога, стрымаўся і нават начальству кухлем

пасадзіў ліхтар на лабаціне.

Яму гэта ня першы раз, толькі

кроў, кроў, кроў...

Цёплая кроў цякла па твары, капала на вопратку.

Ізноў пачалі разводзіць. А нехта крычыць:

„Міліцыю выклікаць!"

Разьнялі.

Падгулянскі воддаль, каля люстэрка.

Начальства ўсё яшчэ ірвецца. Бутэлька паўторна ў яго руках. Але хтосьці іх трымае.

Нарэшце, выгодны мамэнт:

Ч-ча-рах!..

І шкло піўное бутэлькі пацалункам з трэскам пакранулася да

багемскага—шліфаванага.

Ня вытрымала апошняе. Люстэрка ад падлогі аж да столі—як і ня было.

З шумам разыходзілася кампанія. Начавалі ў міліцыі. Спрэчкі. Пратакол. Штраф. Разьлік за люстэрка...

Дохтар. Прысыпка. Марля...

Вось чаму хаджу з павязаным тварам.

Вось чаму выбіраю бязьлюдную частку скверу.

— Ну, і начальства тваё, а яшчэ інжэнэр!

А ты—

гнаць вас гэткімі венікамі...

Ноч.

У чорнае палінялае пакрывала апрануўся сквер...

На лаўцы, дзе некалькі часу таму назад сядзеў Базыль Рыгоравіч Мавец—Падгулянскі і—

яшчэ хтосьці з бела-ружовым тварам...

Чуваць упаўголаса гутарка... Цiснуцца рукі.

А ўгары ляпечуць пажоўклыя лісты...

Ч-чах...

Ч-чах...

Цiхутка звальваецца на зямлю—
на людзей—на лаўкі.

Дзесьці далёка праразаюць паветра гудкі паравозаў. Пяе аўто. Браскаццаць падковамі рамізьніцкія коні па вільготным бруку...

Горад яшчэ жыве-дыхае... А на краю яго, у маленькім пакоіку Мазавец за шклянкай гарбаты.

Перад вачыма газэта, а ў галаве:—
ну, і начальства...

. . . . . . . . . . . . . .



**Юрка Бітус**

# Вухкаюць заводы...

Ноч чадру накінула
На азім палёў.
Тугу сваю закіну я
У быльнёг.

Ноч.
Пажар электрыкі.
Горад сьпіць
Шалясьці, гэй, вецер ты,
Ў колах сьпіц.

Мчаць у далі годы
У ніз з кручын.
Вухкаюць заводы
У начы.

Ржа гул паветра
Тысячамі піл;—
Гэй вы нетры нетры...
Поле сьпіць.

Ноч чадру накінула
На азім палёў.
Тугу сваю закіну я
У быльнёг.

Слуцак, 1928.



**Зьм. Сьнежка**

# Удзяку Акіта

„Гэй, паўстаньце сьмялей,
рабочыя, наша перамога бліз-
ка!...
**У. Акіта**

Зразумела, ня ўсе з вас раней ведалі аб Акіце.

Яшчэ нават і цяпер аб ім ведаюць мала. Наогул, у нас на Беларусі мала цікавяцца культурным жыцьцём іншых краін.

Японія — царыца ўсходу, краіна сонца. Японія—краіна вулканаў, гэйш, землятрасеньняў... У нас мала ведаюць аб ёй, мала ёй цікавяцца... Вось чаму прыезд у Менск Удзяку Акіты мае вялікае значэньне ў справе зьбліжэньня дзьвюх далёкіх адна ад другой краін:—Японіі і БССР.

У Японіі ўсе—і дзеці, і рабочыя, і інтэлігэнты... ведаюць аб Акіце. У Японіі ведаюць аб гэтым маленькім чалавеку з глыбокімі, патаемнымі вачамі — пісьменьніка ўсходу. Маленькія вочы—і нібы ў глыбіні іх напісана эпопея вялікага японскага народу.

Цягнік прывёз яго ў Менск... далёка, за тысячы вёрст ад роднай краіны. Ён прыехаў, каб закласьці фундамэнт сувязі дзьвюх далёкіх краін.

Удзяку—гэта псэўдонім. У Японіі, як наогул на Ўсходзе, псэўдонімізіруецца толькі імя—прозьвішча застаецца. Удзяку — гэта „прамокшы ў васенны дождж варабей". Акіта — сапраўднае прозьвішча паэты. Сапраўднае імя паэты—Токудзо.

30 студзеня 1883 году на поўначы Японіі, у вакрузе Аоморы-кэн—нарадзіўся Акіта, у сям'і, якая паходзіць з племя айносаў, старадаўніх жыхароў Японіі, якія зьніклі цяпер зусім. Перад нараджэньнем паэты—асьлеп яго бацька,—жыцьцё вельмі няпрыемна сустрэла яго. „Я,—казаў Акіта аўтару гэтых радкоў,—з дзяцінства пазнаў увесь жах, усю беднасьць японскага пралетарыя".

— „Прамокшы ў васенны дождж варабей—гэта сымбаль прыгнечанага, пакрыўджанага".

Акіта на працягу ўсяго свайго жыцьця адчуваў, яшчэ цяпер адчувае, усе пакуты японскага пралетарыя. Ён абвяшчае барацьбу—на усё жыцьцё, барацьбу за вызваленьне ад гнёту, ад пакуты.

Ня гледзячы на беднасьць і розныя перашкоды, Акіта ў 1898 г. канча е элемэнтарную школу ў Куройшы і пераходзіць у сярэднюю школу ў Аоморы-кэн. У 1907 г. ён канчае Васседэйскі Унівэрсытэт па катэдры ангельскай літаратуры. З гэтага часу ён пачынае сваю літаратурную творчасьць.

У 1907 г. ён выдае свае першую драму „Пахаваная вясна", дзе ён малюе барацьбу двух вялікіх народаў—японскага і расійскага.

За гэтай драмай ідзе цэлы шэраг іншых. Для дзяцей ён выдае зборнік казак „Дзецям Усходу".

### Акіта—драматург

Акіта адзін з найбольш вядомых драматургаў у Японіі. Яго драмы ідуць у 15 тэатрах. Больш вядомы яго творы:

Сьмерць Ганца (гісторыя аднаго каханьня).

Ноч перад юбілеем.

Лес і ахвяра бога (памяці 15 сацыялістаў, замучаных паліцыяй).

Пад зьвёздамі.

Садовы яблык (з часоў расійска-японскай вайны).

Тры душы.

Сьмерць ойна.

Бомба.

Ноч на дзяржаўнай мяжы.

Скок шкілетаў.

Два сонцы
і шмат другіх драм і п'ес.

„Два сонцы": адно—гэта сонца, да якога цягнуцца ўсе, якое дае цеплату; другое - сапраўднае сонца, якое дае вызваленьне, гэта сонца—рэвалюцыя. Шмат паасобных актаў у яго п'есах забаронена. Некалькі зусім не дазволены да пастаноўкі.

Як драматург, Акіта працаваў да 1916 г. ў тэатры Гэйдзю-Цудза, а з 1924 г. працуе ў даволі вядомым у Японіі тэатры Цукідзі—малы тэатр, дзе рэжысэрам зьяўляецца друг Акіты—Асанайя.

### Акіта—пісьменьнік і паэта

Акрамя драм, Акіта вядомы сваімі вершамі ў прозе. Яго першыя творы былі напісаны пад уплывам натуралізму.

Пасьля землятрасеньня Акіта становіцца ў шраг правадыроў левага літаратурнага напрамку ў літаратуры. У гэты час пачынаецца ўтварэньне японскай пралетарскай літаратуры.

Акіта з групаю таварышоў выдае часопіс „Сэкай-Сідзін"—„Сусьветны паэта". Гэтая часопісь выходзіла на 4-х мовах і мела мэтай адбіць літаратуру ўсіх краін... Выйшла толькі 2 нумары. У 1925 г., у час распаду літаратурнай групы „Сейбіт", Акіта становіцца на чале арганізаванай группы „Кай-хо" (Вызваленьне), якая гуртавалася навокал часопісі под гэтай назвай.

### Акіта—грамадзянін

Ужо на студэнцкай лаўцы Акіта зьвязваецца з сацыялістычным рухам. Акіта першы з японскіх пісьменьнікаў вітаў Кастрычнікавую рэвалюцыю, і гэтыя свае сымпатыі да Савецкага Саюзу выказваў не адзін раз. Пасьля заключэньня Япона-Савецкага догавару Акіта прымае ўдзел у арганізацыі Япона-Савецкага Таварыства Культурнай Сувязі. Гэтае таварыства згуртавала навокал сябе ўсіх пралетарскіх пісьменьнікаў і культурных дзеячоў Японіі.

Акіта некалькі разоў рабіў даклады аб уплыве літаратуры Савецкага Саюзу на літаратуру Японіі.

Акіта працаваў у часопісі Сэкай-Сідзін,—дзе працавалі супольна камуністы і анархісты. Потым, калі анархісты зрабілі немагчымай супольную працу ўсіх рэвалюцыйных сіл—камуністы адмовіліся ад супрацоўніцтва. Акіта таксама пакінуў супрацоўніцтва ў часопісі.

Ї цяпер ён і сам лічыць, што бліжэй усяго ён стаіць да камуністаў.

На адным з вечароў сустрэчы з Акітай яго папрасілі засьпяваць альбо прачытаць што-небудзь вясёлае: сьпеў альбо верш.

Акіта, нібы шкадуючы, адказаў: „Японскі народ ня мае наогул ні вясёлых сьпеваў, ні вясёлых вершаў. Ён цягнецца да сонца, але капіталізм давіць яго да зямлі... Пакуты, беднасьць, жабрацтва, безьзямельле, падаткі, 14-16-гадзінны рабочы дзень—вось японская сучаснасьць! Ад яе няма і радасьці ў творах японскіх пісьменьнікаў, паэтаў, мастакоў...

Я атрымаў ад Акіты маленькую кніжачку яго твораў „Скок шкілетаў", крыху раней я чытаў яго некалькі другіх драм.

У іх той-жа сум „японскай сучаснасьці"—як і ў іншых. У іх, як і наогул у японскай літаратуры, нейкія асабовыя прыёмы творчасьці, у іх усё адбіваецца нібы дзе-небудзь далёка, у нейкім іншым сьвеце.

Іх творы адарваны ад зямлі, ад сучаснага жыцьця. Ї толькі пабыўшы

ў Савецкім Саюзе, Акіта ўбачыў, навучыўся сапраўднаму адлюстроўваньню жыцьця ў сваёй творчасьці... Маленькая кніжка ў чорнай скураной вокладцы, на якой напісана „Памяць—і—думкі“, кніжка з сотнямі старонак, на якіх намалёваны густа японскія літары—зьявіцца для Акіты новай крыніцай яго творчасьці, адчыніць новы пэрыяд у яго літаратурным быцьці. Правёўшы з Акітаю некалькі дзён—здаецца, ніколі не забудзеш гэтага маленькага чалавека з вузкімі вачыма—вялікага літаратара, драматурга, чалавека-барацьбіта!

▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼

**Удзяку Акіта**

# Аб Леф‘е ў японскай літаратуры

Я застаўся вельмі рад, што ў Менску ўбачыў і пазнаёміўся з найбольш прагрэсыўнай літаратурнай плыняй—левым фронтам беларускай-літаратуры—„Беларускай Літаратурна-Мастацкай Камунай“. Я заўважыў, слухаючы вершы маладых беларускіх лефаўцаў, нешта агульнае для лефаў усіх краін: Японіі, Расіі, Беларусі і інш.

У японскай пралетарскай літаратуры мы таксама маем лефаўскую плыню. У японскім Леф‘е прымаюць удзел мае лепшыя сябры і таварышы. У 1920 годзе ў Японіі была заснавана гэтак званая „Ўсеяпонская Ліга Сацыялістаў“, у якую ўваходзіла шмат прагрэсыўных пісьменьнікаў, куды ўваходзіў я і некалькі маіх таварышоў. Некалькі маладых пісьменьнікаў і мастакоў заснавалі згуртаваньне „Ганемакушта“—„Сейбіт“. Гэтае згуртаваньне трэба лічыць першым згуртаваньнем пралетарскіх пісьменьнікаў Японіі.

Калі ў японскай літаратуры пачаўся ўплыў натуралізму, з згуртаваньня „Сейбіт“ выдзелілася група мастакоў і пісьменьнікаў, якая і заснавала сваё згуртаваньне „Дай Санка“ („Трэці аддзел“). Гэта згуртаваньне і зьявілася японскім Леф‘ам. „Трэці аддзел“ яно завецца таму, што па праграме японскіх лефаўцаў як мастацтва, так і літаратура мае 3 аддзелы. Першы—старажытная літаратура і мастацтва, другі—новая літаратура і мастацтва, якія носяць адбітак эўрапэйскага, і трэці—рэвалюцыйны па ідэалёгіі і па форме японскі Леф.

Японскі Леф згуртаваў навокал сябе мастакоў, літаратараў і музыкантаў. Разьвіцьцё японскага Леф‘а праходзіла самастойна, бяз сувязі яго з Леф‘ам другіх краін,—таму ў японскім Леф‘е магчыма заўважыць некаторыя яго асаблівасьці.

Сярод таварышоў, якія ўваходзілі ў Леф Японіі, трэба адзначыць такіх даволі значных і вялікіх мастакоў, як Камбара і ЯБЭ і вядомага драматурга Мураяму. Апошні вядомы сваімі драмамі. Некаторы час у групе японскага Леф‘а працаваў пісьменьнік Янасі, але цяпер ён выйшаў з Леф‘у.

Я заўважыў агульнае для ўсіх Леф‘аў—гэта вострая крытыка сваіх ворагаў, а таксама і таварышоў па змаганьню.

Японскі Леф заўсёды крытыкуе іншыя літаратурныя і мастацкія плыні і згуртаваньні. Гэта я бачыў і ў маскоўскім і ў вашым беларускім Леф‘е. Гарэзнасьць у творчасьці, гарэзнасьць—здаровая, як здаровы гарэзныя парывы Горкаўскага сокала.

Японскі Леф—яшчэ вельмі малады, ён яшчэ ня мае вялікага ўплыву на масы, але *японскі Леф зьяўляецца добрым штурхачом для пралетарскай літаратуры Японіі.*

*Сваёй крытыкай—Леф выпраўляе і форму і ідэалёгію пралетарскай літаратуры і мастацтва Японіі.*

І калі я слухаў вершы беларускіх лефаўцаў (сяброў Бел. Літ.-Маст. Ка-

муны), калі я слухаў іх прамовы, я заўважыў нешта агульнае ў гэтых двух далёкіх адзін ад другога Леф'аў. Роля і значэньне Леф'у Японіі і Беларусі аднолькавы, ён самая прагрэсыўная зьява ў літаратуры і мастацтве.

У нас ужо амаль усе творы расейскіх лефаўцаў перакладзены на японскую мову. З Масквы, дзе я буду мець больш вольнага часу, я напішу да сваіх японскіх лефаўцаў ліст аб тым, што я ў Менску сустрэў іх братоў, іх таварышоў па леваму фронту літаратуры і змаганьня.

Вось каротка аб японскім Леф'е. Усё, што я сказаў, можна палічыць за схэму, але і яна ў некаторых выпадках адпавядае свайму назначэньню. Калі будзе больш вольнага часу, я папрабую ў гэту схэму ўнесьці і зьмест.

### Уражаньні аб Беларусі

У Токіо я зусім ня ведаў аб Беларусі, толькі некаторыя артыкулы ды лісты беларускіх эспэрантыстаў у Япона-Савецкае Т-ва Культурнае Сувязі—расказалі мне крыху аб гэтай далёкай невядомай краіне. Ужо ў СССР я ўспомніў аб гэтай краіне. З радасьцю я прыняў запрашэньне менскіх эспэрантыстых наведаць Беларусь. Я вельмі шкадую, што за некалькі дзён я толькі крыху пазнаёміўся з жыцьцём гэтае краіны, якая раней, як справідлова адзначыў адзін з вашых таварышоў, была падобна да Карэі ў сучаснай японскай дзяржаве.

Што асабліва зацікавала мяне ў Менску—гэта шпаркі культурны росквіт краіны. Асабліва каштоўна, што 4—6 нацыянальнасьцяй маюць магчымасьць на сваёй роднай мове мець і газэту, і кніжку, і школы, і дзяржаўныя ўстановы, пісаць заявы на сваёй роднай мове.

Я быў на вёсцы і бачыў там партрэты пісьменьнікаў і намаляваныя самімі сялянамі партрэты правадыроў кам. партыі, я бачыў там у сялянскай хаце газэту „Беларуская Вёска", а на сьцяне плякат аб займе. Гэта гаворыць аб культурнасьці вёскі. Калі мне расказалі аб пакутах беларуса-селяніна да рэвалюцыі—я быў вельмі зьдзіўлен. Рэвалюцыйная культура ідзе вялікімі крокамі ў вёску да сялянства. Я ўспамінаю нашы японскія брудныя вёскі... але і вашы даўней былі такія—і пакідаеш вёску з адным жаданьнем—змагацца за рэвалюцыю ў нашай краіне. Я гутарыў з сялянамі, але шкада, што ня мог разумець іх, бо тады-б засталося больш уражаньняў. Тое таварыскае, братэрскае пачуцьцё, з якім яны аднесліся да мяне—засталося ў мяне назаўсёды, як сымбаль салідарнасьці рабочых і сялян усіх краін.

На Беларусі я меў магчымасьць, больш як дзе ў СССР, бліжэй азнаёміцца з культурным жыцьцём краіны. Я быў у тэатрах, наведаў літаратурныя згуртаваньні, і мяне зьдзівіла гэта дружная работа ўсіх культурных сіл над пабудовай сацыялізму ў такой змучанай, здратаванай і беднай раней Беларусі. Мяне радаваў той прыём, які аказалі мне культурныя дзеячы Беларусі. Мне цяжка, вельмі цяжка дасканала разабрацца ў вашых літаратурных спрэчках, але я ня губляю надзеі, вывучыўшы беларускую мову, пазнаёміцца падрабязгова і з Беларусьсю. Адно, што я ўбачыў і што я павязу да сваёй краіны—гэта адзінасьць вашых інтарэсаў. Вы ўсе супольна будуеце новае жыцьцё. Ведайце, што мы ўсе—вашы лепшыя прыяцелі—будзем дапамагаць гэтай справе.

Я пакідаю БССР з самымі лепшымі ўражаньнямі аб ёй.



**Паўлюк Шукайла**

# Літаратурнае сёньня

*(Працяг)*

В юности позорно умирать.
Эта смерть не смерть, а преступление,
Если каждый должен вербовать
Ратников в великое сраженье.

*Эрых Мюзам.*

Вялікія словы сказаны яшчэ больш вялікім пісьменьнікам—барацьбітом Эрыхам Мюзам.

— „У юнацтве ганьбоўна паміраць“.

Ĭ праўда, жыцьцё, гэта толькі грамыхаючы трамвай, які ліжа вуснамі сталёвых губ сталёвыя рэйкі, п'е сокі электрыкі,ператварае ў кроў і ў яе хваляваньнях імчыцца наперад...

Пакуль трамвай не растросься, ён павінен рабіць свой штодзённы рэйс. Ён павінен рухацца — у гэтым яго сіла, прыгожасьць і мэта.

Чалавек—творчая частка жыцьця. Чалавек — жыцьцё, яго арганізатар, будаўнік. У чалавека ёсьць сваё жыцьцё, як зьвяно агульнага. Але гэта зьвяно толькі тады выконвае сваю ролю, калі яно жыве жыцьцём машыны, адчувае стук яе імпульсаў, хвалюецца яе сокамі. Зьвяно, вырванае ў паасобку, ляціць пад адкос, ржавее і зарастае бур'янам.

Гісторыя на сваім бліскуча-срэбным падносе прападнясе чалавецтву не адзін дакумэнт аб вялікіх людзях,што забыліся праз гэты закон і адарваным ад воза калясом пакаціліся з гары пад адкос...

Імёны некаторых паэтаў таксама будуць апісаны ў гэтых дакумэнтах. Але некаторых, але ня ўсіх тых, хто знаходзіць у гэтым гэраічнасьць, рамантычную асалоду, рыцарства, бо прэтэндэнтаў да матушкі гісторыі перад яе рэгістрацыйным лістом усё больш і больш. Вырастаюць вялікія „хвасты“-чаргі.

У ёй можна запрыкмеціць паэтаў „сіне-сінеючых сіняў“, „блакіта-блакітных блакітаў“, „пунсовых пунсаў“ і іншых. Цэлыя дзесяткі розных дамарошчаных паэтаў—„Ахрэмаў“ з якога-небудзь пэдтэхнікуму—на чацьвяронках паўзуць да матушкі гісторыі і ляпечуць:

*запісэце... запісяй...*

Ĭ кожны пасвойму ў сваяцкай манеры цягне:

„В этой жизни умереть не ново,
Да и жить, конечно, не новей...“

Ĭ гэта падучая хвароба (кваліфікаваць якую прызвычаіліся нашы літаратурныя мэдыкі — як упадніцтва) захапляе сваёй эпідэміяй усё болей і болей усякіх „Ахрэмаў“, паэцішак рознага калібру, але пшыкаўцаў па гуку літаратурных выстралаў.

Апроч вялікай колькасьці гэтых пшыкуноў і літаратурных чацьвераножнікаў, знаходзяцца і такія, што ўжо аднойчы пазналі жыцьцё, прабавалі шчыра будаваць яго. Адным з іх будзе буйны паэта Беларусі—*Язэп Пушча.*

Паэта, які ва ўмовах Беларусі першым сваім зборнікам „Раніца рыкае“ ўдарыў па літаратурных машчох,

гвізданув па заскарузных трантах фармальнай стар'ёўшчыны.

Паэта, які прымусіў шэйнакатрыншчыкаў, круцялёў старых літаратурных путаў, са скрыгаценьнем зубоў— прызнаць новую гармонію, музыку і форму.

Паэта, які разам з намі прымаў удзел у пераваротах (не дварцовых, як цяпер у „Маладняку“), а на літаратурных барыкадах.

І такога паэту мы прымушаны аднесьці да гэтай групы людзей у яго літаратурным сёньня.

— Былі часы, Язэп Пушча ў буяным хмелю дзён біў жыцьця акорд:

... І я,—
Я не адзін такі—
Нас шмат.
Хто хоча, поглядам акінь...
Які бунтоўны
Штаб!
Якія ў песьнях тоны!
Чаго-ж яшчэ нам болей?
А вось:
Даволі гымны нюняць,
Каб радасьць ня ўпілася болем
Па сялянскіх пунях...
(„Маладняк“ № 8, 1925 г. 22 ст.).

Заклік да жыцьця за новыя тоны, за радасьць, супроць гімнаў і одопісаньняў, супроціў літаратурных сухот і бяздарнай пустазвоньніцы.

За новае жыцьцё:

... Хлопцы!
Сягоньня з намі сонца,—
Мы з ім ў дарозе ня прыстанем.
Ці-ж можа палкасьць ў нас астыць?
Ніколі, не!
Пад хмелем моцна-моцным
Мы прыдзем на паўстанак
Новага сталецьця...
Няхай мінуўшчына нас не кляне,
Наш сьпеў ад сэрца льлецца.
(„Маладняк“ № 8, 1925 г. 23 ст.).

Нашу рэчаістасьць паэта ўспрымаў, як узрастаючыя храсткі росквіту:

... Сыгналы,
гудкі
і электра-бляск
наўзавады мчацца ў цэмэнта-бэтон.
Сталёва-аўтобусны лязг
нашых дзён камэртон.
(„Раніца рыкае“ 50 ст.).

Або ў вёсцы:

... Век трактара
ў полі
ужо тарарахкае
. . . . . . . . .
А радыо ніжа
ўсё ніжай
і ніжай
Камуны праменьні
ў вогнева-крэмні
і гэта ў лапцюжнай краіне.
(„Р. р.“ 51 ст.).

І гэта ў 1924 годзе, калі мы толькі рабілі спробу стаць моцнымі нагамі на эканамічным грунце, калі мы сваім чырвонцам вызвалі людзей ад неабходнасьці запасацца мяшкамі, каб насіць пуды тагачасных грошай і тады Пушча ўжо асьмеліўся гукніць:

... Эх, вецер, у намагнічаных крыльлях,
я ў песьні бронь сонца адзеў!..
(„Р. р.“ 51 ст.).

Ці далей:

О, не! Па вёсках вунь лахудрых
аўсы камуне б'юць паклоны.
Дык, песьня, раскудлач-жа кудры
ў вясковым аблавухім клёне!
Няхай паслухае лапцюжнік
напеў прасьцяцка-сакаліны.
Няма ў ім болей слоў: ланцужнік,
жыцьцё—расьцьвіўшы куст каліны...

Тут мы можам падкрэсьліць наяўнасьць у паэты вялікага аптымізму, веры ў тое, што:

„Аўсы камуне б'юць паклоны“.

Што віхор барацьбы за новае зьмятае ўпругай мятлою тхлінь старызны.

Пушча ў гэтыя гады свайго першага падарожжа на літаратурным шляху з поўнай шчырасьцю адбівае той рэнесанс эпохі кастрычнікавага нараджэньня, які адбыўся ў вёсцы.

Тэматыка і матывы творчасьці ў Пушчы ў большасьці бяруцца адтуль, дзе:

Ой у полі бялявая зорка
ды ключамі бліскучымі звоніць,
а жнейка маладая за ўзгоркам
дажынае разлогія гоні...
(„Р. р.“ 10 ст.).

Чаму? Таму, што ўся псыхіка, увесь комплекс характару Язэпа Пушчы, як асобы, выкрышталізаваўся ў сялянскай сям'і—селяніна трохдзесяціньніка, на палёх якога:

... Ой, пясок па дарозе прыбіты
беларускаю буйнай сьлязою.
(„Р. р.“ 20 ст.).

Зусім ня дзіўна, калі Пушча ўсім творчым арганізмам кідаецца ў абняцьця хваль Кастрычніка, бо яны

плыньню веснавога разьліву зьнесьлі з твару беларускай зямлі панскія маёнткі, бізуны і няволю.

Вадасьцёк на рунелых палёх змыў сабою і часы, калі сьлязьмі і потам людзкім удабраліся палі, каб жыта для пана буйнейшым узрасло.

А:

Праліла яго многа у полі
Беларусі жняя-маладзіца,
а сягоньня уцехай сваволіць
і мінулым ня хоча дзівіцца.
(„Р. р." 11 ст.).

*Мінулае* для новай Беларусі-жняі—гэта акорды векавечнай мукі, жалю і стогну, крыві і сьлёз, узрыду і ляманту.

*Сёньнешняе*—раздваілася; для адных—перамога, будаўніцтва, вера ў будучыню.

Для другіх—роспач, зьдзек і зьнявага.

Усход палае адным заравам,—
Захад другім.

На ўсходзе—змаганьне за росквіт жыцьця.

На захадзе—змаганьне з сьмерцю...

І гэта ў творчым сьветаразуменьні паэты праходзіць яскравымі малюнкамі:

... Дык паклон-жа жыцьцю
маладому
за кужэльным сталом беларуса!
Гэй, на нівах, жытцо,
налівайся ліпнёвым удоем!
Селянін ураджаю ня струсіць.
(„Р. р." 18 ст.).

Гэта пад заравам усходу, дзе:

... ужо сонца праменіць чырвоным налівам,
і згасіць ніхто не дазволіць.
(„Р. р." 17 ст.).

А там, у зараве Заходу, у распаленым вогнішчы, гарыць чатырохмільёнаы народ.

Там, у чатырохмільённай постаці, жудасьцю шырацца шэра-валавяныя вочы і магнэсавай сілай сьвядомасьці прыкоўваюцца к Усходу—

у вачох роспач і жах,
а вусны сьціснуты дымам казэматаў
і абцэнгамі ўваскрошаных гільятын...

І паэта, прасякнуты клясавым пачуцьцём, кажа:

... Ну дый хіба ня цяжка нам тут?
Што, вось, там, у напудранай Польшчы
беларуса ў хамут
ушчамілі
і пастронкі сьціскаюць прабошчы.
Гэй, базыр, Беларусь, ой-да ў пушчы мілай!
(„Р. р." 18 ст.).

І, бачучы такі зьдзек, ён ня падае ў нявер'е, будучы ўпэўненым, што ўзьяднанасьці і арганізаванасьці змаганьня — працоўныя перамогуць, — Язэп Пушча прарочыць:

... Ой, хутка ўжо пойдзе ў паходню
са сьцягам чырвонага зрэб'я
змардаваны наш край.
Суцішыцца сівер нягодны...
Гэй, рэвалюцыя, марш левы іграй!
(„Р. р." 19 ст.).

Нацыянальная па форме, сялянская па абхапленьню і пралетарская па мэтаімкненьню—вось якою была творчасьць Пушчы гэтага кругабегу часу.

Навізна фармальна-мастацкага падыходу да рэчы, якую вытвараў мастацка - творчы арганізм паэты, узбурыла тагачасных першамесьнікаў у шэрагах беларускае літаратуры і іх чытачоўскага кадру. Ярлык бяздарнасьці навешвалі Язэпу Пушчу дараўітасьці, якія самі сабе пісалі аб гэтым патэнт *).

Лысыя і тупыя, як пень, „тоже ученые" культурнікі, крычалі з даведраных ім савецкай уладай катэдр:—

*„Гвалт, ратуйце!*
*Ня сьпеў, а рыканьне!"*...

І гэтым „тоже ученым" асобам было не па духу рыканьне „Раніцы". Ім прызвычайнае:

„Ах, зачем эта ноч
Так была хороша".
„Савецкія бедныя Лізы" і г. д.

Яны шамкалі яшчэ словы (як шамкаюць і цяпер некаторыя):

„непонятно", „незразумела".

Аб паэзіі гэта прынята гаварыць, гаварыць, шамкаць і не чырванець, не

*) Да гэтых патэнтаваных даравітасьцяў далучыліся і тыя, якія ў свой час выкрывалі іх у гэтым. У сучасны момант частка паэтаў і пісьменьнікаў маладнякоўцаў, зышла з ранейшага шляху.

баяцца за сваю някультурнасьць. Такі ўжо шаблён.

„Новаторство—бездарно—непонятно“.

А альгэбру, матэматыку, геомэтрыю, з іх разнастайнымі формамі, яны разумеюць, вывучаюць таму, што ганьбоўна і сорамна казаць аб няведаньні і неразуменьні такіх агульна-прызнаных дысцыплін. Тое самае мы скажам і ў адносінах паэзіі:—культуры малавата, традыцый многа ў „тоже ученых“ і іх прыхільнікаў.

Пушчу зразумела маладое пакаленьне. Успрыняло блізка. У выніку цэлы шэраг пачынаючых паэтаў (Трус, Дарожны, Глебка, 3/4 „Маладняка“ і іншыя) пішуць, запазычаюць у яго, выхоўваюцца на яго невялічкай тагачаснай спадчыне [1]).

Пушча ня меў сталасьці ў сваім фармальна-мастацкім наватворчастве. Ён цалкам арганічна ня ўліваўся ў русло тагачасных літаратурных плыняў нашых суседзяў. Разам з сваяцкім Пушчы імажынізмам у яго зычным тонам гаварыў аб сваёй наяўнасьці футурызм [2]).

У творчасьці заўважаецца ўдалая кампазыцыя, музыкальнасьць (асабліва ў творах з народным калёрытам). У нотках яго вершавой гармоніі адчуваецца праўдзівае рыканьне вясковай раніцы, гучныя, хоць і прымітыўныя, акорды працы. Яны перапоўнены блізкай Пушчы псыхіцы вобразнасьцю. Праўда, такая не заўсёды зьяўлялася паслугачом для эмацыянальнай зарадкі чытача і была, у некаторых выпадках, без канкрэтнай мэтавай устаноўкі. Але яна прыкоўвала, на першых парах, сваёю навізною, сакавітасьцю, сваім буяным размахам.

У першым пэрыяду сваёй творчасьці Язэп Пушча яскрава адбіў тагачасныя настроі сялянскай моладзі і перадавых прагрэсыўных людзей нашае вёскі. Ён энтузіацыйна ўспрымае кастрычнікавую рэвалюцыю на Беларусі.

Будучы ўпэўненым, што кастрычнік народзіць новы сьвет, лепшае жыцьцё і, бушаваньнем свае хмялёвае мяцежнасьці, зьнішчыць абрыдлае і агіднае—ён яго любіць і аддаецца яму.

Ён успрыняў рэвалюцыю ў яе сымбалічнасьці, а ня ў буднях.

Ён зразумеў яе мэтаімкненьне, як рэчаістую канкрэтнасьць сёнешняга дню. Такому ўспрыняцьцю нашае рэвалюцыі спрыяў той пэрыяд, у якім зарадзіўся творчы працэс Язэпа Пушчы.

Ён узьнік у дні, калі старое жыцьцё толькі трашчала, руйнавалася будаўніком новага—пралетарскай дыктатурай.

А новае жыцьцё толькі яшчэ пускала храсткі, толькі давала знаць аб сваёй наяўнасьці. Нарасталі супярэчнасьці, перашкоды. Зьявіўся НЭП. Нэпмачы. Галодныя і сытыя... У шоўкавай вопратцы і лахмоцьці...

Новы сьвет—мэтаімкненьне, будучыня.

Сёнешнія дні—сродак, будні. Ня росквіт, а барацьба за яго—

замест братэрства, якога чакаў паэта, у вёсцы праводзілася палітыка сацыяльнага разьмежаваньня. Нарастаў бандытызм. З абрэзу селянін частаваў куляй свайго-ж селяніна—грамадчыка. І зноў на полі жыцьця вырашалася: хто каго? за каго? і з кім?

І гэта ля паэты, які шчыра, але рамантычна ўспрыяў Кастрычнік, які прагнуў убачыць ня заўтра, а сёньня яго перамогу—новы сьвет, сьветлы і ўрачысты—запутаўся ў супярэчнасьцях будзёншчыны, будоўлі. Заблудзіў па яе завітых сьцежках. Буяна-хмельная радасьць урачыстасьці замянілася чорнымі, як ноч, думамі. У поўны веры арганізм упіліся,

[1]) Цэлы шэраг паэтаў пушчынскага напрамку зразумелі вобразнасьць Пушчы, як штосьці асобнае ад мэтаімкнёнасьці зьместу і ўжываюць вобраз для вобразу, пустазвонна і бяздарна. Яны перапяваюць ужо даўно перапетае і ня ўносяць новых матываў, так неабходных для нашых дзён.

[2]) Прыклад: „Р. р.“, ст. 17, 18, 19, 50. „Дні вясны“. ст. 27, 34, 35, 53, 54. „Маладняк“ № 9—1925 г. 43 ст. „Маладняк“ № 8—1925 г. 22, 23, 24 ст. і інш.

усмакталіся вужы нявер'я. Пачынаецца лямант і скавытаньне:

... Струны рвуцца, рвуцца ўсё часьцей;
ой—да боль-балючасьць ў сэрца упілася;
прысланіўся месяц да жарсьцьвяных сьцен;
абступілі радасьць чорныя балясы.
Скавытаць зубамі ўвосень воўк ахвоч...
Не лячыць-жа раны, не лячыць альясам,
Калі ў песьні сьцюжа, калі ў слове ноч.
(„Дні вясны" 8 ст.).

Цені засланяюць сьвет. Здані—жывых людзей. На арэну выходзяць сьвятыя воіны „прэпадобны Антоні", Клеопатра, маці божая Марыя, „блажэнны Ісус Хрыстос":

... Плач струнны за сэрца хватае,
ліецца са струн Апалона,
то лірнік паэту вітае,
заўсёды к яму ён з паклонам.
(„Дні вясны").

І замест таго, каб пасалаць Апалона к божай мацеры, ён выкарыстоўвае яго дзеля сымбалізацыі самога сябе. І тут зьяўляецца пытаньне: няўжо нікога няма ў жыцьці, хто мог даць больш натхненьня ў творчасьці паэты, апроч гэтых машчавых фігур сівой мінуўшчыны.

Няўжо розных Еў і Марый, затасканых госпадам богам і ўсімі сьвятымі, ня можа замяніць тая-ж самая „смуглявая Стася", што калісьці, вось так сакавіта, багаціла творчасьць Пушчы:

... У той вечар самоты ня песьціў,
хваляваўся усплёскам надзей.
Ціха зоры сьцяяліся ў вецьці,—
я на іх задумёна глядзеў.
Разгадаць мне хацелася ўсьмешку
аднэй зораньки яснай, як дзень.
Ружавела каліна на ўзьмежку,
я прыціс уў яе да грудзей.
А што далей - у ветра спытайся,
пакахаў, як ніхто, пакахаў.
Ой, ты, Стася, смуглявая Стася.
Узгадаваў цябе Случчыны гай!
(„Дні вясны").

Тут справа не ў прэсьвятых дзевах і смуглявых Стасях. У гэтых двух вобразах мы разумеем увасабленьне кантрасту псыхалёгічных імкненьняў паэты ў дні, калі ён празрыста наглядаў за жыцьцём і ў дні, калі містыка засланіла рэчаістасьць.

Такі нахіл у паэзіі Пушчы дайшоў да таго, што ён на ўсё жыцьцё пачаў глядзець праз акуляры адмаўленства. Ён узіраецца на жыцьцё з узвышша, як узвышанскі кантралёр а сяродзіць сваё мастацкае вока на *тое*, што падыходзіць як матар'ял дзеля выяўленьня яго паэтычнага „я", ня ўвязанага з агульным сацыяльна-эканамічным працэсам будаўніцтва. Жыцьцё ў Пушчы адбіваецца ў стадыі лістапада—замярзаньня. У цэлым цыклю вершаў, пад назвай „Асеньнія песьні" прарочыцца:

... Трасецца асеньні заплаканы вечар;
ц вятлівыя далі азгледі, сьсінелі.
Стаяць замарозкі ў душы чалавечай,—
ніяк не сагрэцца пад шэрай шынэляй.
(„Узвышша" № 5 - 1927 г. ст. 91).

Калі ўзяць пад увагу, што кожны вобраз у гэтым вершы строга сымбалізаваны, дык стане зусім ясна, аб чым шапоча паэта ў сваім „асеньнім трасеньні": будучына — цьвятлівыя асінелыя далі, душа чалавечая ў замарозках.

І далей гэты чалавек без „замарозкаў" на душы піша:

... Азяблае цела ў трагічным уздыме;
зямлі нагату акрывае лістота.
Хто з крыжа краіну расьпятую здыме?
Узываю, малюся у грэшнай істоце.

Гэта што за расьпятая краіна? Рэспубліка саветаў—Беларусь??

Ці не сьлепата тут у гэтым „трагічным уздыме"? Ці ня сон мінуўшчыны акутаў нашу сучаснасьць у паэты? Ці не акуталі яго часы, калі краіна стагодзьдзямі ўкрыжаваная прымала пацалункі бізуноў царскіх маскалёў і польскіх паноў? Ці ня спроба вярнуць каляса, што скацілася з узгорку гісторыі?

І ня хочацца верыць, што апошняе...

Наша Беларусь зьнята з крыжа яе-ж працоўным людам—рабочымі і сялянамі. Усходняя частка—савецкая Беларусь—лечыць раны, будуе лепшае жыцьцё і ўсякім спробам укрыжаваць яе мы дамо мейсца ў пралетарскай сячкарні, пасячэм, парэжам на сечку, якую кінем для задаваленьня апэтыту контр-рэвалюцыйнага быдла.

Зусім магчыма, што аўтар можа даць тлумачэньне аб разуменьні ім Беларусі ў яе суцэльнасьці, аб тым, што ён сьпявае і аб тэй Беларусі, што лемантуе, укрыжаваная ясна-

вяльможнымі панамі. Дык што-ж, ласьне тут трэба кідаць будаўніцтва вольнае часткі савецкай і самым кідацца ў лямант, у роспач. Дзе-ж тая вера, што...

... ой, хутка ўжо пойдзе ў паходню
са сьцягам чырвонага зрэб'я
змардаваны наш край...

Дзе-ж тая паступовасьць? У даным выпадку лішне будзе больш дадаваць да гэтых слоў, што сказаў у ранейшай творчасьці Язэп Пушча.

Не лямантаваць, а будаваць савецкую краіну, рыхтавацца да рашучай паходні. Вось чаго жадае, на што спадзяецца заходні брат, які ня толькі душой лямантуе, але ўсім арганізмам змагаецца за волю, за перамогу.

На жаль, не да таго Язэпу Пушчы. Яго пачуцьці, як тварца, ня маюць сугучнасьці з нашымі днямі. Апошняе сьцьвярджаецца ў вельмі яскравых фактах, так званай „перапіскі з сабакаю":

... а пакуль б'е жывой вады крыніца
і хваля творчая гарачым пульсам.
На што-ж падхалімам быць, крывіцца
і ў хмары ўрэзвацца чырвоным буслам?
Лепш вольным птахам рэзаць шыр нябёсаў
і супроць ветру, размахнуць крыламі;
хто хоча—кпіце над пясьнярскім лёсам
і бэсьцьце, лайце у гандлярскай краме.

Правільна, нашто быць падхалімам, навошта крывіцца. Прэч лізаньне задоў! пара падумаць аб пралетарскай санітарыі і гігіэне. Згодны! Камуністычная партыя б'е аб гэтым у набат пралетарскае сьвядомасьці. Праўда, у нас яшчэ ёсьць такія „тыпусы" (якім-бы месца пад сядлом у Ісуса Хрыста, пры яго вербнай паездцы ў Ерусалім, а не ў савецкіх органах), якія патрабуюць іншы раз, каб усё было афарбована ў чырвонае (і бусел, і паравоз). Яны гэтым самым хочуць даказаць сваю рэвалюцыйнасьць і прэданасьць пралетарыяту і затушаваць сваю палітычную прастытуцыознасьць. Зоркае вока клясы, якая зьяўляецца дыктатарам,—сочыць за імі, робіць вучот і, як кажа вялікі паэта Уладзімер Маякоўскі:

... Это плевое дело—
если-б революция захотела
со счетов Особых отделов
эту мелочь списала бы в расход.

Пройдуць гады, дзесяткі. Мы зьмяцем і гэту спадчыну агіднага мінулага нашага быту. Пытаемся: дзеля чаго паэту ляцець у пустату паднябесься і там супроць ветру размахнуць крыламі—ты вось тут, на зямлі, размахні сваю сілу ў агульным размаху рабочае клясы, у барацьбе за росквіт.

Чаго там кідаць дакорныя словы аб „гандлярскай краме". Мы не баімося іх і кажам: так, ты машына ў працэсе агульнай вытворчасьці, а мы—„гандлярская крама", якая купляе той тавар твайго вырабу, які карысны нашаму спажыўцу—рабочай клясе, як сродак дзеля арганізацыі жыцьця, дзеля яго будаваньня.

Мастацтва ва ўмовах існаваньня клясаў было і будзе толькі машынай, якая была і будзе выраблядь тавар для тэй ці іншай клясы, для тэй ці іншай „гандлярскай крамы". Будучы паслугачом, работнікам у вытворчасьці на карысьць дыктатуры пралетарыяту і яе сацыялістычнага будаўніцтва, гэтым самым паэта ўкладвае сваю часьціну ў фундамэнт сьветлае агульна - чалавечае будучыны. Лятаць-жа ў сваёй творчасьці ў паднябесьсі—гэта пераказваць, пераносіць у беларускую літаратуру даволі паношаныя і ізьбітыя тэорыі аб незалежнасьці мастацтва ад клясы, яго „агульна-чалавечнасьці", ці, іначай кажучы, мастацтва для мастацтва.

Такі напрамак прыводзіў да містыкі, да заняпаду і нявер'я. Яго няклясавасьць ператваралася дзеля паслугоўваньня іншай, зусім варожай рабочаму ці сялянскаму паэту клясе. Тут выплывае тое самае адмаўленства, аб якім мы гаварылі. Тут узьнікаюць надзеі на сабак, машчавых божых мацярок, усякіх там Вэнэр і іншай міфічнай рухлядзі з іх паэтычнай нэо-радні. Літаратурныя сьцежкі Язэпа Пушчы давялі да гэтага скату. Ён коціцца ўніз, але тымчасам усьведамляе сваё становішча, кажучы:

... Пэўна вечна з песьняй бяспрытульнай
выпадкам праслыць, знаць, суджана ад роду.

Выйду на дарогу, насустрэч Матулі:
можа прыйме сына, не знайшоў, што роду.

Але патрэбны вялікія высілкі, каб вызваліцца з тых пут, у якія спутала нявер'е. Гэтых высілак ён ня робіць і лунатыкам ідзе за матушкай містыкай. Сымбалізуючы сабою Хрыста, верыць, што:

... Будзе дзень, сьвяточны дзень другога
прыйсьця:
прыдзе Маці з Сынам, на услоне сядуць
(рыхтык як у Уладз. Жылкі *П. Ш.*).
Расшумяцца клёны, расшумяцца лісьця —
будзе сьвяткаваньне песеннае ў садзе.
(„Узвышша" № 5—1927 г., ст. 91).

... Буяны бунтар стаў толькі містычным сымбалістым, які ня можа знайсьці сілы вярнуць сябе на ранейшы шлях, аддаць сябе для жыцьцёбудаўніцтва, для ўдзелу ў змаганьні, для зьдзейсьненьня тых мар, для якіх жыў паэта. Адарваўшыся ад таго сацыяльнага асяродку, з якога вышаў, і ня прыстаўшы да новага, ён стаў на раздарожжы, углядаецца на дзікі горад, у які прышоў з бярозавым кіем, у якім ахрысьціўся ў інтэлігэнта, пазбыўся шэрае сьвіткі і ўвабраўся ў ангельскую вопратку. Яго ранейшая ідэолёгія, салодкія мары аб перабудове сьвету—законам рэвалюцыйнага перавароту падрэзалася. Новыя шляхі ў тумане, у імглістай сьлізгоце. У містычным асьляпленьні Пушча ўзьнімае рукі да неба і там бачыць гісторыяй завязаны жалобны бант. Гэты бант зданьню трапляе ўсюды:

... Ці я ў тэатры, ў рэстаране п'яным,
дзе радасьць расьпіваюць пад джаз-банд;
усюды ўзрок вачэй блакітных вяне,
і ўсюды бачу я жалобны бант.
(„Узвышша" № 5—1927 г. ст. 94).

Замест таго, каб бант жалобы, як помнік ліхой мінуўшчыны, прыцягваўбы Пушчу да карыснай працы ў кірунку зьнішчэньня спадчыны-мінуўшчыны, ён у сьветаразуменьні Пушчы становіцца дакумэнтальным фактарам для адмаўленства сучаснасьці. Адносіцца-ж пасыўна да дзейнасьці па выкараненьню спадчыны, дэмагагічна сьцьвярджаць аб нашым бясьсільлі— усё адно, што даць магчымасьці яе карэньням з новаю сілаю пусьціць свае householdхрасткі і заглушыць рунеючую ніву сацыялістычнага будаўніцтва. А ці можа быць такое жаданьне ў Пушчы? Ня верыцца!

Паэта, які ўпіваўся вуснамі ў жыцьцё, жыў смактаньнем яго сокаў. Верыў у зарніцу яго раньня. Паэта, які гвізданўў сваім літаратурным прыёмам па лахудрай ведзьме — літаратурнай старызьне, якая чаравала сваім прымітыўным лякарствам маладых і старых экскурсантаў на літаратурным попрышчу.

Паэта, які ашалажыў ударам пяруна—довадам, што раніца ня сьлюнявіць і ня пішчыць у зацішку, не шапаціць рачным чаротам, а раніца рыкае.

Ня верыцца, што такі паэта перастане быць зьвяном творчай машыны, што скоўвае так, каб яна як можна шпарчэй круціла калясо гісторыі для зьдзейсьненьня надзей працоўнай грамады.

Цёмная ноч паміж двумя днямі— вось характэрны малюнак пушчынскага сёньня.

Адзін дзень мінулы, калі паэта быў на сваім месцы, які адбівае фармальна-мастацкім прыёмам, уласным зьместу, жыцьцё тэй сацыяльнай групы, з якой ён вышаў і якая імкнецца к прагрэсу.

Прамежнасьць паміж адным і другім днём—ноч,—у якой Пушча блытаецца, пераражываючы пералом, дэклясуецца ў інтэлігэнцка-мяшчанскай афарбоўцы. Даны пералом можа прывесьці да зусім варожага яму лягеру. У сваім хістаньні Пушча можа пераважыцца ў бок, варожы Кастрычнікавай рэвалюцыі.

У начным трасеньні, у роспачы, Пушча шукае апоры, шукае сьцежкі, па якой ён мог-бы выйсьці на шлях другога дню:

... Смутак сьлязой адцьвітае на скронях—
дайце мне, дайце мне новых настрояў.
Песьню злажу на вясёла-хмялёвы я лад,
сьветлае раньне ў палёх сустракае мой брат.
(„Дні вясны", 29 ст.).

Яго мучыць тое, што ў гэту пору яму ніхто не падаў прывету, не зразумеў яго:

... Мне часта і зябка, і холадна бывае,
і ўсё-ж ніхто ні ра-у не сагрэў.
Не цалаваў-жа здраднымі губамі
ніколі я лістоў, апаўшых з дрэў.

Кадр дзеі новага беларускага баявіка з жыцьця цэнтральнай прэсы, вытворчасьць невядомых, галоўныя асобы ніжэй адзначаны. Аб рэжысуры ў наступным нумару.




Мал. Ул. Бохан

Мы зразумелі яго, мы вітаем, што ён у сваім „трасеньні“ ня хоча цалаваць „апаўшыя лісты“.

У той-жа час папярэджваем, што ён можа апынуцца ў стане „апаўшага ліста“ з дзерава квітнёвага роскіту. Мы раім паэту перастаць папустому марыць і спадзявацца на містычныя зданьні і цені, адкінуць адмаўленства ад нашага сёньня і разам з недарэчным і адмоўным зьвярнуць увагу на тое, што, як шуруп за шурупам, укручваецца ў сталёвыя ўзвышкі будоўлі гэтага сёньня.

Аддаць свой значны талент дзеля выкарыстаньня яго клясаю, якая праз сваю дыктатуру пракладае, будуе масты па шляху ў сьветлую будучыню.

Жыць, а ня ныць, і ў гэтым вялікім творчым працэсе знайсьці вялізарнейшую прыгожасьць існаваньня.

І тады можна будзе хутчэй пазбыцца „жалобнага банту“, „укрыжаваньня“, яго адрыжак у нашым сёньня.

Цёмная ноч расшчыміць свае цэпкія лапы перад прыходам другога дню, калі Язэп Пушча заграхоча, зарыкае прамяністаю раніцаю.

А калі паэта будзе і надалей абводзіць сябе хмарамі вось гэтакіх думак, што:

... Няхай сабе я сёньня й страшна хворы,
Ня трэба ўсё-ж рэцэптаў для душы,
сталецьцямі гараць і сьвецяць зоры
і іх вятры ня ў сіле затушыць.

Дык ён, як адарваны мэтэарыт, паляціць у пустату, затушаны вятрамі віхорыстай буры рэвалюцыі, а зоры будуць гарэць і сталецьцямі сьвяціць на шляху да вялікага зарава, да росквіту.

Язэп Пушча не адзін у сваім літаратурным бездарожжы—з ім канкрэтная група ў беларускай літаратуры. Шукаюцца і вынаходзяцца тэорэтыкі, якія бачаць у гэтым блуканьні харatство. Перачытаўшы кошыкавыя тэорыі розных сьвятош мастацтва і богашукацеляў, яны крычаць аб акордах душы, абвяшчаюць яе незалежнасьць ад акалічнасьцяў.

Глыбокая індывідуалістычнасьць, літаратурнае „харatство“ для здавальненьня сваёй асобы і канкрэтнага індывідууму, вось аснова, на якой тчэцца вытворчы матар'ял маладых паэтаў пушчынскага кірунку.

Возьмем для паказу вартасьці матар'ялаў гэтай групы экспанаты работы такіх паэтаў, як Валеры Маракоў, Тодар Кляшторны, Сяргей Дарожны.

Валеры Маракоў стаў членам літаратурнай сям'і ў дні, калі „мастацтва для мастацтва“ з яго „лідэрамі“ гвалтам лезла ў беларускую літаратуру. У дні, калі група людзей, што згубілі сьцежку ў нашае сёньня, адарваліся ад яго і пачалі шукаць „збаўленьня“ ў чыстай „непарочнай“ пекнаце нябёс (яго сіняў, просіняў і засіняў).

Гэтыя дні вядомы пад назвай, дадзенай мною на адным з літаратурных дыспутаў—часы, калі:

*„пурпуры і каралі ўсе творы замаралі“.*

Валеры Маракоў выявіў сябе з першых часоў як паэта, які цалкам успрыняў гэтае задрыпанае літаратурнае рызьзё за аснову ўсёй вытворчасьці. Ён ня браў жыцьцё, як крыніцу, адкуль бярэцца сырызна для вырабу літаратурнага матар'ялу, а ўзяў Надсона, Есеніна, зборнікі старых рамансаў і на іх нотах, матывах пабудаваў сваю песьню.

Тэматыка яго вершаў, зьмест іх поўны рамансызму самага лёгкага паходжаньня. Нават назвы вершаў б'юць цябе акордамі трухлявага гаршка—Собінаўскага рамансу: („Ізноў прыйшла“, „О, мой любы дружа“, „Зялёны месяц“, „Чаго сэрца так сёньня“, „Ізноў холад і вецер“, „Помніш ты“, „З белых начэй“ і г. п.).

Яго словы яскрава гавораць аб сваёй радні к гэтаму славутаму рамансу:

...І так пішу... Ізноў пішу з натхненьнем,
твой васілёк перада мной ляжыць.
А за вакном снуюцца цені,
упаў срабрысты месяц на калені... і г. д.
(В. Маракоў „Пялёсткі“, 19 ст.).

А вось вам стары раманс. Хто яго толькі ня чуў:

...и я пишу... вновь пишу в забвеньи,
твой букет передо мной лежит,
а чрез окно запах сирени
меня пьянит, меня к тебе манит.
(„Под звон гитары", стр. 17, „Романсы и песни", изд. 1901 г.).

Альбо яшчэ далей. У Маракова верш:

...Помніш ты, быў ціхі-ціхі вечар,
месяц жыў і плакала лаза...
(„На залатым пакосе", ст. 39).

А ў рамансе Вярстоўскага:

...Помнишь ты, был тихий вечер,
месяц плыл под трели соловья...
(В том же сборнике романсов, стр. 6).

Ї так большасьць вершаў пабудована з нацяганых слоў з рамансаў і рамансыстых, як Надсон і інш.

Значная колькасьць вобразаў, думак, якімі карыстаецца Маракоў—чужыя, не яго. Ад іх нясе фактам паказальным для паэты пустаты і пераазвоньніцы, які зусім мала мае свайго, а пераазваньвае даўно пераазвоненае. Становіцца і сумна, і сьмешна, калі нават такія радкі, як: „мне хочется любить, надеяться и верить" Маракоў перадае: „мне хочацца любіць, задумацца і верыць".
(„На залатым пакосе", ст. 29).

А верыць, што гэтымі радкамі можна ашальмаваць культурнага чытача, перадаўшы іх за пэрлы сваёй творчасьці—проста дзіўна і недарэчна.

Гэта ня кладка на шляху да росквіту беларускай літаратуры, а груба-нахальніцкая спроба запрудзіць яго карчамі аджыўшага дзерава.

У гэтым Маракоў мае сваяцтва з Паўлюком Трусом, калі не „перещеголял" яго ў некаторых „приемах", аб якіх напамінаць будзе зусім лішнім.

Сьляпы да нашай сучаснасьці, ён успрымае пушчынскія настроі і жыве імі:

...не магу... не магу і ня знаю,
з кім дружыць і каго абнімаць,
ці забыцца на сінім кургане,
ці каменьні зубамі ламаць.
(„Пялёсткі", стар. 4).

Не знаходзячы ў дні вялікага будаўніцтва новага жыцьця, „з кім дружыць" і „каго абнімаць", 17-ці гадовы юнак Маракоў кідаецца на курган—сымбаль мінуўшчыны „каменьне зубамі ламаць". А ці не ляпей, як казаў „светлой памяти" Леў Давідавіч Троцкі: „грызьці маладымі зубамі граніт навукі", кульцівіраваць свае здольнасьці, вырабляць з іх навык будаваць жыцьцё—сусьвет, аздараўляць сябе, як асобу, удзельніка грамады, якая на курганах мінуўшчыны пасадзіць кветкі шчасьлівай будучыні.

Валеры Маракоў, як вызначылі мы раней, знаходзіцца ў стане дэкляСаванасьці. Яго апанавалі ідэі „пунсаў для пунсаў", „сіні для сіні", „гарэньне для гарэньня", інакш кажучы, вобраз для вобразу, паэзія для паэзіі. Ён, як і большасьць яго літаратурных сутаварышоў, не ўсьведамляе сабе, што форма літаратуры і мастацтва толькі пры тых умовах апраўдвае сябе, калі яна мае канкрэтызацыю і імкненьне, накіраванае для выяўленьня зьместу, пабудаванае на аснове жыцьцябудаўніцтва.

Карыстаньне Маракоўым рамансамі надсонаўшчыны ня проста прыём бяздарнага чалавека, які ня можа стварыць свайго—такі сродак у яго ўжываецца для прыданьня твору большай пявучасьці, пяшчотнага лірызму, песьневасьці. Пры адсутнічаньні літаратурнай культуры, лінгвістычнага багажу, пры адарванасьці ад сацыяльнай масы, ён прымушаны, па прыкладу другіх, карыстацца старым і зьместам і формай у сваёй „новатворчасьці".

Наяўнасьць такой зьявы зусім законамяркоўная. Унутраная форма, як структура твору, яе музычнасьць, вобразнасьць і іншыя часткі цэлага комплексу, залежыць ад грамадзкага быту.

Фальшывасьцю дыхае той твор, у якім сучаснае кіпучае жыцьцё будзе апісана ў музыкальных і пяшчотных тонах, характэрных мінуламу стагодзьдзю. Мы яшчэ больш пераканаемся ў пустазвонстве такога твору,

калі ўбачым спробы ўкласьці новы зьмест у старыя формы, у аджыўшыя вобразы—сваяцкія аджыўшаму сьветапогляду. Маракоў карыстаецца старымі формамі і форма, як арганічная частка твору, пры адсутнасьці сугучнасьці яе з зьместам, можа заняць прывілейнае мейсца, і тады на арэну выходзіць пустазвонства. Маракоў паддаўся спутаць сябе літаратурным конюхам як з стайні „мастацтва для мастацтва“, так і з тых „пралетмальчыкаў“ і марксысцкіх дурачкоў, якія ў кожным сваім выступленьні цьвердзяць:

*Адны*—форма для формы „няма збавеньня апроч пекнаты“.

*Другія*—„нам важны зьмест творчасьці таго ці іншага паэты і пісьменьніка, а не яго формы“.

На гэтых „тэорыях“ такія ўрамарксысты нават арганізоўваюць цэлыя літаратурныя аб'яднаньні, якім загадзя жыцьцё выпісвае ордэр на сьмерць, бо нязгвалчаныя тэорыі марксызму кажуць зусім адваротнае:

…„**Искусство есть одно из средств организации жизни, через воздействие на волю суб'екта художественных образов, содержание и форма которых обусловливается социально-экономической структурой общества и классовым положением художника**“..

(Карл Маркс—„Тэзісы аб Фэйербаху“).

Мы ставім пытаньне—сацыяльнаэканамічная структура сучаснай грамады розьніцца ад 40-х гадоў мінулага стагодзьдзя?

— Бязумоўна, розьніцца.

Дык ці можна заяўляць, што для нас форма ня мае значэньня, што яна не павінна быць адным з асноўных фактараў, на якіх аб'ядноюцца творчыя сілы літаратуры і мастацтва.

Ня толькі няможна, але і злачынна, пры ўмовах таго, што за праграэс, а не рэгрэс высоўваць і падтрымоўваць такія рэакцыйныя тэорыі.

Захоплены плыняю, якая знаходзіць прыгожае ў старызьне, у адмаўленстве сёнешняга, Маракоў пяе апошнюю песьню:

…і так усё… ўсё пралящела,
чым сэрца некалі жыло,
і над далінай гэткай белай
іду, як мёртвы, за сяло.. і г. д.
(„Пялёсткі“, 37 ст.).

Альбо далей, у новым сваім зборніку „На залатым пакосе“, якому расьпявалі дыфірамбы трубадуры нашае крытыкі вызначаных двух разрадаў.

Але, ня гледзячы на гэтыя трубадурскія вызначэньні, мы спрабуем асьвядоміць грамадзянства па сутнасьці, наяўнасьці зусім іншага ў творчасьці Маракова. Для гэтага прывядзем некалькі характэрных прыкладаў:

…Быццам я згараю ў песенным агні,
быццам я далёка, ў вочы б'е туман
і нічога сьветлага больш ў жыцьці няма.
(„П.“ 30 ст.).

Чаму? Таму, што паэта:

…Палюбіў я асеньняе раньне,
бо ў ім многа раздум'я і сьлёз,
калі нехта ляжыць на кургане,
значыць, працы будзённай ня зьнёс…

Вось тут вам паэта па шчырасьці сваёй маладосьці і прызнаецца, чаму кладавіцца ён на курган і каменьні зубамі грызе. Таму, што працы будзённай ня зьнёс. Ня мог ва ўласьцівых яму формах выліць сэрца бурлячы накіп. Таму, што гэта сэрца сілай укаранелай псыхікі павінна было:

…Ну, чаго-ж так пад звоны гітар
маё сэрца палае каханьнем,
я яму толькі шчырасьць аддам,
я яго не спаткаю ў тумане.

Каханьне выліваецца ў аўтара толькі пад звоны гітар. Гэта сьведчыць аб тым, што „истинный“ пэрыяд эпохі Чэхаўскага „дяди Вани“ запускае карэньні ў беларускую літаратурную сучаснасьць. А таму нічога новага, калі адзін з такіх „сучасьнікаў“—Валеры Маракоў—пачынае на ледзяной гітары выбіваць вось гэтакі акорд:

… Відаць, ў жыцьці нікога не спаткаю—
каго змагу, як песьню, палюбіць
і ўсе шляхі, здабытыя вякамі,
прайду, як сон паўстаньня й барацьбы.

А песьня для песьні тое самае, што сонца для сонца.

Сонца сьвеціць усяму жывому. Песьні толькі тады карысны, калі яны пяюцца для людзей, а пры ўмовах дыктатуры пралетарыяту іх мэтаімкненьне павінна быць накіравана на абслугоўваньне і арганізацыю апошняга.

Праз плёнку літаратурнай сьлепаты Маракоў пачынае гэта бачыць. У вершы „паэтам“ кажа сваім літаратурным саратнікам:

... Вы ня знаеце, хлопцы, о не,
я скажу вам, браты, як таварыш,—
сёньня зоры за нас чырваней
не паэты, а зоры ўжо мараць...
(ст. 37).

Усьведамленьне значэньня свайго пустазвонства ў часы гармоніі і музыкі вялікай рэвалюцыйнай сучаснасьці — лепшы сродак для таго, каб пакахаць змаганьне за росквіт не пад гукі гітары, а пад гучныя гукі жыцьця...

Тод. Кляшторны сугучны па сваёй творчасьці Маракову. Здольны паэта, але з псыхікай ледзянога гітарыста, афарбаваны ў пурпуры, агняцьветы, штосьці схожае на золата, срэбра, апутаны рознымі дзявочымі косамі, журбой, туманамі, акружаны кілішкамі, каралямі, росамі, сінямі, змрокам і ладанам балотнае сіні— Кляшторны перажывае пяралом, характэрны для людзей яго напрамку.

Ён пачынае з каханьня да ледзяной гітары:

... З вішнёвых хмар на ледзяной гітары
заплакала зара па сонечнай вясьне
і быццам з вёснамі разьвееныя мары
на успамін застылі на вакне.
(„Кляновыя завеі“, 14 ст.).

І заўважаючы, што ад ледзяной гітары „ні толку, ні проку“, Кляшторны шалыгае да „Праксэды“. І там, поўны адвагі, упэўняе:

... Мы жывём ня толькі для красы
кожны крок мы дасягаем боем,
новы сум, як восень каласы,
точыць сэрца мне запоем.
(„Узвышша“ № 5, 114 ст.).

І ня гледзячы, што сваёю „Праксэдаю“ ён „кожны крок дасягае боем“, „нейчы сум“ точыць яго арганізм, прымушае чурацца ўдзелу ў нашым сёньні:

Сяджу адзін... Сягоньня я адзін...
Мярцьвеюць мокрыя за вакном пацёмкі.
У сэрцы тысячы абшчыпаных асін
(накшталт „Праксэды“, ці што? П. Ш.)
а думкі блудныя дэпэшы бяз пуцёўкі...

Гэты „нейчы сум“ прымушае Кляшторнага ад „Праксэды“ зноў вяртацца да ледзяной гітары і ў яе маўклівым пустазвонстве знайсьці прыгожасьць:

... У гэту ноч, калі сьвецяць зарніцы—
сьняць гаі верасьнёвыя сны,
у душы, як ў забытай капліцы,
па далёкаму плачуць званы...

Мы яму даём даведку, што капліцы, як спадчына рэлігійнай містыкі, разбураюцца новым пакаленьнем— новай зьменай сацыяльнай грамады.

Званы адзванілі сваё. Новыя гукі і тоны нясуцца з кузьні сучаснасьці. Званіць у літаратуры плачам каплічных званоў—значыць зьнішчаць сябе.

Сяргей Дарожны менш выявіўся з тых, што рабілі аналёгію іх творчасьці ў гэтым разьдзеле нашага артыкулу. Ён характэрны, як больш бяздарны, значна няпісьменны бядняк на мастацкае слова ў нашай літаратуры. Яго слоўнік—з сотні слоў. Вобразы—у большасьці бяссэнсавыя і не дарэчы ўжытыя. Вось адзін з сотні прыкладаў:

... Там... сонцавей дзе на жыта
выліў свой палкі пыл,
сьпелая радасьць *іможыцца*
*сонца* зьвязлі ў снапы.

Арыгінальная бяссэнсіца зроблена для „мілагучнасьці“, вобразнасьць для вобразнасьці—для рыфмаваньня выпадкова надуманых слоў: ...Сонцавей, срэбра, золата, сіні, блакіты—блакіты, сіні, золата, срэбра, сонцавей і г. д.

Вось што складае гэту „творчасьць“, сьціскае яе ў свае рамкі. А ў выніку тыя самыя рамансы:

... Зацьвітуць і асыплюцца ружы,
вецер долам лісты замяце...

І напамінаюць яны нам вельмі старэнькае: „отцвели и поблекли розы“.

Але адцьвілі і старыя рамансы, „поблеклі“ перад левым маршам рэвалюцыі—гімнам працы і барацьбы.

Адцьвіў стары зьмест, абсыпалася, як „Пялёсткі“ адцьвіўшай ружы, яго форма і цяпер мы глядзімо і вывучаем гэтыя „пялёсткі“ толькі як архіўны матар'ял, гарманічны сваёй аджыўшай эпохі.

*(Працяг будзе)*



**Паўлюк Шукайла**

# „Пресвятая богородица, спаси нас“

*(Агляд творчасьці Ўладзімера Жылкі і Міколы Байкова)*

## Аб дыфірамбных трубадурах, чысьцільшчыках абутку і Міколу Байкову

Трубадуры—слова даўнейшае. Яно паходзіць з кругабегу гісторыі XI—XIII вякоў. У той час былі правансальскія паэты. Яны хадзілі ад палацу да палацу, дэклямавалі на расьпеў пад акампанімэнт гітары свае творы, у якіх выслаўлялі каханьне і рыцарства. За гэту „пачэсную“ працу тагачасныя магнаты шчодра плацілі паэтам.

Мінула 728 год з тэй пары, а трубадуры ўсё жывуць ды пажываюць. Каста іх прагрэсіруе.

Калі ў XI—XIII в.в. шэрагі трубадураў напаўнялі паэты, дык у XX веку яны павялічыліся крытыкамі. Праўда, у членаў гэтай новай трубадурнай сям'і ёсьць свае асаблівыя новыя „об'екты“ абслугоўваньня. Замест магнатаў, каралёў і прыдворных дам абслугоўваюцца рэдактары некаторых часопісаў, хлебасольнае начальства, дочкі кумоў вялікіх чыноў і г. д.

Я не кажу ўжо аб тых „прысьвячэньнях“, што стракацяць на старонках нашае літаратуры. Нашто тут прыпамінаць аб тым, што паэта з сівізною гадоў становіцца на калені перад дзяўчынкаю і ў вершавым маленьні дзякуе за яе асалоду. Такія паэты толькі праправўнукі правансальцаў і нішто іншае. Нам цікава пазнаёміцца з новымі трубадурамі, нашымі некаторымі крытыкамі.

Адзін з тых, які найболей выявіў свой твар і заслужыў грамадзкае „прызнаньне“ і „звание—заслуженного“ крытыка такога прыёму быў і ёсьць—*Мікола Байкоў*.

Мы не зьвяртаем увагі ў гэтым артыкуле на ўвесь вялікі этап гэтай плённай працы таму, што, як кажа прыказка, „на кожнае чыханьне—не наздароўкаешся“. А падругое—гэта ў поўным значэньні не ўваходзіць у тэму нашае працы. Мы адчыняем заслону на літаратурнай сцэне і паказваем толькі адзін акт дзеі гэтага славутага гэроя. Акт адбыўся на старонках газэты „Зьвязда“, органу ЦК КПБ, 18-га сакавіка гэтага году.

Аб'ектам у дыфірамбшчыка—Міколы Байкова—на гэты раз быў Уладзімер Жылка з сваім зборнікам „З палёў Заходняй Беларусі“. Трубадурства дайшло да таго, што гэрой-крытык прыняў на сябе ролю чысьцільшчыка абутку. Ён захацеў вычысьціць заскарузлыя гразёю ад вандраваньня па брудных шляхох літаратурныя факстроты Уладзімера Жылкі.

Наколькі ён здолеў—пагаворым далей, а перад гэтым прадэманструем узяты Байковым „аб'ект“.

## Пасажыр на палітычным экспрэсе Менск — Коўна — Вільна — Варшава — Прага — Менск

Бывае так, што людзі пад уплывам цэлага комплексу псыхалёгічных зьяў, пабудаваных на аснове клясавай сьвядомасьці, на жыцьцёвым падарожжы, мяняюць напрамак і ўправа, і ўлева, і наадварот. Для гэтага чалавек падначальвае валявыя інстынкты свайго індывідууму—волі клясы, грамады, і ўсё жыцьцё, усю творчую працу прыладоўвае да яе арганізуючага арганізму.

Але знаходзяцца і такія людзі, якія бяз клясавага кантролю карысьнасьці таго ці другога павароту кідаюцца сабою ўлева і ўправа, аддаючыся стыхійнасьці хвілёвых імкненьняў. Яны свае індывідуальныя „я“ прадаюць усім і ўсякаму, хто ў такую хвіліну расчыніць дзьверы свае крамы.

Такія людзі—пасажыры палітычных экспрэсаў любога напрамку. Абы толькі ім рухацца, абы толькі той ці іншы экспрэс даў лагаднейшае месца ў сваіх вагонах.

Уладзімер Жылка за апошнія 8 год быў пасажырам экспрэсу Менск—Коўна — Вільна — Варшава—Прага—Менск. У першай яго Менскай пабыўцы ў літаратурнай творчасьці адзначыўся нацыянальным гэроем, які абараняе нацыянальнае адраджэньне Беларусі. Абараняе ад немцаў, палякаў і ад тых маскоўскіх чэкістаў, якія ўсякую нацпалітыку лічылі манархізмам і пасылалі яе „к чорту на кулички“ з савецкай рэчаістасьці (пэрыяду вайсковага камунізму). Тады, пад уплывам такіх настрояў, Уладзімер Жылка кідае покліч:

Пад штандар бел-чырвона-белы
Гуртуйся, раць, адважна, сьмела
Адважна-храбрых ваякоў.
Паходы грозныя і слава,
Часы Альгерда, Усяслава
Грунвальдзкі з немцам бой
І боек доўгі цяг з Масквой.
Пад знак Літоўскае пагоні—
Абараняць краіны гоні,
Народ забраны вызваляць,
Ісьці ў сьвятлу, сьвятло і палаць—
Сьпяшайся той, хто к волі рвецца,
У кім беларуса сэрца б‘ецца.
Зьбірайцесь ўсе—як-бы адзін—
Арлы радзімых пушч, нізін.
(„Наша Каляіна“ № 1, ст. 7).

А ці знаў аўтар Беларусь? Ці быў яму блізкі „народ забраны“? На гэта найлепей адкажам вытрымкай з яго-ж вершу:

.. Беларусь,—край замшчышч, курганоў,
Дзе таяцца страхоцьці і звод,
Дзе русалкі выходзяць з віроў,
І начніцы вядуць карагод,
Дзе пад шум каласоў ведзьмары
На палетках заломы кладуць
І ў Купальскую ноч у бары
Забабоны ў пацёмках снуюць...
(„З палёў З. Б.“ ст. 46).

Вось якая краіна Беларусь... Рыхтык як у апісаньні Ленінградзкай пісьменьніцы Шкапскай, што зусім не да твару беларускага паэты, які прэтэндуе на годнасьць нацыянальнага „полководца“.

Верш гэты напісаны ў 1920 годзе, у дні, калі наша сялянства, рабочыя ў пераважнай большасьці не займаліся пляценьнем забабонаў, вядзьмарствам (як Уладзімер Жылка ў сваіх вершах), а абаранялі бацькаўшчыну ад расейскай чорнай сотні і польскіх яснавяльможнасьцяў.

Тлумачэньні не патрэбны.

. . . . . . . . . . . . . . .

Наш аўтар сам расчыняе дзьверы свае таямніцы. Ён выкрывае хто ён такі і адкуль ён назірае за Беларусьсю.

... Душа мая тужлівая—
Лілея між балот.
Яна ўзрасла, маўклівая,
Між багны сонных вод.
Ёй сонца, неба сіняе,
Дзе сонечна вясна,
І песьняй салаўінаю
Атручана яна...
(ст. 102).

Белая лілея, тужлівая і маўклівая сярод балота, сярод багна жыцьця не магла заўбачыць рэчаістага сёньня ў маладой Беларусі. Яна толькі магла адзначыць:

... Наўкола-ж ціна брудная
І плесьня й гадкі пах,
Чыесь ўздыханьні трудныя
Нуда і нейкі жах.
(ст. 102).

Адарваўшыся ад жыцьця, ад яго крыніц, просты шлях аўтара павінен быў даправадзіць яго да таго,

што ён пачаў шукаць жыцьцё ў нябёсах:

... Вось гэткую, Хрысьце, ў Бэтане
Ты знаў, як і я, ў сваю пару
Марыі ўзвышанай каханьнем
затурбаваную сястру...
(ст. 73).

Ён замест Беларусі ідзе туды, дзе пустата, дзе Ісусы і г. д., і ў гэтым сваім новым напрамку чакае збавеньня:

... І нагадаю маліцьвенна,
ў збавеньне ўверыўшы сваё:
твае блакітнасьці нязьменны,
нязьменна хараство тваё...
(ст. 72).

Каменем адарваным ад зямлі ляціць паэта ў нізіны. Ён ня можа затрымацца, так як усе магчымасьці на гэта засталіся там, на зямлі:

... Душа, адданая прынадзе
цяжкой і горкай, як палын,
забыўшыся ў карчмовым чадзе,
ўбірае пах густы нізін..
(стар. 71).

Ад жыцьця, ад яго вытворчага працэсу ён ляціць у карчму, у дамы распусты і там знаходзіць прытулак для сябе,—славуты барацьбіт за вызваленьне беларускага народу:

... І нецьвярозы і распусны
запамятаў твае імя,
і не адны галубіў вусны,
і не з аднэй схадзіўся я...
(стар. 71).

Наступаюць дні бездарожжа, у ціне балотнага жыцьця, у якой закаціўся сам паэта, растуць думкі:

... Я трывожны... ў бездарожжы
Ў бяспуцьці
Воля—вехаць. Як даехаць.
Як дайсьці?
(стар. 65).

І куды-ж ізноў ідзе паэт? Ён вобмацкам у хістаньні, як п'яніца, з бездарожжа выходзіць на цёмныя шляхі. Замест таго, каб быць песьняром вызваленьня прыгнечанай Беларусі, ён зьяўляецца песьняром цемры і ночы, прадажнасьці, якая снуе аснову ўсёй творчасьці Ўладзімера Жылкі:

... Пусьцілі—ідзі (жыцьцём, бы кладкай).
Пакутуй гэта хоч ня хоч.
І вось нядужы над загадкай,
Я паклякаю ў цемру, ў ноч...
(стар. 88).

Гэтыя радкі накіраваны Заходняй Беларусі, песьні з палёў якой узяў на сябе адвагу напісаць Уладзімер Жылка. Ён кажа ёй у часы нязьмернага зьдзеку, каб яна пакутавала „хоч ня хоч“.

А сам ён робіцца здраднікам яе і „клякае ў цемру, ў ноч“, што абхапіла сваімі цэпкімі лапамі жывое цела краіны. Ён ня думае змагацца за сьветлае раньне:

... На абрусах тут брудныя плямы
і сумота ў *піяцкім* аблічча:
мне ня выпаўзьці з гэтае ямы,
не паслухаць далёкага клічу.
(стар. 89).

Дадатным на гэты раз зьяўляецца тое, што Ўладзімер Жылка ў „піяцкім абліччы“ разумее сваё становішча і шчыра прызнаецца ў бясьсільлі выпаўзьці з бруднае ямы, у якую ўцягнулі яго шляхі цёмныя:

... Я—багна, смырод, я поўзаю—гад—
Цябе-ж праклінаю ў маім паніжэньні...
. . . . . . . . . .
А можа блюзьнерства даруеш. А мо'...
Ты поўны пакоры, каханьня бяз зыску.
(стар. 125).

Ён блукаецца ў думках то да бога, то да самапрызнаньня, то лае сам сябе. Усё гэта акутваецца ў такую форму, у такую музычнасьць і кампазыцыйнасьць, што проста хоць „выстаўляй“.

У сваім кананьні піша:

... Рабіна ўжо чырвона
ня чуць птушых сьпяваньняў,
і ў мяккіх шэрых тонах
настрой ціхі кананьня...
(стар. 62).

Вось дзе пекната! Замест „сьпеваў“ для рыфмы ўжываецца „сьпяваньняў“, абы грала вершавая шэйнакатрынка.

Для гэтай мэты Ўладзімер Жылка зьневажае бедныя слоўнікі Міколы Байкова. Нават гэты „даравіты чалавек“ ня ўжыў-бы вось такія словазвароты:

... Крыху ўзрушаны і рады
спатыкаюся з табой,
і цьвітуць твае пагляды
і ўва мне і нада мной...

Альбо далей:

І вясною веюць пасмы
Хмелю сьветлага валос...

Уступаем ў сьветлы пас мы,
З намі сьветлы лёс.
(стар. 75).

Да ўсяго да гэтага дадаюцца эвангельскія тэрміны, вобразы і эвангельская тэматыка. Усе вершы складзены з слоў: прэсьвятая Марыя, збавеньне, маліцьвенна, цудоўныя, прачыстая тайна, кадзіва (кадило), сьвятая прачыстая, Хрыстос і г. д. Імі апавіта ўся творчасьць:

... Радасьць мая вялікодная—
Сына, пазнаўшага Маці,
і песьняй прадвесьня лагоднаю
усіх я пачну абдараці...
(стар. 19).

Чым не сьвятое эвангеліе, перакладзенае Жылкам у вершавыя рыфмы? Такія сродкі, „прыёмы“ творчасьці наступаюць у той пэрыяд часу, калі пісьменьнік зышоў з шляхоў жыцьця, калі ён пашоў па цёмных шляхох здрадніцтва. Жадных вобразаў, якія-б адбівалі настроі „Палёў Заходняй Беларусі“ і людзей, што abліваюць іх сьлязьмі і крывёю, у Жылкі няма. А „паважаны“ Мікола Байкоў, „гора-акадэмік“ нашай сучаснасьці, знайшоў, што гэта тэма, гэтыя матывы „праз увесь зборнік праходзяць чырвонаю стужкаю“. Прыведзеныя намі вытрымкі з вершаў яскрава сьведчаць аб тым, што ня чырвонаю стужкаю, а стужкаю п'янага ванітаваньня абліваецца вершавая палёвасьць Уладзімера Жылкі.

Жаднай „крылатай надзеі“, аб якой гаворыць Байкоў, у Жылкі няма. Ніякага апяваньня „долі-нядолі“ „Заходняй Беларусі“, а гаворачы словамі Байкова, можна адзначыць, што: „ёсьць рысы, якія выгодна адрозьніваюць творчасьць Уладзімера Жылкі ад творчасьці іншых маладых беларускіх паэтаў“. Гэтыя рысы хістаньня хвілінамі, гандаль сабою, паездка на экспрэсе жыцьця ў розных кірунках цёмнай ноччу ў „піяцкім“ абліччы. Гэтыя рысы, на вялікі жаль Байкова, не апанавалі і не характэрны для нашай маладой Беларусі і яе літаратуры.

Мікола Байкоў знайшоў у Жылкі толькі некаторыя „вольнасьці мовы і новыя штучныя словы“, якія „паважаны крытык“ адносіць на галаву ўкладчыка „маскоўска - крыўскага“ слоўніка, вядомага знаўца беларускай мовы і культуры В. Ластоўскага. На гэта, калі меркаваць аб двух мовазнаўцах Байкову і Ластоўскім, можна адказаць словамі байкі Крылова:

Ай, Моська! Знать она сильна,
Коль лает на слона!

Інакш лаянку Байкова, накіраваную супроць Ластоўскага, характэрызаваць ня маем магчымасьці.

Мікола Байкоў не запрыкмеціў сваім трубадурным вокам, не ўразумеў дыфірамбнымі мазгамі, што зборнік Уладзімера Жылкі „З палёў Заходняй Беларусі“ зьяўляецца яскравым прыкладам наяўнасьці на гэтых палёх „балотных белых лілій“, якія рачной плыняй зьнесены ў балота. Уладзімер Жылка гэтым зборнікам паказаў, колькі яшчэ тых людзей, якія калі не варожа, дык пасыўна адносяцца да дзей, што адбываюцца на гэтых палёх. Як яшчэ многа брудных ног, абутых у заскарузлыя боты, якія топчуць, дратуюць гэтыя палі. І па пустому такія крытыкі, як Мікола Байкоў, прымаюць на сябе сваяцкую ім ролю „чысьцільшчыкаў“. Творчасьць Уладзімера Жылкі сама выдае аўтара. Увасабляючы сабою праститутку, Жылка заклікае:

... Каму жыцьцё атруты келіх,
хто спаняверaны, як я,
хто ўжо ня сьніць аб далях-белях,
пад ветру сьвіст і шум быльля;
Каму спакой душы няшчаснай
нездавальненьня точыць крот;
каму дакучыў жонкі ўласнай
на ўласным ложку пешчаў лёд;
Каму распачна ноч пустую
Спакусным сьмехам цешыць сук;
каму ўсё роўна, 'бы якую
Сьціскаць пярсьцёнкам млявых рук;
Хто душу чорную, як вугаль,
злачынства цешыў і крывёй;
хто п'яніца, разбой, зладзюга
з мізэрнай дробнаю душой;
Каму распусты жах прынадны,
хто гора топіць у віне;
маім абоймам тыя жадны,
прыходзьце тыя да мяне.
(стар. 121—122).

Вось, хто зьяўляецца блізкім Уладзімеру Жылку ў яго песьнях. „З па-

лёў Заходняй Беларусі“. Вось кім ён увасабляе сябе. Нічога іншага нельга дадаць, каб давесьці, да якіх сьцежак-дарожак дашалыгаў Уладзімер Жылка, кім ён стаў, з кім ідзе і дзеля чаго жыве. П‘яніца, злачынец, прастытутка, здраднік—лепшы яго сябра. Яго жыцьцё—„атруты келіх“. І гэты келіх зьвёў яго на цёмныя шляхі, па якіх блытаўся на экспрэсе творчага жыцьця мінулыя гады Ўладзімер Жылка. І ў яго літаратурным сёньня мы можам бачыць толькі адно, што характэрна для яго, як паэты, гэта тое, што:

> ... Зацьвіўшае плесьняй
> Ня здолее жыць...

Так сказаў Уладзімер Жылка і з гэтым прызнаньнем нельга не згадзіцца, толькі неабходна дадаць:

> ... Рожденный ползать
> Летать не может...

Балотна-багняная лілея ня можа перадаць гукі барацьбы і змаганьня, стогну і зьдзеку гэраічнага народу „З палёў Заходняй Беларусі“...



**Макар Шалай**

# Паэты і пісьменьнікі Полаччыны

Перш як узяцца за разгляд творчасьці полацкіх паэтаў і пісьменьнікаў, якая зьмешчана ў выданым імі апошнім альманаху,—„Росквіт“,—лічым патрэбным вылажыць наш погляд на крытыку наогул і „крытыкаў“ у прыватнасьці.

Да гэтага часу ў нашай беларускай літаратуры можна было наглядаць розныя „прыёмы“ крытыкі. Адзін з іх складаўся з разгляду асобных дадатнасьцяй ці недахопаў таго або іншага твору. Пры такім мэтадзе, звычайна, выпісваецца некалькі больш лепшых або дрэнных месцаў, і пасьля гэтага „крытык“ або зацягвае дыфірамбы аўтару, або па „праву“ ці не па праву „ўгроблівае“ яго.

На цэласны твор, на яго матывы, мэтаімкненьне, на каштоўнасьць ужытых вобразаў такія крытыкі, звычайна, не зьвяртаюць увагі. Зразумела, што гэты „прыёмчык“ крытыкі паверхоўны, драбязны, па існасьці сваёй няправільны і бяссумленны. Стылістыка,—мова і склад, удалы сказ, гукаперайманьне,—усе з пералічаных элемэнтаў самі па сабе маюць занадта малае значэньне, каб яны нават у сваёй сумеснасьці змаглі-б быць абсалютнай меркай каштоўнасьці таго ці іншага твору.

Найбольш яскравым прыкладам такога ґатунку псэўда-крытыкі зьяўляецца зьмешчаны ў газэце „Чырвоная Полаччына“ артыкул М. Грашчанкі аб альманаху полацкіх паэтаў і пісьменьнікаў.

У гэтым артыкуле можна прачытаць такія пэрлы: „Зборнік здавальняе *смакі ўсіх*—і рабочага, і селяніна, і настаўніка, і служачага, і камсамольца, і вучня, і маладога, і старога“ (Бязьдзетных, людзей з жонкамі і бяз жонак так і ня ўлічылі. Шкада! *М. Ш.*). Большай бязглузьдзіцы хто-б і жадаў, дык ня змог-бы прыдумаць.

Сьцьвярджаць, што гэты зборнік здавальняе „смакі“ розных, і сацыяльных і ўзростных, груп, значыць, сьцьвярджаць устаноўку на пазаклясавую літаратуру, пазаклясавае мастацтва, што можа быць рэальнасьцю толькі ў эпоху пазаклясавасьці.

Далей, М. Г. робіць новы „рэвэранс“: „*каштоўнасьць твору адзначаецца яго ходкасьцю ў натаўп чытачоў, г. зн. рынкавы спыт—мерка каштоўнасьці тэй або іншай культурнай зьявы*“ (курсіў мой. *М. Ш.*). Відавочна, што справа абстаіць фактычна далёка ня гэтак. Творы Маякоўскага, Пільняка і Кручоныха маса чытачоў можа ня чытаць па зусім простай прычыне: асобы, якіх выводзяць у сваёй творчасьці гэтыя аўтары, па іх апісаньню, да дробязяй паходзяць на вялікаю кольскасьць „людзішак“ нашай сучаснасьці. Да гэтага нямалага натаўпу „людзішак“ адносяцца ня рэдка „пісцы“ і „ода-пісцы“. Яны-ж, гэтыя пісцы, і робяць усе, каб „угробіць“ Маякоўскага, Пільняка і інш. Не стваецца адпаведная рэкляма, а якое вялікае значэньне мае рэкляма ў распаўсюджаньні ня толькі літаратуры, а нават і галёшаў. Гэтаму нас вучыць ня трэба. Зарэцкага і К° могуць больш чытаць не таму, што яны больш проста пішуць, а таму, што тут можна знайсьці больш чагосьці „страўнага“, часам для ня зусім выпрацаваных і разьвітых „смакаў“ нашага рынку, *рынку ў пераходную эпоху ад старога да новага.* Прос-

тае прыстасаваньне да „смакаў“ рознай стар'ёўшчыны завецца—шамаць хлябец за лік ашуканства просталюдзінаў. Задача пісьменьніка не „папісваць“, каб чытачы „пачытывалі“, а даваць творчасьць, якая-б чытача прымушала варушыць мазгамі, якая-б у выніку ў яго сьвядомасьці пакідала кавалкі культуры (не па-за клясавай, а клясавай, ды яшчэ пралетарскай!).

Вельмі сумна, што мы прымушаны займацца такімі азамі. Але вось на два пытаньні, у якіх вы, т. Грашчанка, заблыталіся таксама, ня даць адказу немагчыма.

а) Пры разглядзе творчасьці трэба браць твор ад яго пачатку і да канца, г. зн. і форму і зьмест, а пасьля ўжо выводзіць рэзюмэ. Разлучаць форму ад зьместу, значыць быць вандалам у літаратуры і зьнішчаць твор. Наяўнасьць арганічнага адзінства і поўная палагоджанасьць паміж зьместам і формай павінны быць у кожным больш-менш таленавітым творы. Калі яе няма, значыць, мы маем справу з творчасьцю бяздарнага „паэцішкі“, ня вартай увагі. Уласьцівасьць вады вы ня вывучыце, калі ня возьмеце пад увагу арганічную сувязь паміж тленам і вадародам. У адваротным выпадку, ваша праца будзе бязглуздым „крахаборствам“, пазбаўленым хоць якога сэнсу.

б) Задачы сучаснай літаратуры наступныя: адлюстраваньне працэсу вялікага сацыялістычнага будаўніцтва (як гаспадаркі, так і культуры) нашае савецкае краіны,—раз; паказ сапраўднага чалавека, карыснага справе рэвалюцыі, які самаахвярна змагаецца за новае жыцьцё, будуе сацыялізм,—два; высьвятленьне ў яскравым, зразумелым малюнаку настрояў рабочых, сялян, нашай савецкай інтэлігенцыі, высьвятленьне яго з такім разрахункам, каб у творы было заложана здаровае мэтаімкненьне, каб твор канцэнтраваў грамадзкую думку на карысьць рэвалюцыі,—тры.

„Пісаніна“, „паперапсаваньне“ на іншы лад („мастацтва дзеля мастацтва“, „няма збавеньня апроч пекнаты“), зьяўляецца прадуктам творчасьці, якая павялічвае вагу не сацыялістычнага сэктару, а жыватворчай вадой асьвяжае галовы прыцішэўшай контррэвалюцыйнай зграі, усяго ганакакальнага, што засела ў балоце нашае мяшчаншчыны і абывательшчыны.

З усяго сказанага значыць: літаратурны твор тым больш каштоўны, чым ён больш, як па форме, так і па зьместу, у сваёй суместнасьці сугучны і перапоўнены новым, рэвалюцыйным.

Літаратура—сродак жыцьцябудаўніцтва. Толькі, і толькі з такой устаноўкай можна падыходзіць да разгляду каштоўнасьці якога-б ні было літаратурна-мастацкага твору.

Зрабіўшы гэтыя заўвагі і вызначыўшы асноўныя прынцыпы, з якімі мы падыходзім да разгляду літаратурна-мастацкай творчасьці наогул, мы можам, нарэшце, перайсьці да разгляду полацкага „Росквіту“.

Некаторыя патрэбныя і неабходныя дэталі:

Кніжка выдадзена Полацкай філіяй „Маладняка“ ў Кастрычніку 1927 г.; кошт—40 кап.; у зьмест уваходзяць тры апавяданьні і 42 вершы.

„Росквіт“ зьяўляецца другім альманахам творчасьці полацкіх таварышоў.

Удзельнікаў у выданьні—13.

З больш знаёмых па творчасьці, прымаюць удзел у гэтай кніжцы—Пятрусь Броўка, Сымон Хурсік, Янка Відук, Сьцяпан Сямашка і Пчалкоў.

Вершы займаюць дзьве трэці ўсяго зборніку. Мы першым чынам і прыступім да разгляду іх.

Зьяўляючыся самі праўдзівымі прадстаўнікамі нашага сялянства, і К. Пчалкоў, і П. Броўка, і Янка Відук, і Сьцяпан Сямашка і амаль усе астатнія на сваёй скуры перажылі „салодкасьць“ царскага прыгнечаньня і панска-польскай акупацыі, таму, зразумела, іх паэтычная творчасьць у сучасны момант ня можа быць не перапоўнена настроем бадзёрасьці і заклікам да ўпартае работы над узмацненьнем вольнай краіны:

Дык за тое так сёньня вясёла,
Ў сэрцы вера расьце—ў сьветлы лёс,
Што у родным у бацькавым полі
Новых дзён закрышталіў усплёск.
(П. Броўка).

У такім-жа духу пішуць Пчалкоў, Відук і іншыя. Да прыкладу возьмем невялікі ўрывак з К. Пчалкова.

Колькі хараства
ў гэтым мілым краю.
У вясновых чарах
агні загараюць...
Месячык цьвярозы
пахіліўся ніцам...
Ой, ды з-пад бярозак
коціцца крыніца.

Некалькі ў другім тоне аб гэтым піша Відук:

Чуцен трывожны шум,—
ня здрыгнуць калені,
бо ў сэрцы—
Ленін,
і мне ня ўпасьці ніц.
(ст. 67).

Паміж іншым, тут аўтар у словах „Чуцен трывожны шум“ зусім цьвяроза расцэньвае сучаснасьць. Ён намякае на тое, што ідэі Леніна ў сучасны момант знаходзяць сваё ажыцьцяўленьне толькі ў адным СССР. Пралетарыяту ўсяго сьвету яшчэ патрэбна будзе прайсьці праз вялікую бойку з эксплёататарамі, каб атрымаць магчымасьць рэвалюцыйныя ідэі Леніна правесьці ў жыцьцё. Аўтар з упэўненасьцю ў перамогу працоўных кажа—„Чуцен трывожны шум,—ня здрыгнуць калені, бо ў сэрцы—Ленін, і мне ня ўпасьці ніц“.

Большасьць т. т. сваю паэзію чарпаюць у сваім-жа быце, у сваім штодзенным жыцьці, а ня ў рыторыцы, не ў фантазіях. Каб давесьці гэта, мы назавём некалькі з гэтых вершаў: „Пастух“, „Два“—Т. Хадкевіча; „Ружавее вёска“—Р. Хвойкі; „Таганы“—П. Броўкі і шэраг іншых.

На жаль, мы не пазбаўлены магчымасьці мець у колах нашай чытачоўскай публікі значную колькасьць людзей, якія на твор, дзе аўтар гаворыць аб аржаным хлебе, ды яшчэ на палову з мякінаю, аб лапцях, аб абадранай сьвітцы пастуха, аб драўляных таганох і іншае, на такі твор глядзяць, як на зьнявагу, прафанацыю паэзіі. Такі твор яны нахільны абзываць не мастацкім, „прозаичным и смертным“. Густ рабочага, селяніна, працоўных мас—густ другі. Гэткія творы яму больш блізкі, ён іх лепш зможа раскусіць. Элемэнты мясцовага, бытавога і культурнага калёрыту як у вершах, так і ў прозе павялічваюць каштоўнасьць разгляданых намі твораў.

Уражаньне, якое застаецца пасьля чытаньня вершаў К. Пчалкова, Рыгора Хвойкі, Язэпа Козіка і Міколы Сямашкі, можна перадаць у наступных словах: яны бязумоўна ня высокае вартасьці. Усе лепшыя іх вершы прасякнуты „сінябровай зімой“, „гаем-борам“ і пахам „зрэбнай вёскі“. Апісаньне ўсяго гэтага простае і наіўнае. Яны падобны адзін да другога, як аднолькавыя акорды, толькі розных скрыпак. Пры самым рознабаковым да іх падыходзе надзвычайна цяжка адшукаць хоць што-небудзь арыгінальнае, характэрнае для каго-небудзь з іх. Ня прыходзіцца гаварыць аб іх у паасобку і таму, што з аднаго-двух вершаў, ды магчыма тых, якія зьяўляюцца першакамі іх паэтычных спробаў, нельга рабіць вынікі аб усёй іх творчасьці. Факт зьмяшчэньня іх творчасьці ў „Росквіце“ мае ўсё-ж некаторае значэньне ў павялічэньні агульнай удзельнай вагі апошняга хоць-бы тым, што там зьмешчаны творы ня толькі „паэтаў-прафэсыяналаў“, а і пачынаючага літаратурнага маладняка, які дае аб сабе знаць. Нават больш таго, думаецца, што ў гэтых т. т. ёсьць кавалачкі талентаў, здольных да прагрэсаваньня.

Большасьць астатніх вершаў, як-та: „Пажар“, „Стой, пралетары, пільней на пасту“—С. Хурсіка; „Мы на Ленінскім шляху“, „Аб чым зьвініць душа“, „У брыльянтавых росах“—П. Броўкі; „Зьвіні, сталь, зьвіні“—С. Сямашкі; „Чуцен трывожны шум“, „Партызаншчына“—Ян. Відука і „Два“—Т. Хадкевіч, — прысьвечаны сучаснасьці. У гэтых вершах таварышы выступаюць як песьняры рэвалюцыі, песьняры Вялікага Кастрычніка. Матывы гэтых вершаў перапоўне-

ны жыцьцярадаснасьцю, рэвалюцыйнымі імкненьнямі й самаахвярнасьцю:

Няхай сыкаюць ворагі-гады
на нас,
хай праклёны нам шлюць
кожны дзень, —
не адняць ім ніколі
магутнасьці ў нас—
рассыпаць па краіне
сталёвую зьвень.

(С. Сямашка).

Вось затым цяпер і ляціць з душы:
„выйдзі, любая, чорнабровая.
Бачыш—
недзе там за дубровую
прыгажэй што-раз чырвонее шыр".
Пруцца ветры ў даль палахлівыя,
гіне дзед-туман, нібы белы дым.
Разьвітаемся—
я пайду туды,
дзе гудкі гудуць пераліўныя.

(П. Хадкевіч).

А ў радзімым полі—
ўсюды льлюцца песьні;
то пяюць таполі,
новай казкай весьняць.
Ня бываць ўжо „голым"
у бядзе, у горы,
бо што-ночку болей
чырванеюць зоры.

(П. Броўка).

У асноўным пра гэта піша і Янка Відук, і С. Хурсік.

Творчасьць гэтых таварышоў не падобна да маханьня „чырвонай хусткай". У іх творчасьці можна нагледаць пэўную, патрэбную ў творах дынамічнасьць і вытрыманасьць з боку формы. У асноўным гэтая творчасьць зьяўляецца рэакцыяй на поэтычную салённасьць, на бязідэйную „бясклясавую" літаратурную творчасьць, якая зусім ня рэдка прашчоўкваецца ў нашай сучаснай літаратуры. Рэвалюцыя для гэтых паэтаў не зьяўляецца мецяжом, яны з яе ня робяць фэтышаў, яны ведаюць, што апошні бой яшчэ будзе. Для іх наш мір—мір перадышкі. Момант, калі нашы „справаводы", якія жывуць „ціхенькім жыцьцём" і працуюць над вырашэньнем праблем культурнага і гаспадарчага будаўніцтва, павінны будуць узяцца за вінтоўку, калі гэта будзе патрэбна ў інтарэсах пралетарскай рэвалюцыі,—гэты момант маладыя паэты ўяўляюць сабе так:

Эх, лясы,
аднаго шкадую,
што рука ў крыві не пацела...
Дык цяпер...
не пашкадую кулі.
Дык цяпер
бязумоўна
пацэлю!
Не адзін,
а нас вырасла многа,
гартаваных у Ленінскай кузьні...
. . . . . . . . .
І растопчам апошні рогат
і утопім
у літарах
брудных.

(Ян. Відук).

Рэвалюцыя ў іх разуменьні ня спэктакль, ня цацка і не матэрыял для мастацкай апрацоўкі:

Сягоньня йдзём
стальной дарогай.
Што-дзень бліжэй
агні камун.
Нас зьбіць з дарогі
ніхто ня зможа,
бо мы на
Ленінскім шляху!..

(П. Броўка).

Шлях індустрыялізацыі краіны, калектывізацыі сельскай гаспадаркі—шлях цяжкі, але адзіна верны і няўхільны. Культурнае і гаспадарчае будаўніцтва за дзесяць год рэвалюцыі на грунце Ленінскай рэвалюцыйнай тэорыі цалкам сябе апраўдала. Як кажа сам аўтар—„Нас зьбіць з дарогі ніхто ня зможа, бо мы на Ленінскім шляху".

На жаль, прыходзіцца зазначыць, што ў некаторых месцах вершаў Броўкі побач з рэвалюцыйнымі ў большасьці матывамі можна прачытаць:

Бярозкі!.. Любыя бярозкі,
вы зноў хістаеце чупрынай
там на палёх радзімай вёскі
у шэпце ветраў ля даліны.

Вы зноў вітаеце прыгожасьць
вясны з вішнёваю усьмешкай,
а я ў жыцьцёвым карагодзе
згубіў да поля свайго сьцежкі.

Адгэтуль не вынікае, што паэтаю аўладалі настроі, якія можна азначыць словам „есенинщина". Гэтым настроям па сваёй творчасьці П. Броўка знаходзіцца дыамэтральна працілеглым:

Ну, бывае... хто цёмнаю ноччу
Гадам сіпне: „ня вер .. перастань!"
Але больш загараюцца вочы
І на сэрцы пружыніцца сталь.

Бязумоўна, „у жыцьцёвым карагодзе губіць сьцежкі да свайго поля“ (у перакладзе на мову прозы гэта значыць адарвацца ад сацыяльнага асяродку, быць дэклясаванымі. *М. Ш.*) не зьяўляецца пахвальнай справай, але мы ўпэўнены, што паэта сьцежку да свайго сацыяльнага асяродку знойдзе, і, як і раней, зможа прыносіць апошняму шчырую магчымую даніну.

Не на ўсе сто процантаў вытрыманым ад пачатку і да канца зьяўляецца Т. Хадкевіч. З поўнай аб'ектыўнасьцю прыходзіцца канстатаваць некаторыя недахопы і хібы ў пабудоўцы вобразаў, кампазыцыі вершаў і гукавым іх афармленьні, дзеля чаго ў некаторых месцах адчуваецца нацягненасьць, вымучанасьць іх,— Zwang,—звычайна няпрыемная для слухавога ўспрыняцьця:

Дні грымелі агнявыя,
чырванела даль зарою.
І у полі віхры вылі,
за гарою ля дарогі
стрэлы чуліся парою.

Такая манатоннасьць пры пабудове вершу напамінае сабой тонічнасьць і рытміку старадаўных казак, накшталт „Канька-гарбунка“.

Месца з ня зусім вытрыманай кампазыцыяй можна сустрэць амаль ува ўсіх вершах Т. Хадкевіча. Трэба больш працаваць над стылем. Паўтарэньне, і прытым частае, амаль адных і тых-жа эпітэтаў, вобразаў парушае кампазыцыйнасьць, агульную прыгожасьць ня толькі вершу, але і кожнага літаратурнага твору.

Ува ўсіх паданых прыкладах мы бралі найбольш тыповыя, характэрныя для кожнага з аўтараў у пасобку месцы. Як часткаю ўжо сказана вышэй, у вершах пералічаных таварышоў шмат новых думак, элемэнты новай формы, новай пабудовы вершаў. У творчасьці даецца не статыка, а галоўным чынам дынамічнасьць. Адлюстраваныя малюнкі жыцьця маюць сваё адзінае мэтаімкненьне: яны паказваюць, які́м павінна быць жыцьцё і які́м павінен быць сам чалавек — будаўнік новага, нязнанага намі раней, жыцьця. Такая дадатнасьць у паэтычным творы з найбольшай яскравасьцю выяўляецца ў вершах Броўкі, Хурсіка і Відука, яна бясспрэчна зьяўляецца значным крокам наперад. З агульнай колькасьці вершаў гэтых таварышоў ня можна знайсьці ніводнага вершу тыпу пасланьняў „сінеючым далям“, „журботнай дзяўчыне“ ці наогул „бледнай луне“.

Ёсьць у гэтым зборніку невялічкі лік вершаў і другога гатунку, на якіх прыходзіцца спыняцца асобна.

Было лета. Цьвілі настурцыі
Ды застылі ў імглістую стынь.
І мароз галаву сівалосую
На гарачых палётках пагрэў.
Калі жыць і ня бачыць прыгожага,—
Лепш прыгожа й раптоўна згарэць.
(Г. Брэская).

Пададзены ўрывак з вершу „Настурцыі“ зьяўляецца характэрным для ўсіх твораў Брэскае, зьмешчаных у „Росквіце“.

Істоту іх тэматыкі ня можна нічым ляпей перадаць, як маленькім эпіграфам аднаго з расейскіх рамансаў: „Отцвели и поблекли розы, и мне нечего больше желать“, ці „Догорай, догорай, моя лучинушка, догорю с тобой и я“. Хочацца даць Брэскай маленькую параду: не станавецеся на калені перад Есеніным,—асабліва зараз, калі ваш талент яшчэ толькі пачынае фармавацца.

У той-жа час трэба зазначыць досыць сур'ёзныя адносіны Брэскай да фармальнай апрацоўкі сваіх вершаў.

Апошняе, на чым трэба спыніцца пры разглядзе вершаў, гэта на творчасьці Макара Дружыны. Слова „дружына“ слова расейскае і азначае яно нешта сяброўскае, калектыўнае. Вершы-ж Дружыны дызгармануюць з усімі іншымі творамі, зьмешчанымі ў „Росквіце“. Нешта накшталт „казьлятону“ ў так-сяк падабраным канцэрце або хоры. Крыклівая шурпатасьць з кампазыцыйнага боку.

Разапрэла кашуля між плеч.
Ручайкі абцякаюць па твары...
Гэта сёньня вясковая „галеча“
сонцу вышла яешню жарыць.

...„вясковая „галеча“ сонцу вышла яешню жарыць“. Пусты вобраз і без захаваньня мэтаімкненьня.

Далей у вершы, прысьвечаным „С. Х.“, М. Дружына піша:

Я ня думаў, ня знаў і ня ведаў,
што каханьне—атрута жыцьця,
што каханьне—заблытаны рэбус
і так цяжка яго разгадаць.

Розьніца тут паміж тым, што пісаў Есенін, і гэтымі радкамі тая: Есенін з фармальнага боку куды лепш выказваў сваю думку:

Я не знал, что любовь—зараза.
Я не знал, что любовь—чума.
Подошла и прищуренным глазом
Хулигана свела с ума.

З прозы ў зборніку зьмешчаны творы: аповесьць „Пад панскай няволяй“—С. Сямашкі; паэма „Таіса“—Ян. Відука і апавяданьне „Спатканьне“—Крушыны.

Матывы гэтых трох твораў—сацыяльна-нацыянальныя, за выключэньнем апавяданьня Крушыны „Спатканьне“, сюжэт якога ўзяты з вясковага быту.

Аповесьць С. Сямашкі „Пад панскай няволяй“. у сваёй даволі мастацкай пабудове, паасобных месцах мае некаторыя недахопы. Аўтар ня зусім добра ўладае дыялёгам. Гэтая недарэчнасьць адчуваецца асабліва ў двох месцах,—апошняя гутарка паміж Янкам і Ганнай, калі Янка ад'яжджае на фронт, і гутарка паміж бацькамі Ганны і Міронам, калі той прыехаў з сынам Міхасём да Ганны ў сваты.

Сюжэт аповесьці распрацаваны досыць добра Аповесьць чытаецца лёгка і з захапленьнем. Асобныя даволі мастацкія вобразы з вялікай сілай аднаўляюць у памяці чытача панараму жудасных зьдзекаў над сялянствам у часе панска-польскай акупацыі Беларусі:

— „О, псякрэў, прыкідваецца, падла!—і рука ў пальчатцы зноў замханулася, апусьціўшы бізун над сьпіной, ляжачай на зямлі кабеты, расьсекла кужэльную сарочку і заставіла на белым целе крывавы адбітак бізуна.

Тамаш стаяў ціха ў парозе, апусьціўшы вочы ў зямлю, і нават не зьвяртаў ніякай увагі на тое, што жонка ляжала бяз памяці, а дзеці лілі халодную ваду на галаву“.

Далей:

„Вецер сьціх, нібы прыслухоўваўся да плачу, нібы любаваўся полымем пажару, нібы цікавіўся рабункамі жаўнераў.

...Эх, вёскі вы, вёскі беларускія, толькі вы пацярпелі такія зьдзекі ад польскіх катаў.

...Эх, сэрцы вы, мужыцкія, моцныя, толькі вы можаце з гонарам перажываць ліхія гадзіны.

...Эх, Беларусь, краіна родная, колькі зьдзекаў панскіх перанесла ты...“

Аповесьць „Пад панскай няволяй“ мае вялікую каштоўнасьць як гістарычны малюнак, малюнак мінулага пяці мільёнаў беларускага насельніцтва, што зараз вольна, пад кіраўніцтвам КПБ, будуе сваю гаспадарку і культуру. Лёс-жа гісторыі прымусіў значную частку нашага народу знаходзіцца і ў сучасны момант пад уціскам разьюшаных польскіх паноў і шакалаў-пілсудчыкаў. Дзякуючы гэтаму твор Сямашкі злабаднеўны і асабліва цікавы. Ідэйны зьмест аповесьці—цалкам вытрыманы.

„Таіса“—паэма Ян. Відука, зьяўляецца найбольш выдатнай мастацкай каштоўнасьцю з усяго зборніку. Для нас асабліва цікава характэрная для Відука спроба адступіцца ад старых традыцый, якія ўжываюцца нашымі маладымі пісьменьнікамі,—маляваць тыпаў альбо „стопроцантнымі“ пралетарамі з усімі зямнымі і незямнымі дадатнасьцямі, альбо, наадварот, „стопроцантных контррэвалюцыянэраў“. Гэтае сьляпое ўспрыняцьце старых „агіт-прыёмаў“ для творчасьці новай літаратуры нічым ня можа быць апраўдана. Пакольку наша эпоха — эпоха, пераходная ад старога да новага, часта даводзіцца наглядаць такія выпадкі, калі старое надзвычайна моцна прысмакталася да псыхікі асобных індывідуумаў і можа быць зьнішчана часам толькі з вялікімі цяжкасьцямі. К. Маркс пісаў: „Мы кажам: рабочым прадстаіць пражыць пятнаццаць, дваццаць, пяцьдзесят год грамадзянскіх войнаў і боек ня толькі для таго, каб зьмяніць грамадзкі лад, але й для таго, *каб зьмяніць самых сябе*“.

Гэрой паэмы—Таіса, аўтарам абмалёвана чалавекам, які, з аднаго боку, у сваім унутраным зьмесьце, у псыхіцы, адчувае імпульсы новых імкненьняў, новага жыцьця, а з другога—старое моцна трымае яе ў сваіх кіпцюрох. Гэтая сітуацыя адбы-

ваецца з Таісай міма яе волі і жаданьняў. Страляніна па такіх „калеках“ у ідэйных адносінах праз нашу мастацкую літаратуру вельмі патрэбна.

Пятрусь—другі гэрой гэтае паэмы, пры самых складаных псыхалё ічных умовах, як вытрыманы партызан-батрак, ня згубіў клясавае сьвядомасьці, застаецца верны ідэям сваёй клясы ў інтэрэсах рэвалюцыі.

Аддзел бібліаграфіі і крытыкі ў альманаху надзвычайна бедны (усяго дзьве старонкі), аб ім ня прыходзіцца гаварыць.

Вывад аб полацкім літаратурна-мастацкім альманаху „Росквіт“ павінен быць такі:

Пераважная частка матар'ялаў, якія зьмешчаны ў „Росквіце“, бязумоўна, заслугоўвае ўвагі чытачоў.

Шмат з твораў прымушаюць чытача думаць, бо іх агульны зьмест даволі глыбокі.

Разнастайнасьці матар'ялу, якую-б патрэбна было тут бачыць, пры захаваньні адзінага мэтаімкненьня, няма, ня гледзячы на тое, што ў выданьні зборніка прымала 13 асоб.

У папулярнай мове і прыгожых вобразах выяўлены важныя эпізоды змаганьня рабочых і сялян за сваё вызваленьне. Пераважная частка матар'ялаў адбівае нашу сучаснасьць,— настроі, якія вынікаюць з эканамічных працэсаў.

Сьцьвярджаць, што гэта кніжка здавальняе „смакі“ „уся“ і „усіх“, як гэта робіць М. Г.,—мы лічым нясур'ёзным.

Факт выхаду гэтага альманаху мае вялікае палітычнае значэньне. Працэсы сучаснай дыфэрэнцыяцыі ў літаратуры — зьява законамярковая і няўхільная. Крайняя неабходнасьць і патрэбнасьць выданьня такіх альманахаў абумоўлена: магчымасьцю групаваць навакол іх асобныя літаратурныя плыні, якія выявіліся,—першае; патрэбнасьцю прыцягненьня і арганізацыі новых літаратурных кадраў — другое; фармальна-мастацкай разнастайнасьцю—трэцяе. Пералічанае разам з тым дае магчымасьць вольнага спаборніцтва паміж рознымі плынямі нашай савецкай літаратуры.

Адзін з актыўных беларускіх чытачоў сказаў: „Часам прыходзіцца і трэба чытаць і добрае і дрэннае: і лекцыі па гісторыі беларускай мовы дацэнта Ваўка-Левановіча, і творчасьць Ул. Жылкі. Мне, чытачу, трэба знаёміцца і з роднай, іншы раз ня зусім сакавітай, цаліной нашай літаратуры. Гэта трэба рабіць, каб мець магчымасьць убачыць, што добрае і бачыць, што сакавіта, але бяздарна.



# Бібліаграфія

## „Веснавыя мэлёдыі“

Перад намі невялічкі зборнічак вершаў у 77 старонак Фр. Грышкевіча „Веснавыя мэлёдыі“, выпушчаны выдавецтвам „Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры“ ў Вільні ў 1927 г.

Зборнічак мае аж 67 невялічкіх вершыкаў і, паводле падзелу аўтара, мае гэтакія аддзелы: 1) „Веснавыя мэлёдыі“ з адным вершыкам *„Росткі-ростачкі“* — гэта нешта накшталт уступу, 2) „Вечнае“ і 3) „Павевы“.

Па зьместу, нам здаецца, вершы можна з большага падзяліць на дзьве часткі: вершы агульна-грамадзкія, прысьвечаныя беларускаму краю (край аўтар чамусьці піша ўсюды з вялікай літары), і вершы ўласнага перажываньня ў каханьні і наогул, прысьвечаныя пытаньням дзяўчыны.

Заходняя Беларусь, скуль паходзіць і сам аўтар *), як вядома, пераносіць шмат зьдзекаў як сацыяльнага, так і нацыянальнага характару, нямінучых (зьдзекаў) пры капіталістычнай сыстэме панаваньня наогул і імпэрыялістычнай, фашысцкай Польшчы ў прыватнасьці.

Сацыяльнае і нацыянальнае прыгнечаньне ў Заходняй Беларусі шчыльна пераплятаюцца паміж сабой. Так ёсьць нават і ў вершыках п. Грышкевіча, дзе поплеч з нацыянальнымі матывамі закранаюцца і матывы сацыяльныя. У першай частцы гэтага зборнічку аўтарам паказана поўная эканамічная і палітычная залежнасьць насельніцтва Заходняе Беларусі ад абшарнікаў-паноў.

Ужо ў другім вершыку „Русь Бела“ аўтар успамінае ўсю нядолю беларускага насельніцтва „учора“, гэта знача пры царызьме:

> ... „Тут і сьлёзы бурнай рэчкай,
> тут і звон кайданаў ліха,
> тут і гвалты й зьдзекі цечкай
> зігацелі ярка сьвечкай
> і шапталі нам за печкай:
> „Ціха, быдла, ціха... ціха“ (стар. 4).

У супастаўленьні з сучаснасьцю аўтар кажа, што і „сяньня“—чытай пры польскіх панох—на беларускіх гонях чуюцца тыя-ж самыя зьдзекі:

> „Тут і сяньня гром гарматы,
> тут і сяньня звон кайданаў
> і гнілыя нашы хаты
> гэткі самыя багаты,
> той сам пан сядзіць пракляты
> й смокча нашу кроў із ранаў“ (ст. 5).

Далей аўтар кажа, што і „сяньня“ беларусаў ня лічаць за людзей, а клічаць быдлам:

> „Сяньня сьлёзы буйнай рэчкай,
> сяньня звон кайданаў ліха,
> сяньня гвалты й зьдзекі цечкай
> адгарэлі ярка сьвечкай
> і крычаць нам то-ж за печкай:
> „ціха, быдла, ціха... ціха“... (ст. 5).

Так, усё як і раней. Польскай дзяржаўнасьці пахваліцца нечым, ня крок уперад, а назад да царскага рэжыму і наогул да ўсяго прыгоньніцкага ўкладу жыцьця. Усё сьцішэла; нават жывёліны і расьліны панiклі галавамі. У вершы „Забойчая ціш“ аўтар перадае наступны стан рэчаў:

> „Ціха ў бары,
> Ціха ў гаю

*) Фр. Грышкевіч паходзіць з Гродзенскай губ.; скончыў Віленскую Беларускую Гімназію і цяпер вучыцца ў Праскім Унівэрсытэце. Па поглядах — нацыянал-дэмакрат — прыхільнік кс. Ад. Станкевіча і б. п. Ярэміча.

Нават птушкі не пяюць"...
„Ціха траўка ў ценю сьпіць"...

Усё заціхла і хварэе, а чаму гэта ўсё—аўтар падае тлумачэньні ў наступных радкох таго-ж вершу „Забойчая ціш", стар. 10.

„Наш бор хворы
Ў цудным маю,
Бяз жыцьця ягоны шмэр;
Страшны зморы
Там у гаю,
Дзе пануе гвалту зьвер".

Скуль-жа шукаць ратунку ўсёй такой нядолі, якая апанавала краіну? Здавалася-б, што аўтар зусім натуральна павінен быў улічыць вялікі вопыт змаганьня і перамогі работнікаў і сялян Савецкіх рэспублік, дзе ўжо дзесяць год як скінуты путы сацыяльнага і нацыянальнага ўціску, дзе ўжо дзесяць год ня чуваць звонаў тых кайданоў, аб якіх аўтар піша, што яны і дагэтуль яшчэ грымяць у Заходняй Беларусі На жаль, аўтар гэтага ня бачыць, як відна, ня бачыць і наогул росквіту беларускае культуры ў Савецкай Беларусі. Ідэалам аўтара зьяўляецца „вольная" Русь Бела, гэрбам якой зьяўляецца пагоня. Нацыянал-дэмакратычны пагляд аўтара праяўляецца ўсюды, дзе толькі можна, нават не сароміцца пець дыфірамбы хрысьціянска-каталіцкай хлусьлівай, да ўскрайнасьці шавіністычнай газэціне „Крыніцы" ў часе „сьвяткаваньня яе дзесяцігадовага юбілею" *).

У вершы „Крыніцы" аўтар піша:

„Беларусь"—вечны знак чыстых
вуснаў Тваіх,
Ты цалком захавала нам чары
пагоні (ст. 28)

У другім вершы Грышкевіч зноў пяе дыфірамбы нацыянал-дэмакратычнаму абвешчаньню незалежнасьці Беларусі—25 сакавіка 1918 г.—нямецкіх падхалімаў, якія не пасароміліся пасьлаць прывітальную тэлеграму кайзэру Вільгэльму.

Там зьмяшчае ён наступае:

„Загудзелі звоны ў вежах,
Распусьціўся ў сэрцах Май,
І ў абшырных нашых межах
Загрымела: „Вольны Край!"... (ст. 29.)

Гэта ў аўтара тады так называемы „Вольны Край", калі ўся Беларусь стагнала пад абсацам нямецкай акупацыйнай улады.

У іншых вершах аўтар усіх прызывае ўслаўляць і кадзіць перад пагоняй:

„Ходзьце, браця, са мной,
Пойдзем кадзіць Пагоні аўтар" (ст. 30)

(Слова „Пагоні" аўтар ужывае таксама з вялікай літары).

Тое самае мы бачым і ў вершы „Signum".

... „Хай Нёман слаўны на сваім
улоньні,
Мест хвоек, соснаў і дубоў вяковых,
Нясе штандары вольнае Пагоні,
Якія стройна у руках вясковых
На бокі розна парывае бура
І носіць песьню змагаром панура"...
(стар. 20).

Пэрлам усёй гэтай нацыянал-дэмакратычнай ідэалёгіі сьведчаць радкі ў вершы: „Можа гэта толькі згадка".

... „Можа гляне хто з украдка
І спытае, дзе мне дзецца;
Я скажу... ў мяне ёсьць хатка,
Можаш Ей ты прыглядзецца:
Дом мой—Край, Айчызна—матка,
Вось і мейсца—дзе падзецца...
Аднак, сэрца страшна б'ецца"...

Аўтар, маючы на мэце адбудову „вольнай" нацыянал-дэмакратычнай Беларусі, нічога рэальнага не прапануе, хоць-бы на адбудову і ягонай Беларусі. Ён альбо ў роспачы зваручваецца да буры, каб яна штосьці адпаведнае зрабіла:

„Гэй, завыйце, буры,
Пад вакном сталіцы (?)
І равеце пануры
Абраз чорнай буры...
На роднай зямліцы" (ст. 11).

Альбо ўпадае ў нейкі містыцызм, дзе просіць сілы ў змаганьні: верш „Малітва" (стар. 25).

„Дай-жа нам, дай
Сілу ў змаганьні;
Дай-жа нам, дай
Моц у трываньні...
Прымі наш зоў,
Нашы малітвы,
Як жаўняроў
З крывавай бітвы..."

І далей:

„Пачуй мой зоў,
Зоў Русі Белай!" (стар. 25).

*) Газэта „Крыніца" пачала выдавацца кс. Ад. Станкевічам у 1918 годзе, і яе дзесяцігодзьдзе спаўняецца толькі ў 1928 г., але чамусьці яе выдаўцы сьвяткавалі ў 1927 г.

У гэтым містычным вершы „Малітва“ аўтар бярэ на сябе непасільную і цераз моц адказную сьмеласьць казаць, што гэта зоў, „Зоў Русі Белай“.

Уся Заходняя Беларусь—чамусьці аўтар увесь час называе Русь Бела—хапаецца ўжо не за містыцызм, а за рэальныя суадносіны сіл...

Далей аўтар таксама мае сьмеласьць казаць, што ён (яго ідэолёгія) з народам, а народ за яго:

Верш „З Народу мы“:

„З Народу вышлі і ў Народ“
Мы пойдзем поўны веры...
З Народам пойдзем мы ўпярод,
Як верныя жаўнеры.
З народам мы... Народ за нас“...
(стар. 22).

Цікава толькі, які народ мае на мэце п. Грышкевіч. У сваім зборніку аўтар ані слова не ўпамінае аб работніках і сялянах, а, відаць, мае на мэце народнікаў: ксяндза Ад. Станкевіча і з Сельсаюзу Ярэміча і К°, за чый кошт і выпушчаны гэтыя „Веснавыя мэлёдыі“. Ну, тады будзе ясна, што ён за „Народ“ а „Народ“ за яго, бо саўпраўднаму народу—работнікам і сялянам Заходняе Беларусі, якія ня ідуць пад штандарамі пагоні Станкевіча і Ярэміча—гэты зборнічак нічога не дае як па зьместу, так і з боку мовы. Да рэчы—аб мове зборніку, які ўвесь перасыпан прыкрымі паланізмамі і русіцызмамі. З русіцызмаў спатыкаюцца такія словы: росткі, лбоў, такжа, ярых, сьлядзі, ноль, гроб, пабедзе, струя, скрыў, паняў, нет—і шмат іншых. З полёнізмаў: цуда, акляскі, уданьня, уісьціцца, ветрыска, грана, прана, гэндзе, гэн аж гэн, і таксама спатыкаюцца звароты, як-бы запазычаныя з кантычкі, напр.: „паверыў ён астатня сэрца слова“ (стар. 13).—чыста касьцельны выраз.

Шукаючы рыфмы, аўтар абсалютна не зважае на мову, націскі і канчаткі, уласьцівыя беларускай мове. Для дасягненьня сваёй мэты—захаваньня рыфмы—аўтар прыносіць усё ў ахвяру. Вось гэтаму яскравы прыклад:

„Ты ўпорна глядзела ў гору,
Як замершы—бяз руху і дэрыг,
І казала буяючы ў мору...
„Паглядзі на мяне ў гэты міг
„Паглядзі і скажы бяз уданьня“
„Ці я годна тваёга каханьня“...
(стар. 47)

У другім месцы зноў чытаем:

Са мной ты зраднілась,
Табе я стаўся брат,
У мазгі на гвалт мне ўвілась
Крыві маей напілась
І мучыш так... Як кат (ст. 75).

Як бачна, аўтар дзеля рыфмы ўжывае дзеясловы і пры тым чыста расейскія. Вышэй прыведзеныя дзеясловы ў беларускай мове маюць поўны канчатак—„ся“. Потым аўтар ужывае канчатак *і*, замест *е*, напр., „у задум*і*“, „у сум*і*“ і інш. Чым вытлумачыць такія канчаткі, дык хіба і сам аўтар ня ведае, бо тут-жа можна было-б напісаць і правільна: у суме, у задуме і рыфма ня згубілася-б. Праз увесь зборнік аўтар проста хварэе вялікімі літарамі, як, напр.: „Чарадзей, Край, Рай, Айчызна, Ей, Пагоня, Прадвесьне, Дух, Народ, Люд, Воля, Каханы Край, Веча, Слава, Доля і шмат інш.

Канчаючы свае заўвагі, трэба сказаць, што ўражаньне ад вершаў Грышкевіча сумнае, хоць сам аўтар і ліча сябе „вершаклетам“ (стар. 60).

**Б.—Б.**

**„Полымя“ № 1,** 1928 год, Менск, *выд. Б. Дз. Выд. іп. 8°, ст. 225. Цана 1 р. 50 кап.*

У 1922 г. вышаў першы нумар часопісі „Полымя“. Мізэрны, тоненькі журнальчык, слабы па зьместу, у сэнсе тэхнічным выданы нядбайна, на дрэннай паперы, ён меў выгляд глуха-правінцыяльнае часопісі, выданае на ўласныя сродкі гуртком нявызнаных выдатнасьцяй павятовага маштабу, смаглых да славы аматараў уласнае творчасьці. І толькі шэраг прозьвішчаў у сьпісе рэчаў нагадваў аб тым, што гэта ня так, што перад намі адзіная тагачасная цэнтральная беларуская часопісь.

Час ішоў, ішлі гады, узрастала, узмацоўвалася беларуская культура, расьцьвітала буйнымі кветкамі і разам з ёю расло і ўзмацоўвалася „Полымя“. І цяпер, на сёмым годзе свайго існа-

ваньня, „Полымя“, бязумоўна, самая сур'ёзная наша часопісь. Такое яе становішча прымушае нас падыходзіць да яе з зусім асобымі строгімі вымаганьнямі. Асаблівую цікавасьць набывае для нас першая кніжка „Полымя“ за 1928 год, сёмы год існаваньня гэтае часопісі.

Перад намі вялікая (14 аркушаў), у сэнсе друкарскае тэхнікі, досыць добра выданая кніжка. Пры павярховым разглядзе кідаецца ў вочы багаты зьмест, разнастойны і цікава падабраны матар'ял. Сем год жыцьця часопісі не прайшлі для яе дарма.

Пачынаецца кніжка з аддзелу мастацкае прозы. У гэты аддзел уваходзяць: пачатак раману Янкі Нёманскага „Драпежнікі“, аповесьць Цішкі Гартнага „Гаспадар“ і пачатак раману І. Бэхэра „Адзіная справядлівая вайна“ „(CHCl=CH) 3 As (Люізыт)“.

Удавацца ў разгляд раману Нёманскага, паскольку апошні толькі распачаўся друкаваньнем, яшчэ рана.

Аповесьць Цішкі Гартнага „Гаспадар“ напісана на даволі злобадзённую тэму і можа лічыцца адным з лепшых твораў гэтага пісьменьніка. На жаль, зьвяртаюць на сабе ўвагу надзвычайна нядбайныя адносіны аўтара да беларускае мовы. Папершае—лексікон Цішкі Гартнага перапоўнены русіцызмамі, напр., „распасьцёрся“, „заметны“ (зам. „прыкметны“), „дзела“ і інш. Шмат гэтак сама і русіцызмаў у пабудове сказаў і ў граматычных формах, напр., „сякер, абчэсваўшых дрэвы“... і шмат інш. Падругое—часта словы ўжываюцца не ў належным сэнсе, напр., „Той гэтаму будзе адмаўляць“...—на расейскую мову прышлося-б пералажыць так: „тот этому будет отказывать“..., але не: „тот будет это отрицать“..., як гэта, відаць, хацеў сказаць аўтар. Ці ўзяць, напр., такі сказ: „А гэтага дзела як-ні-як ужо здабыта нагэтулькі, што хопіць супроцьпаставіць безадказнай гутарцы“. Усе гэтыя прыклады зьнянацку ўзяты намі з аднае толькі 31-ае старонкі. Колькі-ж такіх недарэчнасьцей можна знайсьці ўва ўсёй аповесьці? Хай судзіць чытач. Мы думаем, што Цішку Гартнаму, як і шмат каму з іншых нашых пісьменьнікаў, трэба ўзяцца за культуру мовы. Моўнай анархіі ўжо час палажыць канец.

Адносна раману Бэхэра трэба сказаць, што пераклад на беларускую мову такіх выдатных твораў замежнае літаратуры можна толькі вітаць. Раман Бэхэра—першы замежны раман, які друкуецца на беларускай мове. Мы спадзяёмся, што гэта толькі пачатак, што з гэтага беларуская перакладная літаратура будзе расьці і з цягам часу—квітнець.

Прыходзіцца адзначыць, што ў разгляданым нумары „Полымя“ аддзел мастацкае прозы ўсё-ж такі даволі бедны. Лік празаічных твораў абмяжоўваецца трыма вышайпаказанымі рэчамі, з якіх дзьве друкуюцца працягамі, што, у даным выпадку, бязумоўна трэба лічыць хібаю ў пастаноўцы часопісі: „Полымя“ выходзіць даволі рэдка (раз у 1½ месяцы), і лепш было-б друкаваць у ім большую колькасьць драбнейшых твораў, а раманы друкаваць адзін пасьля другога, з тым, каб у кожным нумары даваць большыя ўрыўкі.

Пераходзячы да разгляду вершаваных твораў, трэба зазначыць, першым чынам, значны поступ Якуба Коласа, які яскрава выступае ў яго поэме „На шляхох волі“. Цікава зусім новая для Я. Коласа шасьцісямірадковая строфіка, што набліжаецца да расійскае клясычнае строфікі і часамі нагадвае строфіку Пушкіна. Чыстата шліфоўкі і чаканкі вершу гэтак сама надзвычайна высокая. Разглядаць паэму больш падрабязгова з боку яе зьместу і формы паводле надрукаваных урыўкаў яшчэ цяжка.

Вершы Алеся Дудара, Вішнеўскай і Пфляўмбаўм у масе твораў гэтых аўтараў, даволі добра вядомых нашаму чытачу, нічым асаблівым не вызначаюцца.

Надзвычайна цікавай зьяўляецца паэма А. Александровіча „Цені на сонцы“, што выклікала сярод нашае абывацельшчыны шмат гутарак і плётак. Паэма накіравана супроць мяшчанства, якое зьвіло сабе пры-

тульнае гнязьдзечка ў колах нашае „высокакваліфікаванае“ інтэлігэнцыі, розных дацэнтаў і т. зв. „спэцаў“. Зьяўленьне паэмы ў сучасны момант трэба прыняць надзвычайна своячасовым. Здарэньні ў Шахцінскім раёне прымушаюць нас, не ўдаючыся ў „спэцаедзтва“, з пільнаю ўважлівасьцю няўхільна сачыць і з надзвычайнай асьцярогаю адносіцца да розных „высокакваліфікаваных“ „адломкаў разьбітага ўшчэнт“, паслугамі якіх у сучасную пераходную пару, на жаль, яшчэ змушана карыстацца савецкая дзяржава. Трэба заўсёды памятаць, што сярод сотак і тысяч чэсных „спэцаў“ заўсёды можа быць і некалькі „прымазаўшыхся“ таемных, але актыўных ворагаў, разглядзець якіх у нашых складаных абставінах вельмі нялёгкая справа. Акрамя ўсяго гэтага—А. Александровіч у сваёй паэме „ўзяў пад абстрэл“ яшчэ адну важную балячку нашае сучаснасьці — „кумаўство“, змаганьне з якім партыя і савецкая ўлада вядзе ўжо некалькі год,—няўхільна і ўпарта. Тыпы мяшчан схоплены аўтарам вельмі ўдала, і дзеля гэтага зусім ня дзіва, што „кумушкі“ і „цётушкі“ пачалі пазнаваць у іх сваіх добрых знаёмых. Калі хто меў на каго зуб, дык той не прамінуў выкарыстаць паэму для сваіх асабістых разрахункаў з ворагамі. Пасварыцца нейкая там Мар‘я Іванаўна з Мар‘яй Нічыпараўнай і давай адна адну ўпікаць:—і сама ты такая-сякая, і мужык твой „цень на сонцы“, хлебаед, аб ім Александровіч паэму сваю напісаў!“ У выніку ў нашай глуха-правінцыяльнай абстаноўцы паэме Андрэя Александровіча сталі прыпісваць пасквільны характар. Дарма. Зразумела, можна было-б пашкадаваць гэтага, але ня варта. Узьняты навокал паэмы гармідар сьведчыць аб тым, што стрэл аўтара папаў у цэль. (Хто парася ўкраў, таму ў вушох вішчыць). У сэнсе формы паэму „Цені на сонцы“ трэба прызнаць бязумоўна ўдалай. Зьвяртае на сябе ўвагу надзвычайная гнуткасьць рытму, у вогуле, праўда, характэрная для ўсяе творчасьці Андрэя Александровіча, і цэлы шэраг удалых алітэрацый (асабліва на літары „р“, на сьвісьцячыя і шыпячыя). У сэнсе эўфанічнасьці—паэма чытаецца „на слух“ з вялікай прыемнасьцю для вуха.

У публіцыстычным аддзеле даволі цікавым зьяўляецца артыкул Л. Каплана, прысьвечаны праблемам культурнай рэвалюцыі і нацыянальнай культуры, хаця асабліва новага там нічога і няма. Надзвычайна каштоўны артыкул А. Цьвікевіча „Заходне-русская“ школа і яе прадстаўнікі“, які зьяўляецца першаю спробаю сур‘ёзнага навуковага досьледу крыніц русіфікатарства на Беларусі. Ня гледзячы на сваю сур‘ёзнасьць, артыкул напісаны надзвычайна жывою мовою і чытаецца з захапленьнем. Друкаваньне такіх артыкулаў у „Полымі“ трэба прызнаць вельмі пажаданым.

Наступны артыкул Касьпяровіча аб арганізацыі беларусазнаўства ў XIX і XX стагодзьдзях напісаны суха і радавому чытачу дае надзвычайна мала. Стыль Касьпяровіча—казённы, з прысмакам стара-рэжымнае плецяні і бюракратычнай канцалярШчыны—часам вельмі нагадвае Кузьму Пруткова. Вось характэрны ўрывачак, узяты зьнянацку:

„Пасьля 1874 году дзейнасьць аддзелу прыпынілася, бо наежджыя *рускія людзі* (?! *Г.* і *Ш.*) не маглі жывіць яе заміłаваньнем да вывучэньня краю, а мясцовых працаўнікоў яшчэ амаль што ня было, калі ня лічыць дзеячоў *польскай арыентацыі на Польшчу* ад мора да мора“. (Курсіў наш. *Г.* і *Ш.*).

Трэба думаць, што Касьпяровічу зусім зразумела, што калі, напр., француз арыентуецца на Польшчу, дык пра яго кажуць: ён француз польскай арыентацыі. Але сваіх чытачоў, відаць, Касьпяровіч лічыць за ідыётаў, якія могуць падумаць, што арыентацыя на Польшчу можа быць ня толькі польская, але і ангельская, нямецкая, папуаская ці готэнтоцкая.

Артыкул Байкова „Да пытаньня аб прыёмах і мэтадах нашае крытыкі“ адзначаецца тым, што ў ім няма бадай нічога аб мэтадах і прыёмах нашае крытыкі. Ёсьць толькі палеміка (часам—удалая, часам—няўда-

лая) з некаторымі таварышамі, якія так ці іначай у працягу году зачапілі Байкова, галоўным чынам, з Лёсікам і з Кундзішам. Лёсік абразіў Байкова сваёй ня зусім хвалебнай рэцэнзіяй на байкоўскі слоўнік. Што-ж датыча Кундзіша, дык чым ён абразіў Байкова—мы ня ведаем. Хіба можа Байкоў прыняў на сябе выбрык Кундзіша на тэму аб штатных алалоўніках у артыкуле „Sine ira et studio“ („Узвышша“ № 2, 1927 г.). Дарма. Наўрад, каб у савецкай дзяржаве знайшлася ўстанова, што згадзілася б трымаць у штаце за крытыкаў аўтараў такіх „прыгожых“ артадаксальна-марксысцкіх“ рэцэнзій, як рэцэнзія Байкова на кніжку Жылкі „З палёў Заходняй Беларусі“. Мы ні ў якім выпадку не зьяўляемся прыхільнікамі „Кундзішаўскае“ крытыкі; мы нават згодны і з тым, што ў сваіх разважаньнях аб Кундзішу—Байкоў, магчыма, зусім правы. Аднак, нам здаецца, што зусім ня сумленна падносіць публіцы свае асабістыя разрахункі пад назваю навуковых артыкулаў. Рэдакцыя „Полымя“ добра зрабіла-б, каб у далейшым не дапускала такога злоўжываньня старонкамі свае часопісі.

Артыкул Т. Глыбоцкага „Літаратурнае балота“... Аб Тодары Глыбоцкім гаварылася і пісалася значна больш, чым ён варты. У даным выпадку яго артыкул хаця ў асноўных рысах і правільны, усё-ж такі ў сэнсе глыбіні не падымаецца вышэй звычайнага для Тодара Глыбоцкага балота.

Аддзел кнігасьпісу, як і заўсёды, даволі рознастайны і добра скампанаваны. Некаторым дысанансам зьяўляецца рэцэнзія Ф. Гарадзенскага „по поводу“ кніжкі М. Грамыкі „Плынь“. Рэцэнзія траскучая, слоў многа, цытат яшчэ больш. Але многа і бязглузьдзіцы, а галоўнае—да сэнсу ніяк не дабярэшся. Злажыць пэўны погляд на кніжку, рэцэнзаваную Ф. Гарадзенскім, чытач, бязумоўна, ня зможа.

Што датычыцца аддзелу хронікі, дык у першым нумары „Полымя“, як і раней, ён зложаны дужа добра—цікавы, багаты фактамі. У даным выпадку толькі чамусьці ня дадзена хронікі замежнага жыцьця. Трэба думаць, што гэта зьявішча выпадковае.

Абагульняючы ўсё вышэйзгаворанае трэба канстатаваць, што папярэднія шэсьць год існаваньня часопісі „Полымя“ не прайшлі для яе дарма. За гэты час часопісь вырасла, узмацавалася. Паводле першага нумару відаць, што ў 1927 годзе, параўнальна з папярэднімі гадамі „Полымя“ не пагоршыцца, а, наадварот, будзе пастаўлена значна лепш. І цяпер няма чаго і гаварыць, што ня чытаць „Полымя“ больш-менш культурны грамадзянін, які цікавіцца жыцьцём і культураю свае краіны, ня можа.

Пажадана, каб у далейшым часопісь насіла характар аб‘ектыўнага органу літаратуры і культуры Беларусі, ухіляючыся ад паасобных выбрыкаў, накшталт артыкулаў Байкова і іншых, якія маюць асабістыя ці групавы ганакакальны характар.

**Г. і Ш.**



Зацьвярджаю:
Нам. Нар. Камісара Ўнутраных Спраў БССР
*Кроль.*

21-га сьнежня 1927 г. № 5.

# СТАТУТ

## Беларускай Літаратурна-Мастацкай Камуны

### I. Мэты і заданьні

1. Беларускае аб'яднаньне „Літаратурна-Мастацкая Камуна", грунтуючыся на прынцыпах рэвалюцыйнага марксызму і камуністычнае партыі, ставіць сабе заданьнем, праз літаратуру і мастацтва прымаць удзел у жыцьцёбудаўніцтве, весьці змаганьне за найбольш дасканальна арганізаваную форму чалавечага сужыцьця — камуну сусьвету.

2. Для зьдзейсьненьня вышэйазначанай мэты, аб'яднаньне арганізуе ў сваіх шэрагах працаўнікоў літаратуры і мастацтва, якія маюць адзінае мэтавае імкненьне.

3. Усю сваю працу аб'яднаньне пабудоўвае на сьцісдай сувязі з масамі, прыцягваючы з іх новых сяброў — прыхільнікаў і правадзейных сяброў аб'яднаньня і арганізоўвае апошніх ува ўсіх раёнах Беларусі (дзе знойдзецца адпаведны лік сяброў).

4. Арганізуе выданьні сваіх сяброў, а таксама іншых пісьменьнікаў і мастакоў, як беларускіх, так і чужаземных, блізкіх аб'яднаньню паводле зьместу і формы творчасьці.

*Увага.* Сваю выдавецкую працу аб'яднаньне праводзіць як праз уласныя, так і праз іншыя выдавецтвы.

5. Выдае часопіс літаратуры, мастацтва і крытыкі пад назвай „Росквіт".

6. Адчыняе ўласныя кнігарні, кіоскі, а таксама і іншыя прадпрыемствы, зьвязаныя з чыннасьцю аб'яднаньня.

7. Наладжвае літаратурна-мастацкія вечары, публічныя справаздачы аб творчасьці сяброў аб'яднаньня, а таксама лекцыі, дыспуты аб сучасным становішчы і пэрспэктывах літаратуры і мастацтва.

8. Склікае сходы, нарады, зьезды для вырашэньня асноўных пытаньняў працы аб'яднаньня.

9. Праводзіць выхаваўчую працу сваіх сяброў у мэтах пашырэньня іх кваліфікацыі, а таксама і марксысцкага кругазору.

10. Арганізуе паказальні (выстаўкі) прадукцыі творчасьці сяброў.

11. Наладжвае дасьледчыя і іншамэтавыя (увязаныя з жыцьцём арганізацыі) паездкі і экскурсіі сяброў як у межах БССР, так і па-за межамі яе, а таксама робіць усё іншае, не прадугледжанае статутам, але шчыльна зьвязанае з працаю аб'яднаньня паводле папярэдніх артыкулаў.

### II. Склад аб'яднаньня

12. Аб'яднаньне складаецца з правадзейных сяброў і сяброў прыхільнікаў.

13. Правадзейныя сябры бяруць актыўны ўдзел у працы аб'яднаньня і ва ўсіх пытаньнях, зьвязаных з чыннасьцю аб'яднаньня, карыстаюцца правам пастаноўчага голасу.

14. Сябры-прыхільнікі аб'яднаюцца ў літаратурна-мастацкія гурткі і карыстаюцца правам пастаноўчага голасу ўва ўсіх справах, якія датычацца дзейнасьці гуртка.

15. Правадзейнымі сябрамі аб'яднаньня могуць быць усе беларускія пісьменьнікі і мастакі, якія дасягнулі паўналецьця і не пазбаўлены права голасу і падзяляюць пагляды аб'яднаньня на літаратуру і мастацтва, або якія ў сваёй творчасьці выяўляюць ідэолёгічную блізкасьць да пляцформы аб'яднаньня і на фронце літаратуры і мастацтва будуць змагацца пад лёзунгамі: „Літаратура і мастацтва—як сродак да росквіту жыцьця", „Літаратура і мастацтва—як элемэнты будаўніцтва камуны сусьвету".

16 Прыём і выключэньне сяброў робіцца Цэнтральнаю Радаю ў згодзе з большасьцю сяброў аб'яднаньня.

### III. Органы кіраўніцтва

#### А. Зьезд

17. Найвышэйшым органам аб'яднаньня зьяўляецца Зьезд правадзейных сяброў, які лічыцца правамоцным, калі на ім прысутнічае больш паловы ўсяго складу аб'яднаньня.

18. Да кампэтэнцыі Зьезду належыць:

а) выбары Цэнтральнае Рады і Рэвізыйнае Камісіі;

б) вызначэньне агульнага кірунку і працы Цэнтральнае Рады і Рэвізыйнае Камісіі і зацьверджаньне наказаў;

в) унясеньне зьмен у статут.

19. Зьезд склікаецца Цэнтральнаю Радаю паводле яе ініцыятывы, ці на падставе вымаганьня ня менш, як 30 проц. агульнага ліку правадзейных сяброў аб'яднаньня, не радзей, як адзін раз у год.

Б. Цэнтральная Рада

20. Цэнтральная Рада абіраецца Ўсебеларускім Зьездам аб'яднаньня тэрмінам на адзін год.

*Увага*: Зьезд можа зьмяніць тэрмін паўнамоцтва.

21. Цэнтральная Рада складаецца з трох сяброў і двух кандыдатаў, якія з свайго складу выбіраюць старшыню Рады.

22. Да кампэтэнцыі Цэнтральнае Рады належыць:

а) вырашэньне ўсіх пытаньняў, якія датычацца штодзённай дзейнасьці аб'яднаньня;

б) зносіны з установамі і арганізацыямі БССР, іншых Савецкіх Рэспублік і замежжа;

в) абарона ў іх інтарэсаў аб'яднаньня;

г) падрыхтоўка матар'ялаў і спраў да Зьезду;

д) прыём новых сяброў і выключэньне, згодна з § 16 II-га разьдзелу статуту;

е) вядзеньне ўсяе гаспадарчае і выдавецкае часткі працы, для чаго вылучаецца адказны работнік з складу Цэнтральнае Рады;

ж) кантроль працы гурткоў.

23. Да скліканьня першага Зьезду аб'яднаньня ўсю працу Цэнтральнае Рады праводзіць старшыня, які абіраецца групаю заснаўцаў.

В. Рэвізыйная Камісія

24. Рэвізыйная Камісія абіраецца Зьездам на адзін год і складаецца з трох сяброў і двух кандыдатаў.

25. Рэвізыйная камісія наглядае:

а) за правільным ажыцьцяўленьнем Цэнтральнай Радай статуту аб'яднаньня і пастаноў Зьезду;

б) за гаспадарчымі і грашовымі апэрацыямі Цэнтральнае Рады.

26. Рэвізыйная Камісія мае права пасылаць сваіх сяброў на пасяджэньні Цэнтральнай Рады з правам дарадчага голасу і патрабаваць ад Цэнтральнае Рады для праверкі ўсе матар'ялы і дакументы, якія датычаць як грашовае, так і агульнае дзейнасьці аб'яднаньня.

27. У мэтах папулярызацыі аб'яднаньня ў шырокіх масах працоўных гушчаў, Беларуская Літаратурна-Мастацкая Камуна яднае вакол сябе гурткі сяброў-прыхільнікаў яе літаратурнага напрамку.

28. Працаю кожнага гуртка кіруе бюро гуртка, якое абіраецца агульным сходам сяброў-прыхільнікаў.

## IV. Сродкі аб'яднаньня

29. Сродкі аб'яднаньня складаюцца:

а) з уваходных складак у памеры 50 капеек;

б) з сяброўскае штомесячнае складкі ў памеры 1 проц. штомесячнага літаратурнага і службовага заробку.

*Увага*. Сябры-прыхільнікі плацяць уваходныя і сяброўскія складкі, згодна з пастановамі агульных сходаў гурткоў у кожным паасобным выпадку.

в) з дабраахвотных складак сяброў і прыхільнікаў аб'яднаньня;

г) з прыбыткаў ад выдавецтва і іншых прадпрыемстваў;

д) з субсыдый ад дзяржаўных і грамадзкіх установ, а таксама арганізацый і інш.

30. Выдаткі робяцца згодна з пастановамі Цэнтральнае Рады.

31. Справаздачу Цэнтральная Рада робіць на Ўсебеларускіх Зьездах.

## V. Правы аб'яднаньня

32. Аб'яднаньне карыстаецца ўсімі правамі юрыдычнай асобы.

33. Аб'яднаньне мае штамп і пячатку з надпісам: „Беларуская Літаратурна-Мастацкая Камуна“ і эмблемай арганізацыі.

## VI. Зьліквідаваньне

34. Аб'яднаньне афіцыйна спыняе сваю дзейнасьць паводле пастановы $^3/_4$ агульнага ліку правадзейных сяброў, зацьверджанай Усебеларускім Зьездам аб'яднаньня, які вырашае пытаньне аб перадачы маемасьці аб'яднаньня аналёгічнаму літаратурна-мастацкаму аб'яднаньню ці якой-небудзь беларускай культурна-асьветнай арганізацыі, ці пастановай адпаведнымі органамі ўлады.

Выдавецтва **Беларускай Літаратурна-Мастацкай Камуны**

Адказны рэдактар **Паўлюк Шукайла**

